Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 27 (4571) 9 ліпеня 2010 г.

## У нумары:

«Самыя вялікія сусветныя шэдэўры пабудаваныя на тэме вайны»

Інтэрв'ю з пісьменніцай і даследчыцай літаратуры Лідзіяй Арабей.

Стар. 5

Шпацыр па вуліцы Да сустрэчы

Развагі пасля прачытання кнігі Уладзіміра Васіленкі.

Стар. 6

«Вось мой дом убогі»

Нататкі з хутара, дзе была сядзіба польскага паэта і драматурга Францішка Карпінскага.

Стар. 12

Успамін пра бітву

Да 600-годдзя знакавай падзеі на Грунвальдскім полі.

Стар. 16

На рынку кожны сам па сабе

Раскрываем «сакрэты» выдавецкай кухні.

Дадатак «Кніжны свет»



Сёння, 9 ліпеня, яскравай вечаровай імпрэзай у Летнім амфітэатры афіцыйна, на вышэйшым дзяржаўным узроўні, адкрыецца XIX Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Спрычыніцца да грандыёзнай святочнай падзеі могуць не толькі яе шматлікія прыхільнікі, што знаходзяцца ў горадзе на Дзвіне, а яшчэ і, без перабольшвання, мільёны гледачоў, для якіх Першы канал Беларускага тэлебачання ладзіць трансляцыю ўрачыстай цырымоніі ў жывым эфіры. Пачатак — а 22-й гадзіне. Дарэчы, апроч штодзённых паказаў чарады разнастайных канцэртных праграм, наш галоўны тэлеканал рыхтуе таксама аператыўныя "Дзённікі фестывалю", і ўжо на працягу сённяшняга дня можна ўбачыць чатыры насычаныя інфармацыяй і эмоцыямі рэпартажы з Віцебска, цэнтр якога на дзесяць дзён ператвараецца ў дзівосную васільковую планету. Планету, падпарадкаваную свайму адмысловаму крэатыўнаму часу, законам сваёй невытлумачальнай, мастацкай прыроды.




*Калаж Віктара Калініна*

# Васільковая планета сустракае

Аматары статыстыкі загадзя падлічылі, што ў праграмах Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску-2010" возьмуць удзел больш як 5 тысяч артыстаў. Што ж, лічба цалкам рэальная, бо сёлета свае мастацтва на гасцінных берагах Дзвіны прадставяць салісты і творчыя калектывы з 34 краін. Упершыню за гісторыю існавання васільковай планеты над ёю ўзнімуцца дзяржаўныя сцягі трох дэбютантаў фэсту: Чарнагорыі, Панамы і Кубы. І такія вось лічбы: толькі ў Летнім амфітэатры, апроч іншых 15 залаў і адкрытых пляцовак, мае адбыцца 19 канцэртных праграм. Усяго іх плануецца 70.

Білеты на імпрэзы "Славянскага базару..." пачалі прадаваць 4 чэрвеня. І роўна праз месяц, пра што паведаміў днямі на сталічнай прэс-канферэнцыі першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі, прыкладна 82 працэнты білетаў было ўжо раскуплена (у тым ліку іншагароднімі жыхарамі, пераважна мінчанамі. — Л.І.). Як адзначыў У. Карачэўскі, на арганізацыю і правядзенне сёлетняга фестывалю выдаткавана 2,5 млрд. беларускіх рублёў з рэзервовага фонду Прэзідэнта нашай краіны. А са сродкаў Саюзнай дзяржавы, паводле інфармацыі кіраўніка прадстаўніцтва Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску Сяргея Забалотца, — амаль 25 млн. расійскіх рублёў. Падчас прэс-канферэнцый, што ладзіліся напярэдадні "Славянскага базару...", гаварылася пра тое, што арганізатары імкнуцца да яго максімальнай акупнасці, каб вылучаныя сродкі вярталіся ў бюджэт. Але каб кошты білетаў захоўваліся на мяжы даступнасці для сярэднестатыстычнага гледача і ні ў якім разе не дапускалася эканомія на мастацкім і тэхнічным узроўнях правядзення праграм.

Кожны год Летні амфітэатр уражвае абноўленым аблічнам фестывальнай сцэны. Сёлета яна будзе нагадваць пляцоўку "Еўрабачання" — функцыянальнай трансфармацыяй прасторы, светлавымі вынаходніцтвамі, эфектным выкарыстаннем выяў на сцэнічных экранах. Што да зместу праграм, дык арганізатары фэсту вырашылі не ўносіць радыкальных змен у яго фармат. Адбудуцца канцэрты адкрыцця і закрыцця, традыцыйныя Дні Беларусі, Расіі, Украіны, Масквы, Саюзнай дзяржавы, конкурсы спевакоў у дзвюх узроставых катэгорыях, тэатральныя сустрэчы і кінапраграма; запланавана некалькі выставак. На "Алеі зорак" гэтым разам будзе ўрачыста адкрыта Зорка Уладзіміра Мулявіна. А ў сэрцы васільковай планеты, як заўсёды, разгорнецца "Горад майстроў". Традыцыяй "Славянскага базару ў Віцебску" зрабілася ўручэнне на цырымоніі яго адкрыцця дыпломаў лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Лаўрэатамі за 2009-2010 гады сталі аўтарскія калектывы ў складзе народнага архітэктара Расіі Юрыя Грыгор'ева, вядомых беларускіх скульптараў Льва Гумілеўскага і Сяргея Гумілеўскага; расійскіх скульптараў Юрыя Арэхава і Рыгора Арэхава; народных мастакоў СССР Аляксея Ткачова і Сяргея Ткачова, а таксама народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў. Узнагароды ўручыць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Да 1 жніўня ў Віцебскім мастацкім музеі будзе працаваць выстаўка работ Леаніда Шчамялёва "Маім землякам", якая адкрыецца заўтра.

Таксама заўтра, у Дзень Саюзнай дзяржавы, плануецца традыцыйная сустрэча яе Дзяржсакратара Паўла Барадзіна з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, рытуальнае ўскладанне кветак да Вечнага агню, канцэрт "Дзве сястры", падчас якога будуць уручаныя спецыяльныя дыпломы і прызы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы "За творчае ўвасабленне ідэй дружбы народаў Беларусі і Расіі" ўдзельнікам творчых праграм фестывалю...

Афіцыйны час правядзення Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску-2010" — з 9 па 15 ліпеня. Аднак першы канцэрт "пад знакам васілька", фестывальнай кветкі-эмблемы, адбыўся ўжо ў сераду: з вечаровай сольнай праграмай на сцэне Летняга амфітэатра выступіў улюбёнец беларускай публікі Юрый Антонаў. Учора тут віталі нязгасную зорку еўрапейскай эстрады — Томаса Андэрса. Ды і пасля ўрачыстага закрыцця свята, замоўленага на наступную пятніцу, фестывальная афіша абяцае два суботнія канцэрты: шоу расіяніна Аляксандра Пяскова "Кароль пародыі" і вядомы па мінулых фэстах праект "Зоркі радыё «Шансон» на «Славянскім базары ў Віцебску»"...

А пакуль — пакуль гадзіннік на Віцебскай ратушы адлічвае доўгія імгненні, што засталіся да уверцюры свята, якога многія чакалі цэлы год. Чакалі нездарма, бо васільковая планета парадуе і заўсёднікаў яскравых гучных відовішчаў, і аматараў вытанчаных камерных творчых сустрэч. Бо на афішах — імёны Дзмітрыя Хварастоўскага, Ніно Катамадзе, Івана Кірчука, Раймонда Паулса, Міхаіла Фінберга, Анатоля Ярмоленкі, Віктара Бабарыкіна, Святланы Бень, Анжалікі Агурбаш, Тота Кутуньё, Мікалая Баскава, Таісіі Павалій, Кіма Брэйтбурга, Ані Лорак, Ларысы Долінай, Дзімы Білана… Магчыма, праз год іх пералік папоўніцца адкрыццямі сёлетніх конкурсаў, што пройдуць падчас "Славянскага базару...". Дарэчы, Беларусь на XIX Міжнародным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2010" прадстаўляе гамяльчанін Дзяніс Вяршэнка, студэнт БДУКіМ, а на дзіцячым песенным спаборніцтве, якое пройдзе восьмы раз, — Злата Ларчанка ды Аня Зайцава.

Словам, незалежна ад таго, парадуе нас ліпеньскае надвор'е ці не, бліжэйшы тыдзень чакаецца па-летняму квяцісты і гарачы, багаты на творчыя падзеі, сустрэчы, новыя знаёмствы і радасныя адкрыцці.

Лана ІВАНОВА

## Пункцірам

• Часопіс "Беларуская думка" (№ 6, 2010) упершыню ў Беларусі апублікаваў каментіраваны пераклад польскага сярэдневечнага трактата "De magna strage, ці Пра вялікае пабоішча", прысвечаны Грунвальдскай бітве. Твор быў напісаны, як мяркуецца, каля 1440 года, у трыццатую гадавіну вялікай бітвы.

• У Віцебску адбылася цікавая арт-акцыя: на сцяне аднаго з будынкаў з'явіўся пявялічаны эскіз работы мастака Казіміра Малевіча, створаны ім у 1919 годзе. Роспіс дома зрабілі віцебскія мастакі Алена Чуйкова, Андрэй Духоўнікаў і Аляксандр Вышка.

• У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі праходзіць выстава беларускіх народных ікон з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, што знаходзіцца пад Мінскам. На выставе прадстаўлена 36 ікон XIX — пачатку XX стагоддзя, сабраных у вёсках Заходняга і Усходняга Палесся і Падняпроўя.

• У выдавецтве "Кнігазбор" выйшла кніга выбраных твораў беларускага каталіцкага святара Казіміра Сваяка. 480 старонак ілюстраванага выдання, складзенага і пракаменціраванага Ірынай Багдановіч, змяшчаюць вершы са зборніка "Мая вера", п'есу "Янка Канцавы", драматычную паэму "Купалле", а таксама творы і артыкулы аўтара, што друкаваліся ў заходнебеларускіх перыядычных выданнях 1910 — 1920-х гадоў.

• У выдавецтве "Лімарыус" выйшаў збор твораў аднаго з цікавейшых пісьменнікаў эміграцыі Алеся Салаўя. У яго ўвайшлі не толькі вершы і проза, але і ліставанне з вядомымі літаратарамі, успаміны сучаснікаў. Гэта першая кніга пісьменніка на радзіме.

• Грамадскае аб'яднанне "Беларускі славянскі камітэт" у гонар свайго 90-годдзя ўзнагародзіла юбілейнымі медалямі "100 гадоў славянскаму руху на землях Беларусі" культурных дзеячаў нашай краіны, якія зрабілі ўнёсак у развіццё і ўмацаванне славянскага адзінства. Медалі атрымалі паэт Уладзімір Карызна, музыкант Вальтэр Мнацаканаў, мастакі Уладзімір Уродніч і Мікалай Апіёк, дырыжор Міхаіл Фінберг, прадзюсер Святлана Стацэнка, выканаўцы Анатоль Ярмоленка, Аляксандр Ціхановіч, Ядвіга Паплаўская і іншыя.

• Пабачыла свет унікальнае выданне: у чатырох тамах факсімільна перавыдадзены ўсе 23 акадэмічныя тэрміналагічныя слоўнікі, што выходзілі ў 1920-х гадах, а таксама беларускамоўныя вайсковыя статуты. Выданне выйшла дадаткам да нумара часопіса Arche, прысвечанага беларускай лінгвістыцы 1920-х гадоў.

• У выдавецтве "Адукацыя і выхаванне" ў хуткім часе выйдзе "Беларускі палітычны слоўнік" Святланы Раманавай і Васіля Шынкарова. У ім на беларускай, рускай і англійскай мовах будуць пададзены каля сямі тысяч тэрмінаў і азначэнняў з гісторыі, паліталогіі, дыпламатыі, сацыялогіі, філасофіі, права, асноў ідэалогіі.

• Часопіс перакладной літаратуры "ПрайдзіСвет" абвясціў новы конкурс, а дакладней, проста вырашы ў гэтую летнюю пару падштурхнуць аўтараў да перакладчыцкай актыўнасці. На сайце часопіса для перакладу прапануецца 8 вершаў на розных мовах, пераможцы будуць надрукаваныя ў наступным нумары выдання.

Падрыхтавала
Саша ДОРСКАЯ

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ТУМІЛОВІЧ (Мілановіч)
Жанна Уладзіміраўна
Паэтэса.

Нарадзілася 6 снежня 1965 года ў г. Мінску. Скончыла Беларускі політэхнічны інстытут, атрымаўшы дыплом інжынера-будаўніка. Працавала ў інстытуце "Белпрампраект", у ТАА "Белайк", ТАА "Копас", "Давана", "Тэкас-інд" і інш. Цяпер працуе медрэгістратарам у гісталагічным архіве Гарадскога клінічнага паталагаанатамічнага бюро. Мае паэтычныя публікацыі ў рэспубліканскіх часопісах "Алеся", "Новая Немига литературная", спрабуе сябе ў празаічным жанры. Апавяданні Жанны Туміловіч друкаваліся ў часопісах "Нёман" і "Женском журнале". У 2009 годзе пабачыў свет зборнік вершаў "Презумпция любви".



ЖЭЙМАНТАС Вітаўтас Мечыслававіч
Публіцыст.

Нарадзіўся 13 снежня 1944 года ў г. Вільнюсе. Скончыў эканамічны факультэт Вільнюскага універсітэта. Першыя публікацыі аўтара з'явіліся, калі ён працаваў у складзе студэнцкага будатрада на Горным Алтаі, а ў мясцовых газетах — яго артыкулы на рускай і алтайскай мовах. Пасля было шмат публікацый у літоўскай перыёдыцы. Працаваў карэспандэнтам, намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам у літоўскіх газетах. Аўтар шэрага публіцыстычных кніг: "Правосудие требует" (1984, на англійскай мове — 1986), "Процесс продолжается" (1988), падарожныя эсэ "Волк с колокольчиком" (1992), аналітычныя публікацыі — "Потребительская кооперация Литвы: от первых шагов до 2000 года" (сумесна з В.Вайткусам, 2000), "Окно, открытое в Европу" (на літоўскай і польскай мовах, 2002). Пяру В.Жэймантаса таксама належыць аповесць для дзяцей "Истории Белолесия" (2002, другое выданне — 2004), эсэ "Писатель Яронимас Лауцюс" (2003), "Игналинская легенда" (2004), кніга вершаў і песень "Слово о слове" (2006).

Звесткі пра пісьменнікаў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама пра дзейнасць творчага саюза можна знайсці на інтэрнэт-сайце СПБ: www.oo-spb.by.

# Новы праект

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ неўзабаве распачне выпуск "Бібліятэкі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". Створаны рэдакцыйны савет, які ўзначаліў старшыня сталічнага аддзялення СПБ. Задача новай кніжнай серыі — прадставіць найбольш яркія, высокамастацкія творы самых розных жанраў пісьменнікаў сталічнага аддзялення: паэзію, прозу, драматургію, публіцыстыку, літаратурную крытыку і літаратуразнаўства. Кнігі "Бібліятэкі МГА ГА "СПБ" павінны засведчыць, што ў сучаснай беларускай літаратуры ёсць творы, якія можна назваць значным укладам у айчынную літаратуру. Таму перавага будзе аддавацца таленавітым творам, напісаным за апошнія гады як на беларускай, так і на рускай мовах. Аб'ём кожнага выдання плануецца ў межах 136 — 152 старонак, тыражом 1000 экземпляраў. Выплата ганарару — часткай тыражу.

Цяпер ідзе работа над фарміраваннем плана выпуску і працаўладкаваннем звязаных з выдавецкай арганізацыяй.

Міхась ПАЗНЯКОЎ,
старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ

## Памяць

# Дальва – апошняя «вогненная вёска»

У мемарыяльным комплексе "Дальва" прайшоў мітынг-рэквіем у памяць нявінна забітых у час Вялікай Айчыннай вайны жыхароў вёскі.

19 чэрвеня 1944 года фашысты ўварваліся ў вёску Дальва і зажыва спалілі ўсіх яе жыхароў: 29 дзяцей, 13 жанчын, 2 мужчын… Гэта была апошняя з 628 беларускіх "вогненных вёсак" Вялікай Айчыннай вайны, якія паўтарылі трагічны лёс Хатыні.

Тады пашчасціла выжыць толькі 13-гадоваму юнаку Мікалаю Гірыловічу. Увесь боль той трагедыі выліўся не толькі ў кнігу "Дальва — сястра Хатыні", але і ў пабудову помніка сваёй загінулай "малой радзіме". Пасля вайны Дальва так і не адрадзілася, але засталася — як вёска-помнік.

У 1973 годзе па ініцыятыве Мікалая Гірыловіча тут быў адкрыты мемарыял "Дальва". Ён узводзіўся "на грамадскіх пачатках"— дзяржаўнага фінансавання не было. Моладзь пры падтрымцы ЦК камсамола Беларусі збірала сродкі, стварылі праект мемарыяла і працавалі на яго ўзвядзенні школьнікі, студэнты, вайскоўцы... Дарэчы, сам аўтар мемарыяла ў Дальве, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь скульптар Уладзімір Цэрабун тады быў студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута.

Цяпер Дальва — філіял мемарыяльнага комплексу "Хатынь". Ужо пайшоў з жыцця Мікалай Пятровіч, але памяць Дальвы, радзімы мужа, свята захоўваюць яго ўдава Рыма Ігараўна і дачка Вольга. Жыццё распарадзілася так, што Вольга Мікалаеўна сёння жыве ажно ў Аўстраліі, у Сіднеі. Але штогод у чэрвені яна прыязджае ў Беларусь, каб абавязкова патрапіць на мітынг-рэквіем, які традыцыйна праходзіць у Дальве.

Штогод у чэрвені ля мемарыяла шматлюдна. Так было і сёлета.

Уладзімір ПАДАЛЯК



На здымку: падчас мітынгу-рэквіема.

Фота аўтара

## Перспектывы

# Планы — рэальныя

Не так даўно ў Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі прайшло пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі часопіса "Полымя", на якім абмяркоўваліся планы публікацый на другое паўгоддзе 2010 года, а таксама характар і формы прапаганды і рэкламы часопіса.

Галоўны рэдактар "Полымя" Мікола Мятліцкі зазначыў, што наступныя нумары часопіса будуць змястоўна насычанымі. На старонках гэтага выдання пабачаць свет новыя творы вядомых празаікаў, паэтаў, драматургаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў, у ліку якіх — Юрка Голуб, Ганад Чаркасін, Віктар Гардзей, Віктар Шніп, Галіна Васілеўская, Уладзімір Гніламёдаў, Васіль Старычонак, Міхась Южык. Упершыню будзе апублікавана няскончаная "Грузінская аповесць" Івана Шамякіна.

Намеснік галоўнага рэдактара часопіса Уладзімір Мазго звярнуў увагу прысутных на тое, што для папулярызацыі і прапаганды часопіса калектыў рэдакцыі актыўна ўдзельнічае ў многіх культурных мерапрыемствах, часта сам з'яўляецца іх ініцыятарам. Сустрэчы праводзяцца на розных пляцоўках: у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Доме дружбы, Доме міласэрнасці, у музеях, бібліятэках, ВНУ.

Марыя Захарэвіч, Алесь Савіцкі, Уладзімір Гніламёдаў, Зіновій Прыгодзіч, Іван Саверчанка, Анатоль Зэкаў, Генадзь Пашкоў — члены рэдкалегіі "Полымя" — выказалі ўхвальныя словы з нагоды вяртання часопісных рубрык "Школьны факультатыў", назвалі новыя тэмы праблемнай публіцыстыкі — жыццё сучаснай вёскі і аграгарадкоў, прапанавалі да друку творы рэгіянальных аўтараў.

Марына ВЕСЯЛУХА

## З нагоды

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа праходзяць сустрэчы з рознымі людзьмі, гутаркі на самыя разнастайныя тэмы. Але гэтым разам нават пастаянных наведвальнікаў чакала нечаканасць. "Футбол — не толькі гульня" — так называлася чарговая сустрэча.



# Футбол у Коласавым доме?

"Футбол ды ў Коласавым доме?" — можа здзівіцца сёй-той. А чаму б і не. Асабліва, калі прыняць пад увагу, што віноўнікам урачыстасці быў Анатоль Грэкаў. Больш як 25 гадоў ён працаваў начальнікам аддзела культуры Стаўбцоўскага раёна, як ніхто іншы, надаючы вялікую ўвагу прапагандзе нацыянальнай літаратуры. Перад гэтым Анатоль Васільевіч не адзін год аддаў спорту. Увогуле, праз усё сваё жыццё ён пранёс гэтыя два свае захапленні — футбол і літаратуру.

Да ўсяго ён і заўзяты калекцыянер рознай спартыўнай атрыбутыкі, у чым пераканала выстаўка медалёў, значкоў, вымпелаў, а таксама аўтографаў. А яшчэ, як засведчыла сустрэча, мае шмат сяброў сярод выдатных спартсменаў, некаторыя з якіх разам з "каралём падхвату" 1960-х Эдуардам Зарэмбам наведалі Коласаў дом.

Было вельмі цікава паслухаць іхнія ўспаміны. Адметнымі былі і выступленні тых, хто добра ведае Грэкава: дырэктара музея Зінаіды Камароўскай, літаратараў Генрыха Далідовіча, Міколы Маляўкі, Казіміра Камейшы, Алеся Марціновіча, Уладзіміра Мазго, Навума Гальпяровіча, Міколы Мятліцкага, Сяргея Галоўкі, сына вядомага пісьменніка Леаніда Хадкевіча. Выступіў таксама і калектыў Коласаўскай дзіцячай школы мастацтваў "Святланы".

Раман ІГНАТЧАНКА

Фота Віктара Кавалёва

## Літ-абсягі

# На гісторыю — пільным вокам

У "Кніжным салоне" прайшла прэзентацыя трох кніг Анатоля Бутэвіча: рамана "Каралева не здраджвала каралю", перaклада "Аўтабіяграфіі" Багуслава Радзівіла, зборніка эсэ "На далонях вечнасці", што пабачылі свет адпаведна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", выдавецтвах "Радыёла-плюс", "Кавалер". Гэтыя на першы погляд розныя кнігі аб'яднаны агульнасцю гістарычных падыходаў, звязаны з тэмай гісторыі Беларусі. У кнізе "На далонях вечнасці" сабраны эсэ Анатоля Бутэвіча і Уладзіміра Ягоўдзіка, што калісьці выдаваліся ў межах праекта "Сем цудаў Беларусі".



Як заўважыў Анатоль Бутэвіч, ён доўга не пагаджаўся ўдзельнічаць у ажыццяўленні гэтай цікавай задумы выдавецтва "Кавалер", бо ведаў, што значыць "змагацца з гісторыяй", з вялікімі архіўнымі і кніжнымі стосамі з мэтай разгадаць загадкі і раскрыць таямніцы, схаваныя часам. Тым не менш гэта праца прыносіць карысць не толькі самому аўтару, даследчыку, колькі сучаснай моладзі.

У кнізе "На далонях вечнасці" ёсць і эсэ пра Нясвіж, пра род Радзівілаў, і пра Багуслава Радзівіла, чыю аўтабіяграфію Анатоль Бутэвіч пераклаў з польскай мовы. Перакладчык адзначыў, што няпроста было працаваць над тэкстам аўтабіяграфіі. Для таго, каб дакладна перадаць сэнс шматлікіх тэрмінаў, гістарызмаў, даводзілася некалькі разоў ездзіць у Польшчу па навуковыя кансультацыі.

Захапленне "Сямю цудамі Беларусі" перарасло ў апантанасць часам, які сам Анатоль Іванавіч называе "перыядам ад Крэўскай да Люблінскай уніі". Гэтае захапленне паступова ўвасобілася ў раман "Каралева не здраджвала каралю", у якім распавядаецца пра каханне 17-гадовай беларускай князёўны Соф'і Гальшанскай і 70-гадовага вялікага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы. Згодна з аўтарскай задумай, твор складаецца з дзвюх частак, выдадзена толькі адна з іх — мастацкая. Другая — дакументальная, што ўтрымлівае хроніку падзей таго часу, імёны, гістарычныя з'явы, гарады, яшчэ не апублікавана.

Ці здраджвала каралева Соф'я каралю Ягайлу? — пытанне спрэчнае, і гістарычна дакладны адказ на яго наўрад ці можна адшукаць. Таму аўтар вырашыў паказаць сваё бачанне падзей таго часу і ўклаў яго ў словы рыцара — аднаго з герояў рамана, — якія і далі назву твору.

На прэзентацыі кніг прысутнічалі пісьменнік, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, пісьменнікі Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Ягоўдзік, Навум Гальпяровіч ды іншыя. Ганаровыя госці неадназоразова адзначалі: тое, пра што піша Анатоль Іванавіч, узбагачае наша ўяўленне пра Беларусь, пра тую зямлю, на якой мы жывём, яе гісторыю.

Ганна БАСОРЫНА

На здымку: Анатоль Бутэвіч падпісвае кнігу для маленькага чытача.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Брава, Кацярына!

Вядучую салістку Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Кацярыну Алейнік гэтымі днямі віншуюць з чарговым міжнародным поспехам. Разам са знаным салістам тэатра Канстанцінам Кузняцовым (выступаў у якасці партнёра балерыны) яна ездзіла ў ЗША на Міжнародны конкурс артыстаў балета-2010 (International Ballet Competition, IBC). Кацярына Алейнік заваявала дыплом і адну з васьмі прэстыжных узнагарод гэтага складанага спаборніцтва — прыз Capezio.



Амерыканскі горад Джэксан, штат Місісіпі, раз на чатыры гады пачувае сябе цэнтрам сусветнага балета: з такой перыядычнасцю тут адбываецца International Ballet Competition — Міжнародны конкурс артыстаў балета, першы ў ЗША, заснаваны ў 1978 годзе пад эгідай Міжнароднага тэатральнага інстытута ЮНЕСКА. Гэта адно з найбольш пачэсных творчых спаборніцтваў у свеце, выступленне на якім з'яўляецца значнай кар'ернай прыступкай для артыста — нездарма сёлета на ўдзел у ім было пададзена больш як 300 заявак. У выніку папярэдняга адбору, які праводзіўся на аснове відэазапісаў, журы выбрала 110 удзельнікаў з 35 краін. Яны змагаліся за залаты, срэбны і бронзавы медалі, за спецыяльныя прызы, дыпломы і кантракты.

Для выступлення на I туры Кацярына Алейнік і Канстанцін Кузняцоў абралі класіку — па-дэ-дэ з балета Л. Мінкуса "Дон Кіхот". Нумар для II тура — складаны, высокатэхнічны танец-мадэрн "Крохкі вечны рай" — артысты рыхтавалі са знаным гродзенскім харэографам Дзмітрыем Куракулавым. Дарэчы, гэты нумар публіка прыняла з гарачым захапленнем. У III туры прадстаўнікі Беларусі выканалі па-дэ-дэ з балета П.Чайкоўскага "Спячая прыгажуня" і кампазіцыю шырока вядомага харэографа Раду Паклітару — "Мы танцуем Пергалезі". Выступленне ў дуэце дазволіла Кацярыне Алейнік праз стасункі з партнёрам больш поўна і разнастайна прадэманстраваць свой прафесійны ўзровень, раскрыць артыстычныя магчымасці, паказаць складаныя тэхнічныя элементы (напрыклад, фуэтэ). Канстанцін Кузняцоў, які з'яўляецца не толькі спрактыкаваным танцоўшчыкам, удзельнікам і лаўрэатам розных конкурсаў, але і педагогам — выкладае ў харэаграфічным каледжы, — быў для канкурсанткі добрым дарадцам і настаўнікам.

У тройку лідэраў беларуская балерына не ўвайшла, аднак журы яе запомніла і вылучыла сярод фіналістаў-дыпламантаў, адзначыўшы прэстыжным прызам. Дарэчы, Кацярына Алейнік станавілася лаўрэатам і дыпламантам на міжнародных конкурсах артыстаў балета ў Маскве і ў Сеуле, у Балгарыі, Венгрыі, Кітаі, Украіне.

Бліжэйшыя планы? Беларуская зорка запрошана выступіць у партыі Кітры (балет "Дон Кіхот") на сцэне Вялікага тэатра Літвы...

Лана ІВАНОВА

На здымку: па-дэ-дэ Кацярыны Алейнік і Канстанціна Кузняцова.

Фота з сайта тэатра

## Повязі

# Цеплыня Балашыхі

15 гадоў у гарадской акрузе Балашыха Маскоўскай вобласці праводзіцца міжнародны форум "Дні славянскага пісьменства і культуры" ў гонар асветнікаў, святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы. У такія дні Падмаскоўе прымае пасланцаў з самых далёкіх куткоў Расійскай Федэрацыі, гасцей з далёкага і блізкага замежжа (Балгарыі, Сербіі, Малдовы, Украіны, Беларусі). Кожны знаходзіць тут цёплы прыём, кожны рады падзяліцца сваім мастацтвам, пакінуць тут часцінку свайго сэрца.



Міжнародны конкурс харавой і вакальнай музыкі ладзіцца тут раз на два гады, доўжыцца некалькі дзён і збірае для ўдзелу харавыя, вакальныя калектывы, салістаў-вакалістаў устаноў сярэдняга і вышэйшага прафесійнага звяна адукацыі, а таксама прафесійныя калектывы і салістаў са славянскіх краін.

Адкрыццё міжнароднага форуму праходзіць на Спеўным полі перад храмам св. кн. Аляксандра Неўскага. Конкурсныя праслухоўванні харавых і вакальных калектываў, салістаў-вакалістаў адбываюцца ў Дзіцячай школе мастацтваў № 1, якая носіць імя вялікага рускага кампазітара Георгія Свірыдава. Па рэкамендацыі народнага артыста СССР і Беларусі, старшыні Беларускага саюза кампазітараў Ігара Лучанка ў 2010 годзе ў конкурсе ўдзельнічалі член БСК Аліна Безенсон, салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Галіна Саколік і студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ірына Лой. У праграму конкурснага праслухоўвання вакалістаў былі ўключаны вакальныя цыклы А. Безенсон "У свеце жывёл" на вершы Юрыя Сапажкова ды "Імгненні" на вершы Таццяны Мушынскай. Вакалістам акампаніравала аўтар музыкі.

Кампетэнтнае журы высока ацаніла творы беларускага кампазітара Аліны Безенсон і ўзровень выканання Галіны Саколік ды Ірыны Лой. У выніку Г. Саколік атрымала званне лаўрэата міжнароднага конкурсу (2 места ў 3-яй узроставай катэгорыі), І. Лой — званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу (3 места ў 2-ой узроставай катэгорыі). З Беларусі таксама прыехаў канцэртны хор Магілёўскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў (кіраўнік Вікторыя Галуза), які стаў лаўрэатам 1-ай ступені міжнароднага конкурсу. У праграме калектыву прагучаў твор беларускага кампазітара Андрэя Мдзівані "Гуселькі" на народныя словы.

Асабліва прыемна, што вакальны ансамбль пры ДШМ імя Г.В. Свірыдава выканаў твор Ігара Лучанка "Мой родны кут" на вершы Якуба Коласа.

Алена ЧЫЖ

На здымку: Ірына Лой, Аліна Безенсон, Галіна Саколік.

## 3-пад пяра

"Гэты дзень, мы набліжалі, як маглі..." Такую назву мела выстаўка жывапісу, на якой былі прадстаўлены работы гомельскіх аўтараў, членаў Беларускага саюза мастакоў, прысвечаная 65-й гадавіне Перамогі. На працягу двух дзён яна праходзіла ў фае гарадскога цэнтра культуры і спорту "Меліяратар" і прыцягнула ўвагу хайнічан. Найбольш часта яны спыняліся ля палотнаў, створаных бацькам і сынам — Робертам і Віктарам Ландарскімі, карціны якіх перадаюць трагедыю вайны. Як сімвал сённяшняга светлага дня, на выстаўцы прадстаўлены шэраг нацюрмортаў і пано.

Клаўдзія БОСАК

На сцэне Дома літаратара адбылася тэатралізаваная імпрэза для дзяцей "Мішутка запрашае сяброў", арганізаваная Саюзам пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыяй дзіцячага часопіса "Мишутка". Выхаванцы гарадскіх аздараўляльных летнікаў з захапленнем адгадвалі загадкі, рашалі галаваломкі, выконвалі вясёлыя песенькі і перацягвалі канат, імкнучыся атрымаць чароўны ключык ад куфэрка з часопісамі "Мишутка". У выніку нумары папулярнага забаўляльнага часопіса атрымалі ўсе юныя гледачы і іх педагогі.

Уладзімір КУЛІЧЭНКА

У Смаленску прайшлі святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Твардоўскага. На свята прыехалі вядомыя расійскія паэты і пісьменнікі Валерый Ганічаў, Святлана Васіленка, крытык, літаратуразнаўца Андрэй Туркоў, паэты Канстанцін Скварцоў, Анатоль Папара ды іншыя. Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі на свяце прысутнічаў паэт з Віцебшчыны Канстанцін Нілаў, які чытаў вершы, прысвечаныя братэрству славянскіх народаў. У Смаленскім драматычным тэатры адбыўся ўрачысты вечар з удзелам высокіх афіцыйных асобаў і вядомых пісьменнікаў. Святкаванне праходзіла і на малой радзіме А. Твардоўскага ў горадзе Пачынок, а таксама ў музеі-сядзібе пісьменніка ў Загор'і.

Марыя РУДОВІЧ

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбыўся першы музейны hand-made фестываль "Поруч...". Праграма пачалася прэзентацыяй выстаўкі музейных прадметаў hand-made з фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча. Наведвальнікі змаглі ўбачыць шафу, зробленую рукамі А. Я. Багдановіча, бацькі паэта, саматканыя, вышытыя ручнікі і іншыя рэчы, якія належалі продкам і сябрам М. Багдановіча. Наступная частка мерапрыемства прадугледжвала выстаўку аўтарскіх работ, якіх было вельмі многа — гэта і ўпрыгожанне з поўсці, бісеру, скуры, гліны і нават з гарбуза і іншых матэрыялаў, рэчы, аздобленыя вышыўкай рознымі спосабамі (крыжыкам, стужкай, валяннем), а таксама лялькі з тканіны, воўны і парцаляну, арыгамі і роспіс па шкле... Акрамя таго, праводзіліся майстар-класы. Кожны мог уласнымі рукамі зрабіць штонебудзь незвычайнае: напрыклад, распісаць вазу ці кубак, зваляць з поўсці фігурку ката, пацеркі для караляў.

Таццяна ЛАБАДА

# На курскай зямлі салаўінай…

## Нататкі з выязнога пленума Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі

### Пралог

Адгрымелі майскія салюты, прайшлі парады ў Маскве і Мінску, прысвечаныя 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбыліся незабыўныя вечары і сустрэчы з літаратарамі. Многім па ініцыятыве старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца дапамаглі выдаць і перавыдаць кнігі. І як працяг свята — ліст з Масквы.

Да Мікалая Чаргінца звяртаўся старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі, старшыня Сусветнага Рускага народнага сабору Валерый Ганічаў: "Па ўжо ўстойлівай традыцыі ў апошняе дзесяцігоддзе на тэрыторыі Цэнтральнай Федэральнай акругі РФ штогод праходзяць Дні літаратуры і мастацтва славянскіх народаў. У гэтым годзе мы праводзім Дні літаратуры і мастацтва "Нам дороги эти позабыть нельзя…" на свяшчэннай Курскай зямлі… якая дала нашай культуры ў XX стагоддзі імёны Яўгенія Носава і Канстанціна Вераб'ёва, Георгія Свірыдава і Вячаслава Клыкава… Знакавай падзеяй Дзён расійскай літаратуры і мастацтва ў Курскай вобласці будзе правядзенне выязнога пленума Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі…".

Не буду распавядаць, як фарміравалася дэлегацыя, падбіралі кнігі для бібліятэк і ўніверсітэта Курска, рыхтавалі падарункі.

"З якой радасцю паехаў бы я, але 850 вёрст для 85-гадовага чалавека не жартачкі, прывязіце на памяць хоць каменьчык з гэтай святой зямлі", — сказаў ветэран вайны, наш слынны празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алесь Савіцкі, якому павінны былі ўручаць у Курску прэстыжную прэмію "Прохараўскае поле" за раман "Лясная прыстань".

І вось урэшце наступіў дзень ад'езду. Грузім кнігі, падарункі, рэчы ў мікраўтобус. Мікалай Чаргінец усміхаецца: "Ні пуха, ні пер'я!".

### Дарога, дарога…

З шасці дэлегатаў чацвярых я ведаю даўным-даўно. Здаецца, вечнасць, хоць яны і сёння ў росквіце жыццёвых і творчых сіл. Не ўяўляю нашай літаратуры без іх кніг, зрэшты, як і Саюза пісьменнікаў маёй Беларусі. Кожны з іх — асоба!

Кіраўнік нашай дэлегацыі — першы сакратар СПБ, лаўрэат Дзяржаўнай і літаратурных прэмій і шматлікіх іншых узнагарод Генадзь Пашкоў. Я памятаю, як мы паступалі на журфак БДУ, пасля тры гады жылі ў адным пакоі знакамітага інтэрната на Паркавай, 9, насупраць Палаца спорту.

Генадзь працаваў на рэспубліканскім радыё, пасля па сутнасці кіраваў часопісам "Полымя", хоць і быў намеснікам галоўнага рэдактара. Шмат гадоў быў галоўным рэдактарам Беларускай Энцыклапедыі, якую раней узначальвалі народныя пісьменнікі Беларусі, Героі Сацыялістычнай Працы Пятрусь Броўка і Іван Шамякін.

Яшчэ адзін наш дэлегат — Казімір Камейша. Зямляк Якуба Коласа наўздзіў рана праклаў дарогу на Парнас. Яго ахвотна друкавалі ў беларускіх часопісах і газетах, перакладалі на іншыя мовы. У Маскве, дзе мне выпаў гонар працаваць у ваеннай газеце, наш бібліятэкар спытала, ці ведаю я такога паэта Казіміра Камейшу. Я не мог утрымацца, каб не працытаваць гумарыстычныя радкі майго слыннага земляка Кандрата Крапівы:

Я не горшы ад Рагойшы,
Я не меншы ад Камейшы,
А прабіцца не ўдаецца
Ні ў Саюз, ні ў выдавецтва.

— Пяць гадоў таму ён служыў у нас, — сказала бібліятэкар, — і сам прыгожы, і паэзія яго прыгожая. Вось часопіс "Юность" з вершамі Казіміра, берагу, як зрэнку вока.

Тады надрукавацца маладому паэту ў "Юности" было, бадай, цяжэй, чым драмадэру пралезці праз вушка іголкі.

Раней чым пазнаёміцца з Міхасём Пазняковым, я сотні разоў браў у рукі яго "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы", выдадзены ўпершыню ў нашай краіне. Каб падрыхтаваць да друку, а пасля падпісаць у свет такую тытанічную працу, патрэбны дзесяцігоддзі. Застаецца здзіўляцца, як тады яшчэ маладому аўтару і навукоўцу ўдалося ажыццявіць сваю мэту. Слоўнік убачыў свет больш як дваццаць гадоў таму. Сёння ён бібліяграфічная рэдкасць. Аўтар нядаўна падрыхтаваў да друку ўжо двухтомнік слоўніка эпітэтаў. Буду з нецярпеннем чакаць яго выдання.

Сёння Пазнякоў узначальвае Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Клопатаў — мора. Прыём новых членаў у саюз, сустрэчы з чытачамі горада, дапамога ветэранам, віншаванні юбіляраў…

Здавалася б, паэзія і кар'ера — рэчы несумяшчальныя. Але гэта толькі на першы погляд. Рыгор Сакалоўскі — палкоўнік у адстаўцы. Быў галоўным рэдактарам газеты Беларускай ваеннай акругі "Во славу Родины". І зараз у яго ажно дзве адказныя пасады: старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў і першы намеснік старшыні Беларускага саюза журналістаў.

Украінскі юнак на ўсё жыццё звязаў свой лёс з Беларуссю.

Я ні разу не бачыў Сакалоўскага маркотным. Відаць, ён народжаны радаваць людзей, сеяць у іх душах цеплыню, а не сум-раздрай. Гэта яшчэ заўважыў Іван Шамякін у прадмове да кнігі паэзіі Рыгора Сакалоўскага "Строки любви".

Цяпер колькі слоў пра сябе: на вялікі жаль, я і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Пісаў вершы, пішу казкі, прыгодніцкую прозу, нарысы… Усё ніяк не магу, хоць даўно пара, засяродзіцца на адным з жанраў. А чаго дабіўся — не мне меркаваць, хоць узнагародамі і ўвагай чытачоў не абдзелены.

Пра старэйшага нашага калегу Анатоля Смалянку ведаю



Хлебам-соллю сустракалі беларусаў на курскай зямлі, у пасёлку Понары.

толькі, што ён, як і Сакалоўскі, палкоўнік запасу. Не бяда, дарога доўгая, пазнаёмімся.

…Застаўся за спінай Магілёў, праехалі Крычаў, ўзбіліся на латаны-пералатаны асфальт Браншчыны. Да Курска яшчэ сотні вёрст.

— Мы — хлопцы жывучыя, даедзем! — пажартаваў хтосьці з дэлегатаў, здаецца, Казімір Камейша.

Прыехалі апоўначы. Нам уручылі падарункі: цудоўны фотаальбом пра Курскую вобласць "Земля, воспетая в былинах" і пяцітомнік класіка рускай літаратуры, перакладзенага на многія мовы свету, Героя Сацыялістычнай Працы, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Яўгена Носава.

### Вянок, што сплялі славяне, ніколі не завяне

Пленум адкрыў старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў. У прэзідыуме вядомыя літаратары: удзельнік вайны, амаль дзевяностагадовы Аляксандр Харытаноўскі, наш Генадзь Пашкоў, яго цёзка Генадзь Іваноў, Аляксандр Макараў, Уладзімір Праскурын, Сяргей Кацькала, Міхаіл Грэбнеў; уладыка Герман, губернатар Курскай вобласці Аляксандр Міхайлаў…



Старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў з членамі дэлегацыі СПБ.

— Саюз духоўны між нашымі народамі даўно аформлены, — гаварыў Валерый Ганічаў, — яго не раздзяліць, не разабраць па цаглінках: о цэ ваша, о цэ наша. Мы правілі не так даўно аб'яднаны пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі. Гэта наша другая сустрэча. На гэты раз на святой курскай зямлі, дзе зламалі фашысту хрыбет. І нікому не дадзена зняславіць нашу Перамогу.

Ганічаў называў празвішчы паэтаў і празаікаў, якія пісалі пра вайну сумленна, як Аляксандр Твардоўскі, стагоддзе якога будзем хутка адзначаць, як яшчэ адзін смалянін Міхаіл Ісакоўскі, адзначаны за песні яшчэ ў сорак трэцім годзе Дзяржаўнай прэміяй, ці Барыс Гарбатаў, або беларускі пісьменнік-партызан, воін Алесь Савіцкі.

Горача, палка гаварыў Ганічаў пра трывалае сяброўства нашых народаў, пра будучыя сустрэчы ў Смаленску, на Урале, магчыма, Брэсце.

Пад апладысменты дэлегатаў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў уручыў кіраўніку вобласці, вядомым літаратарам Расіі ганаровыя граматы Саюза пісьменнікаў Беларусі, выявы берагіні зямлі беларускай і славянскай Еўфрасінні Полацкай.

### Зберажом прыгажосць перамогі

Пленум благаславіў уладыка Герман. Губернатар Курскай вобласці Аляксандр Міхайлаў расказаў пра поспехі свайго рэгіёна. Мясцовая ўлада робіць і надалей будзе рабіць усё магчымае, каб маральна і матэрыяльна падтрымліваць паэтаў, празаікаў, публіцыстаў. Яны атрымліваюць штомесячныя даплаты да заробку і пенсіі, пастаянна аказваецца матэрыяльная дапамога, выдаюцца кнігі, адных прэмій семнаццаць (!) намінацый; толькі што пабудаваны, гасцінна расчыніў дзверы абласны Дом літаратара, ёсць літаратурны музей (на 8 залаў), васемсот бібліятэк, дзе дастойнае месца займаюць кнігі землякоў. Праводзяцца год тэатра, кіно. Рыхтуецца закон "Аб падтрымцы творчых саюзаў". Міжволі пазайздросціш куранам.

Пераказаць усе выступленні немагчыма. Ветэран вайны Харытаноўскі усхвалявана гаварыў пра негатыўны ўплыў на моладзь тэлебачання, пра псеўдалітаратараў, іх варварскае стаўленне да жанчыны.

Запомніліся выступленні маіх калег, галоўнага рэдактара часопіса "Север" з Карэліі Алены Пеціляйнен і галоўнага рэдактара часопіса "Славянин" з Харкава Леаніда Мачуліна. Іх ідэі, як і ўсіх сумленных літаратараў, сеяць разумнае, добрае, вечнае, мацаваць дружбу народаў.

Пры канцы пленума аднагалосна прынялі зварот да суайчыннікаў. Ён прасякнуты хваляваннем за будучы лёс роднай зямлі.

"Мы сёння глядзім не проста ў працяг вялікай дарогі, палітай крывёй і потам, вымашчанай душэўным болем, любоўю і малітвай, дарогі, якая пераможна вяла нашы войскі праз Беларусь і Украіну, а там і да Берліна, вяла да Вялікай Перамогі, — гаворыцца ў звароце. — Мы глядзім сёння з той далечыні ў чалавечыя вочы Альхаваткі і Понараў, Абаяні і Карочы. Сёння яны ўжо легенда.

"Трэцяя сусветная пачалася ўжо", — прадбачліва сказаў у сямідзесятыя гады мінулага стагоддзя рускі крытык Юрый Селязнёў. Наша "трэцяя сусветная" ў тым, каб зберагчы легендарныя паданні Другой сусветнай — і яшчэ запаветней — Вялікай Айчыннай. Свяшчэннай, Народнай.

…У майскія пераможныя дні бессаромна адсутнічала імя Аляксандра Твардоўскага, чыё стагоддзе мы будзем адзначаць у бліжэйшы час. Ці не таму, што Васіль Цёркін занадта пільна глядзіць у вочы нашчадкам пераможцаў. Занадта сумленны. Занадта прамы. Занадта просты.

…Пісьменнікі Расіі, Беларусі, Украіны ўпэўненыя ў тым, што літаратура Вялікай Айчыннай вайны павінна стаць абавязковай і важкай часткай праграмнага курсу ў сярэдняй і вышэйшай школе.

Няхай жа наша сустрэча забярэ ў гэтыя цяжкія дні лепшыя сілы, лепшыя думкі і пачуцці для таго, каб легенда і легендарная слава савецкіх народаў, якія перамаглі фашызм, прарастала ў нашых дзецях і ўнуках верай, гонарам і годнасцю.

3 чэрвеня 2010 года, г. Курск".

### Сустрэчы, сустрэчы…

Вольнага часу у нас амаль не было. Наведалі Мемарыял памяці загінулых у Вялікай Айчыннай вайне. Усклалі кветкі.

Наведалі магілы, помнікі Носаву і Вераб'ёву. Як не ўспомніць цудоўны ліст Васіля Быкава, адрасаваны Яўгену Іванавічу.

"Дарагі Жэня! — пісаў франтавік франтавіку, сусветна вядомы літаратар не менш вядомаму. — На жаль, са спазненнем прачытаў Вашу "Санату". Зачараваны і здзіўлены Вашым талентам… Шкадую, што не напісаў пра Вас пасля "Чырвонага воіна перамогі". Вы цудоўны майстра літаратуры, выдатны яе працаўнік, спадзяюся, я гавару гэта не першы, беражыце сябе і свой талент".

І вось ужо, як ні крыўдна, няма ні Носава, ні Быкава.

Пасля дэлегаты з'езда раз'ехаліся па гарадах і раёнах вобласці. Адправіліся ў Жалезнагорск, Курчатаў, Льгоў, Рыльск, Мядзвенск.

Мы з Анатолем Смалянкам ехалі ў знакамітыя Понары.

Зямля там раздзелена на паі. Яе здаюць многія бабулькі і дзяды ў арэнду. Часта за капейкі. Фермеры заніжаюць ураджайнасць. Не хапае грошай на абнаўленне тэхнікі, мінеральныя тукі. Беларусам, якія не разагналі калектыўныя гаспадаркі, па-добраму зайздросціць. Малавата сродкаў на рамонт школ, на дарогі, нават райбальніца размешчана ў звышсціплым старым будынку.

Слухаю курскага пісьменніка Давыдкова. Віктар — чалавек апантаны, аўтар працы "Аналіз Курскай бітвы". Ён прысвяціў жыццё збору матэрыялаў, пешшу прайшоў усе дарогі, дзе гула ў тыя дні вайна.

…Пазнаёміўся з мясцовым паэтам Аляксеем Шыцікавым, цудоўным майстрам слова.

Нас цёпла сустракалі і ў школах. Знайшліся землякі. Распытвалі пра жыццё-быццё ў Беларусі.

…Перад ад'ездам нас, беларусаў, нечакана акружылі дзесяткі дэлегатаў пленума. Падышлі Ганічаў, Іваноў, Казінцаў, Грэбнеў… Аркестр грымнуў "Бывайце здаровы, жывіце багата…". Жадалі добрай дарогі. Зноў і зноў прасілі перадаць прывітанне Мікалаю Чаргінцу, іншым літаратарам. Было агульнае пажаданне: не забываць пра Курск. Не ведаю, як мае калегі, але свята ад тых сустрэч застанецца ў маім сэрцы назаўсёды.

Васіль ШЫРКО,
галоўны рэдактар часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі "Белая вежа"
Мінск — Курск — Мінск.
Фота Анатоля Смалянкі



# Лідзія АРАБЕЙ:

# «Самыя вялікія сусветныя шэдэўры пабудаваныя на тэме вайны»

"Ці магла падумаць Цётка, Алаіза Пашкевіч, што нейкая жанчына, якая народзіцца праз шмат гадоў пасля яе смерці, так блізка прыме да сэрца яе лёс, яе працу, яе адданасць роднаму краю, што ўсё жыццё будзе хадзіць па яе слядах, па крупіцах збіраць факты яе біяграфіі і пісаць пра яе кнігу?" – разважае ў сваіх абразках у кнізе "Белае поле" Лідзія Арабей. Аўтарка некалькіх раманаў, аповесцей, кніг для дзяцей, шматлікіх апавяданняў, у гісторыю літаратуры яна ўвайшла галоўным чынам як даследчыца жыцця і творчасці паэтэсы-адраджэнкі.

Карэспандэнт "ЛіМа" павіншавала Лідзію Львоўну з 85-гадовым юбілеем, а заадно папрасіла прыгадаць самыя адметныя ўспаміны з доўгага творчага жыцця.

— Лідзія Львоўна, хацелася б пачаць размову са згадак пра дзяцінства. Які ваш самы моцны дзіцячы ўспамін?

— Мы з бацькамі жылі на ўскраіне, і побач, за горадам, была вялікая канава, а цераз яе ляжала кладка. Мне было недзе каля пяці, і я вырашыла па гэтай кладцы перайсці на другі бок, паслізнулася і звалілася ў глыбокі роў. Дзяўчынка, з якой я гуляла, спужалася і ўцякла. А я доўга караскалася, каб вылезці з гэтага рова. І неяк урэшце вылезла. Гэта не толькі ўспамін, але і сімвалічны выпадак. З таго часу я пачала разумець, што калі ў цябе бяда, то караскайся сама, ніхто табе не дапаможа.

— Беларуская мова з вамі з маленства?

— Так, я чыстая беларуска, нарадзілася ў Нізку, у гэтай знакамітай вёсцы, адкуль родам Кандрат Крапіва і Паўлюк Трус. Таму мова прыйшла да мяне арганічна.

— Ваша юнацтва прыпала на ваенныя гады. Як вы думаеце, ці не вычарпаная ўжо тэма Вялікай Айчыннай у нашай літаратуры? Ці трэба сучасным аўтарам пісаць творы пра вайну?

— Я не была ні на фронце, ні ў партызанах. Таму пісала пра тое, што памятала і бачыла: як цяжка жылося ў час акупацыі, як пакутавалі простыя людзі. Сёння многія пытаюцца: як лепш пісаць пра вайну, ці паказваць толькі гераізм? Зразумела, гераізм таксама трэба адлюстроўваць, але калі на ім зацыклівацца, то гэта рамантызуе вайну. Акрамя таго, у сённяшніх творах пра ваенныя часы шмат збітых вобразаў, клішэ. Але пра вайну пісаць трэба. Самыя вялікія сусветныя шэдэўры ў жывапісе, літаратуры, музыцы пабудаваныя на тэме вайны, без гэтага мастацтва збяднее.

Раней ад пісьменнікаў патрабавалася толькі адна лінія — народ, гераізм, рэспубліка-партызанка. Таму на Быкава, які зірнуў на вайну іншым поглядам, страшна абрынулася крытыка. Даходзіла да плётак. Памятаю, калі працавала ў "Полымі", прыйшоў у рэдакцыю адзін былы афіцэр і стаў казаць: "А што ваш Быкаў? Ён жа быў у палоне!". Як я на яго навалілася тады! У той жа час ж у Расіі з'явіліся Гросман, Някрасаў, якія хоць трошкі праўды пачалі казаць. Таго ж Фадзеева, які напісаў "Молодую гвардию" — патрыятычны твор, сталі крытыкаваць, што ён не паказаў кіруючую ролю партыі. І ён сядзеў, перапісваў, псаваў ужо зробленае.

— У даваенныя гады, у часы сталінскіх рэпрэсій, ці адчувалі вы атмасферу страху навокал?

— Я асабліва не адчувала, бо ў той час была яшчэ дзіця. Хаця ў нашай сям'і двое дзядзькоў былі рэпрэсіраваны. Адзін быў такі шчыры камуніст. А другі — звычайны селянін, можа, дзе сказануў што, а, можа, проста была разнарадка нейкая. Хоць я была дзіця, але разумела, што яны ні ў чым не вінаватыя.

— А пасля вайны на вашых вачах разгортваліся такія трагічныя гісторыі?

— Нешта не магу прыгадаць. Памятаю, як пасля пачалі вяртацца Грахоўскі, Пальчэўскі, Скрыган. Іх стараліся ўжо ўладкаваць неяк. На чале Саюза пісьменнікаў стаяў тады Пятрусь Броўка, і цяпер разумею, што ён быў прыстойны чалавек, і думаю, як яму было крыўдна, калі ў гады адлігі моладзь падымалася, яго скідала, хацела нейкіх новых людзей, а потым тыя новыя праявілі сябе зусім не лепшым чынам.

— Сёння часта падымаюць на паверхню творы вядомых паэтаў, прысвечаныя партыі, камунізму. Ці можна цяпер кагосьці гэтым папракаць?

— Дык і Купала пісаў вершы, прысвечаныя Сталіну. Гэта ж было нейкае ачмурэнне, пісьменнікам трэба было час ад часу "кінуць костку" ўладзе, таму што быў такі час, людзі сядзелі з вузелкамі і чакалі, калі іх арыштуюць. Так што за гэта, па-мойму, крытыкаваць нельга. Усе дагаджалі.



Крыжык, падораны Лідзіі Арабей роднай сястрой Цёткі Каралінай Пашкевіч.

— У вашай біяграфіі напісана, што вы пачалі пісаць адразу пасля заканчэння вайны. Памятаеце свой першы твор?



Якуб Колас і Лідзія Арабей. Здымак зроблены ў 1945 годзе Міхасём Лыньковым.

— Калі вызвалілі Шчучын, то нашу сям'ю ведалі як партызанскую. Маці майго мужа (а я ж вельмі рана выйшла замуж, Арабей — гэта якраз маё прозвішча ў замужжы) паставілі рэдактарам раённай газеты, і на гэтай эйфарыі вызвалення я напісала і надрукавала там некалькі вершаў. Але я не лічу гэта пачаткам творчасці. Я скончыла універсітэт і аспірантуру, вывучала жыццё і творчасць Цёткі, і толькі пасля ў мяне пачалі з'яўляцца аповесці, апавяданні, раманы, яны друкаваліся на рускай, польскай, літоўскай, чэшскай мовах.

— Было адчуванне, што вы папулярная пісьменніца? Літаратура ж была раней прыбытковым заняткам.

— Абсалютна не было! Ды і цяпер мне нават дзіўна чуць, што ёсць чытачы, якія пра мяне ведаюць. І такія добрыя мне пісьмы дасылаюць! Тады я думаю, што, можа, недарэмна пражыла жыццё.

А наконт прыбытку, раней было Бюро прапаганды, і многія пісьменнікі, звычайна якраз не самыя лепшыя, з гэтага рабілі бізнес, ездзілі, выступалі. Я магу сказаць з чыстым сумленнем, што я ад Бюро прапаганды не ездзіла ні разу.

— Тое, што ў вайну вы жылі ў Шчучыне, недалёка ад радзімы Цёткі, неяк прадвызначыла ваш выбар асобы для навуковых даследаванняў?

— Абсалютна не. У той час я Шчучын і радзіму Цёткі зусім не звязвала, гэта супадзенне. Жыццё скіроўвае нас па сваіх сцежках і некуды прыводзіць.

Калі я пачала працаваць над творчасцю Цёткі, былі вядомыя толькі некалькі яе вершаў і вельмі блытаныя факты біяграфіі. Я добра памятаю сваю першую вандроўку на яе радзіму. Гэта быў 1952 год. У кніжцы было напісана, што яна нарадзілася ў вёсцы Высокі Двор, але мясцовыя людзі сказалі, што такой вёскі тут няма, яны паказалі мне вёску Стары Двор, дзе знаходзіцца магіла паэтэсы.

— Ці ўдалося вам расшукаць сваякоў Цёткі?

— Так, я ліставалася з адным сваяком Алаізы Пашкевіч. Ён прыехаў да мяне ў Мінск, прывёз фотаздымкі Цёткі і яе сям'і. А пасля расправёў, што жывая яшчэ родная сястра паэтэсы. І праз некаторы час мы разам паехалі да яе ў польскую вёсачку Франін каля Лодзі. Караліне Пашкевіч было тады 94 гады. Яна здымала пакойчык у вясковым доме на мансардзе. Я ўразілася: няўжо пані Караліна кожны дзень па гэтай лесвіцы ходзіць туды на гарышча? Гаспадыня адказала: так, і вугаль, і ваду сабе носіць. Сястра Цёткі падарыла мне гэты крыжык, што цяпер над маім сталом, яна сказала, што ён вісеў яшчэ над ложкам маці Цёткі. Уяўляеце, колькі яму гадоў? 150, як мінімум.

— Калі вы даведваліся больш пра біяграфію Алаізы Пашкевіч, пра яе характар, вам не здавалася, што яна блізкая вам у нейкіх сваіх асабістых рысах?

— Я не сказала б. У Цёткі была пляменніца Фэля Пашкевіч, якая ў час вайны ратавала людзей, і яе забілі бандыты. Дарэчы, яна пахаваная ў Старым Дварэ, побач з Цёткай. Дык вось яна была падобная характарам да Алаізы.

Цётка была вельмі энергічная, адданая беларускасці, свайму краю. Акрамя таго, у яе была медыцынская адукацыя, яна працавала ў лячэбніцы ў Новавілейцы. Дапамагала хворым, арганізоўвала гурткі падчас рэвалюцыі 1905 года, на мітынгах выступала. Такая была, ведаеце, парывістая.

— Вы працавалі ў часопісе "Полымя", у выдавецтве "Беларусь". Якія самыя знакавыя людзі вам там сустракаліся?

— Знакавыя людзі сустрэліся мне, калі я працавала ў "Вожыку". Гэта былі 1945 — 1946 гады, я была зусім дзяўчынкай, уладкавалася туды тэхнічным сакратаром. Там працавалі Максім Танк, Андрэй Макаёнак, Янка Брыль. Яны запомніліся мне як людзі з гумарам. Талент праяўляўся ва ўсім — і ў размовах, якія яны вялі, і ў працы. Брыль тады быў зусім малады пісьменнік, Макаёнак запомніўся вельмі тэмпераментным, а ў Танку захоўвалася такая гжэчнасць, ведаеце, можа, таму што ён з Заходняй Беларусі, там людзі інакш выхоўваліся.

— Бачу ў рамцы фотаздымак, на якім вы побач з Якубам Коласам. Пры якіх абставінах ён быў зроблены?

— Калі я прыехала са Шчучына ў Мінск, мне трэба было ўладкавацца на работу. І я ўжо цяпер не памятаю якім чынам, але мяне ўзяў сакратаром Міхась Лынькоў. Ён тады быў старшынёй Саюза пісьменнікаў. І асабістыя пакоі, і працоўны кабінет у яго былі ў адной кватэры. Да яго туды прыходзілі знакамітыя людзі, нават Твардоўскі, якога я тады пабачыла ўпершыню, а таксама Эдзі Агняцвет, жонка Бядулі, удава Купалы. Завітаў аднойчы Якуб Колас. А ў Лынькова была тады страсць да фатаграфавання. Ён і кажа Коласу: "Садзіцеся, дзядзька, я вас сфатаграфую". А Якуб Колас адказвае: "А ты мяне сфатаграфуй з гэтай дзяўчынай", — і пасадзіў мяне побач з сабою. Вось такая гістарычная атрымалася фатаграфія. А потым Якуб Колас сказаў: "Няхай яна да мяне прыйдзе, папрацуе з архівам". І я тады некаторы час працавала ў Коласа, але была вельмі маладая. Што я магла зрабіць? Я нават не разумела, да якога скарба дапушчаная.

— А ці былі вы знаёмыя з Караткевічам?

— Была. Ён нават сказаў пра мяне калісьці: "Лидия Львовна любит всех ровно". Ён на мяне трохі крыўдзіўся, бо некалі прыносіў у выдавецтва свой раман, я там зрабіла заўвагі, а ў нас людзі вельмі не любяць, калі іх крытыкуюць, я і сама не люблю.

— Што з вашай творчасці для вас сёння самае дарагое?

— Цяжка сказаць. Але мяне здзіўляе вось што: у мяне ж некалькі раманаў, шмат аповесцей і апавяданняў, а ўсе выданні цяпер друкуюць мае карацелькі, абразкі. Так што "нам не дано предугадать, как слово наше отзовётся".

Саша ДОРСКАЯ

Фота з асабістага архіва пісьменніцы.



**Творчасць Кузьмы Чорнага — адна з найцікавейшых старонак у гісторыі беларускай літаратуры. Крытэрыі мастацкасці і мастацкай праўды, якіх прытрымліваўся ў сваёй творчай практыцы мастак, вытрымалі выпрабаванне часам. Тое, што хвалявала пісьменніка, што станавілася аб'ектам яго мастакоўскага клопату і глыбокага роздуму, не страціла сваёй актуальнасці і сёння.**

## Роздум над творчасцю Кузьмы Чорнага

# Адчуць радасць быцця на зямлі

“Планетарнае”, маштабнае мысленне К.Чорнага дазваляе аднесці яго да кагорты пісьменнікаў новага часу, новага светапогляду і новага мастацтва. І далёка не таму, што станаўленне і развіццё творчай індывідуальнасці пісьменніка супала з часам паслярэвалюцыйных змен. У аснове яго творчасці ляжала, па сутнасці, універсальная ідэя — ідэя гуманізацыі і гарманізацыі сацыяльных адносін, спасціжэнне духоўнага свету чалавека ва ўмовах страшэннай дэфармацыі ўсталяванага вякамі ладу жыцця. Клопат і трывога пісьменніка-гуманіста палягалі ў кірунку адстойвання, абароны права чалавека на дастойнае жыццё, на захаванне і развіццё яго добрых пачаткаў, на духоўнае абнаўленне. Сваёй задачай ён паставіў даследаванне, аналіз самых тонкіх, знешне нябачных унутраных зломаў, зрухаў у псіхіцы і свядомасці чалавека, якому даводзілася жыць і працаваць у няпростых умовах, у пастаянным напружанні сваіх духоўных і фізічных сіл. Гэта стала натуральным і аб'ектыўным працягам логікі пісьменніцкага псіхалагізму, які, па словах А. Адамовіча, “імкнецца і гісторыю і сучаснасць, і цішыню і буры — усё сабраць у чалавеку, выявіць праз чалавека і толькі праз яго”.

А. Адамовіч у свой час вельмі тонка і глыбока раскрыў прагназуючую, прадказальную сутнасць чорнаўскага псіхалагізму, знаходзячы ў ім шмат падобнага, блізкага з псіхалагізмам Ф. Дастаеўскага. Творы Чорнага, гэтаксама як і творы Дастаеўскага, — гэта Евангелле ад чалавека і для чалавека. Геніяльная прадбачлівасць абодвух творцаў і выявілася якраз у дакладным (і спраўджаным часам таталітарызму) прагнозе абясцэньвання агульначалавечых каштоўнасцяў, нетрывалага, хісткага існавання чалавека і чалавецтва ў эпоху вялікіх узрушэнняў. Але калі Дастаеўскі сваёй геніяльнай інтуіцыяй толькі прадугадваў, гіпатэтычна дапускаў магчымасць страшэнных духоўных катаклізмаў, то ў часы Чорнага апошнія ўжо фізічна адчуваліся, набывалі рэальныя абрысы. Пісьменнік ставіў сабе задачу паказаць унутраныя зрухі душы ў сувязі з пэўным гістарычным момантам, з эпохай “грандыёзных рэвалюцыйных ломак”. Галоўным станавіўся сам аб'ект даследавання — чалавек, выкрыццё, анатаміраванне, а разам з тым і прагназаванне яго скрытых і яўных пабуджальных стымулаў, унутраных рухавікоў, матываў паводзінаў у экстрэмальных умовах. Без асаблівых цяжкасцей заўважаецца як бы наўмыснае, свядомае ігнараванне пісьменнікам “бягучага палітычнага моманту”, пазбяганне ілюстрацыйнасці, апісальнасці, спрашчэнства. Усе перыпетыі і калізіі жыцця ў яго творах існуюць як “аўтаномныя”, аб'ектыўна зададзеныя, якія ў той ці іншай ступені становяцца асновай пэўнай сюжэтнай фабулы, канфлікту, дапамагаюць стварыць паўнакроўныя, жывыя характар або тып. Заўважым: сама “эпоха”, якая ў шматлікіх творах іншых аўтараў набывала абрысы пераможнага шэсця рэвалюцыі, амаль не адлюстроўваецца Чорным непасрэдна, тым больш з ідэалагічных пазіцый. Яна толькі слаба прадчуваецца, угадваецца, існуе як фон — “за кадрам”. Па перакананні пісьменніка, рэвалюцыя павінна стаць інтэнсіўным духоўным рухам, які б ахопліваў увесь унутраны свет чалавека. І вельмі важнымі ў гэтай сувязі падаюцца рэмаркі пісьменніка пра пошукі разумнага ў жыцці, адстойванне права на вольны выбар, унутраную свабоду (“Ніколі не трэба станавіцца чалавеку на дарозе, калі ён чаго шукае”). Надзіва па-сучаснаму гучаць словы аднаго з чорнаўскіх герояў, перакананага ў тым, што “ўся зямля, кожны кусочак аднолькава родны чалавеку”, “што людзі, злучыўшыся ў адну вялікую сям'ю, зробяць на сваёй зямлі нешта такое, што будзе большае па сваёй сіле за самую зямлю”. Будучыня для пісьменніка бачылася ў адзінстве нацыянальнага лёсу і лёсу ўсяго чалавецтва. Менавіта такі сэнс вынікаў з глыбінных сувояў чорнаўскага псіхалагізму.

Для пісьменніка-аналітыка, пісьменніка-мысляра сэнс з'явы не бачыўся толькі ў знешнім праяўленні — рухах, дзеяннях, учынках. На змену прадметна-рэчыўнай заангажаванасці выступаў яе абсалютна супрацьлеглы эквівалент-адпаведнік у выглядзе непрадказальнай, нематываванай стыхіі эмацыянальных прадчуванняў, унутраных імпульсаў, якія ставіліся ў залежнасць ад выпадку, выпадковасці. І тэндэнцыя да пераадолення канона, прадпісанасці, пэўнай рэцэптуры, вольнага абыходжання з фармальна ўсталяванымі нормамі і правіламі заўважаецца ў Чорнага на ўсіх узроўнях — на ўзроўні ідэі, тэмы, праблемы, фармальна-структурных вырашэнняў.

Даволі красамоўны сэнс закладзены ў чорнаўскім шматзначным аксюмаранным выразе “буры ў цішы”, які, несумненна, указвае на невычэрпнасць, бяздоннасць чалавечай натуры, на арганічную зрошчанасць, з'яднанасць яе з пачуццём нязгоды са сваім зямным наканаваннем. Акрамя таго, ім як бы вытлумачана здольнасць чалавека балюча рэагаваць на вычварнасці жыцця і свае ўласныя, часта беспрычынныя, душэўныя пакуты, цяжка ці зусім невытлумачальныя. “Буры ў цішы” — далёка не тое, што неабходна пераадолець, зжыць у працэсе новага культурнага будаўніцтва. У сістэме чорнаўскай карціны свету, чорнаўскага псіхалагізму дадзеная ўласцівасць самавыяўлення, наадварот, падаецца і ўспрымаецца як цалкам станоўчая, арганічная, з якою ні змагацца, ні перамагаць яе няма ніякіх падстаў: яна — сама сутнасць чалавека, ад якой залежыць, па меншай меры, яго самасць, яго здольнасць адчуваць сваю арганічную прыналежнасць да ўсяго, што дзеецца на свеце. Побач з гэтым яскрава праступае думка пра захаванне ўнутранай цэльнасці, унутранага суверэнітэту. К. Чорнага больш цікавіць жыццё як адзіны рух, як плынь, у якой кожны яе ўток чымсьці абумоўлены і выключае любую выпадковасць ці непатрэбнасць. Паводле чорнаўскай мастацка-філасофскай карціны свету прыродная стабільнасць, натуральнасць і нязмушанасць якраз і захоўваюць дзякуючы таму, што кожная рэч знаходзіцца на сваім месцы, адпавядае свайму першапачатковаму прызначэнню. Адпаведна жыццё чалавека і народа толькі тады не выклікае якой бы там ні было перасцярогі, калі ў ім усё мэтазгодна і арганічна суладжана, спалучана і дзе назаўсёды выключана магчымасць актывізацыі разбуральных сіл, уключаючы і тыя, што парушаюць псіхалагічны баланс, згубна дзейнічаюць на глыбінныя структуры свядомасці.



Асаблівая небяспека бачылася пісьменніку ў звярыным, неўтаймоўным, разбуральным пачатку, які пры пэўных умовах здольны быў выйсці з-пад кантролю чалавечага розуму. К. Чорны выдатна ўсведамляў, якую ён мог уяўляць небяспеку, набыўшы жахлівыя памеры, шматразова павялічыўшы сваю сферу распаўсюджання ў маштабах не толькі адной краіны, але і ў маштабах усёй планеты. Таму ён з такой рашучасцю імкнуўся засцерагчы і сябе, і свайго героя, і чалавека ўвогуле ад пагрозы татальнага расчалавечвання. Кіруючыся высакароднай задачай, пісьменнік, па словах А.Пяткевіча, імкнуўся эмацыянальнымі сродкамі абудзіць у чытача сардэчную прыхільнасць да беларускага вясковага жыцця з яго псіхалогіяй і этыкай, бытам і народнымі марамі, перадаць адчуванне яго светлых перспектыў, радасць чалавечага быцця на зямлі”.

Пісьменнік зусім не праследаваў мэту пакрытыкаваць ці адмовіць аджыўшыя, патрыярхальныя нормы жыцця. Да таго ж чорнаўскага гаваруна, як ні дзіўна, мы пранікаемся асаблівым замілаваным пачуццём, сімпатыяй, зрэдку глядзім на яго з лёгкай іроніяй. І не больш. Чорнаўскі герой кіруецца сумленнымі маральнымі крытэрыямі, не спяшаецца прыняць на веру пустазвонства і дэмагогію, выяўляе здаровы народны практыцызм, разважлівасць, уменне жыць у ладзе і згодзе з прыродай, з зямлёю. Пісьменнік не забывае “прысуседзіць” свайго героя да таго, што блізка і родна яму з маленства, а яго чалавечнасць правярае праз здольнасць бачыць “вакол людзей”, “жоўтыя кветкі на высокіх сцяблах”, прыкмячаць “задумёнасць жоўтых далей апусцелага поля і трывогу шуму сініх кустоў”, чуць, як “ветры спяваюць, і сонца свеціць”, праз уменне спасцігаць магутную і неабдымную радасць зямлі.

Героі Чорнага яшчэ жывуць па інерцыі (у добрым значэнні гэтага слова), згодна з заведзеным ходам жыцця. Перадусім яны — дзеці сваёй зямлі-маткі, і ўвесь іх клопат палягае ў беражлівым, паважлівым да яе стаўленні. Агульны інтарэс зблізіў гэтых людзей. Кожны з герояў адчувае сябе сваім сярод сваіх; дзесьці ў глыбінях іх “зямной” памяці яшчэ моцна жыве думка пра крэўную іх чалавечую сваяцкасць, роднасць, занядбанне якіх роўна страшнаму злачынству. Гэта — няпісаны закон жыцця, які ў роўнай ступені прызнаюць усе. Яны моцныя адзінай праўдай – праўдай зямлі. Зямля для іх — тое адвечнае, нязрадлівае, святое, што не толькі множыць матэрыяльны дабрабыт, але і мацуе дух і волю. Яны зжыліся, зрадніліся са сваёй зямной доляй, якая стала іх жыццёвым лёсам, іх сутнасцю. Іншай долі для сябе ніхто з іх не мог і чакаць. Можа таму новыя грамадскія павевы, якія, здавалася б, упарта ўрываліся ў паўсядзённы размераны ход жыцця, заставаліся для гэтых людзей у большасці сваёй не заўважанымі, ці, прынамсі, слаба адчувальнымі.

Вопыт пройдзенага гістарычнага шляху яшчэ і яшчэ раз пераконвае ў тым, што ўнутранае чуццё не здрадзіла герою Чорнага: чуйным слыхам мастака ён улоўліваў, прадбачыў тую небяспеку, якая магла чакаць чалавека ў выпадку яго поўнага расчалавечвання, страты здольнасці думаць і разважаць, быць гаспадаром на зямлі. Асаблівая небяспека бачылася пісьменніку ў тым звярыным, разбуральным пачатку, які пры адпаведных умовах мог выйсці з-пад кантролю розуму і волі. Просты чалавек з народа, які мог супрацьпаставіць усяму наноснаму, нежывому толькі сваё незаплямленае сумленне і сваю прывязанасць да зямлі, заставаўся гарантам захавання права на жыццё і праўды жыцця.

Як гуманіст, як чалавек, для якога важней за ўсё мір і спакой у сваім доме, пісьменнік вымушаны быў ісці на вялікі — гуманны — самападман, самаашуканства, не губляючы надзеі і спадзявання, што ўсё яшчэ можа наладзіцца як след, усё ўвойдзе ў сваё натуральнае рэчышча. Пісьменнік як бы папярэджваў пра магчымы паварот падзей, спадзеючыся такім чынам прадухіліць сваім мастацкім словам тую навалу, якая няўмольна насоўвалася, як чорная хмара. Але стаць апалагетам ненавісці, спрыяць паскоранасці заведзенаму чыёйсьці злой воляй працэсу распалення падазронасці і варажнечы ў грамадстве, — супярэчыла яго мастакоўскаму ідэалу. Пісьменнік быў вымушаны лавіраваць сярод небяспечных рыфаў пралетарскай ненавісці, ваяўнічасці. Ён упарта скіроўваў сваю думку ў рэчышча філасофскіх, агульначалавечых праблем, культываваў ідэі хрысціянскай дабрачыннасці, міласэрнасці, спагады, вялікасць душы, павагу да чалавека.

К. Чорны да канца застаўся верны свайму жыццёваму і мастакоўскаму кодэксу, ідэі гуманнага, адкрытага, адзінага ў сваіх намерах і дзеяннях чалавецтва, прынцыпы агульнага сужыцця якога будаваліся б на аснове прынцыпаў узаемапавагі, роўнасці, даверу. Ён шчыра жадаў, каб чалавецтва зразумела нарэшце тое, што ў яго ёсць агульны вораг — “злы”, “жорсткі” і “страшны злодзей” — дыктатура, таталітарызм, фашызм, сталінізм, што нявечаць жыццё людзей; хваробы, страх, нявер'е, — якія трэба перамагчы ўласнымі намаганнямі дзеля таго, каб быць не вечнымі выгнанцамі-тубыльцамі на сваёй зямлі, а мець ясную і непахісную ўпэўненасць у заўтрашнім дні, у надзейнасці і непарушнасці свайго дому, свайго месца ў Сусвеце.

Валерый МАКСІМОВІЧ,
доктар філалагічных навук

На здымках: Кузьма Чорны з дачкой Рагнедай (1938 год); рэдкалегія “Узвышша” — стаяць: Адам Бабарэка і Язэп Пушча, сядзяць: Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва (1926 год).



Мікола ШАБОВІЧ

## «Маладыя мроі маладога лета…»

* * *

За якой гарою,
Дзе шукаць па свеце
Маладыя мроі
Маладога лета,

Што цвілі, буялі
Колісь так шматкветна,
А пасля завялі
Ціха й непрыкметна,

Хоць душа й сягоння
Леціцца й вяснуе
Над гадоў прадоннем,
Над вячэрнім сумам
І радкі парою
Мкнуць на край Сусвету
У маладыя мроі
Маладога лета?

* * *

Я трымаю цябе за руку,
Адчуваю: з табою так лёгка
Пераплыць адзіноты раку
І на лёс ані хвілі не вохкаць.

Ты так ярка, зіхотка цвіцеш,
Палымяна агнеюцца вусны.
Мой радок
беспрытульны суцеш,
Каб задоўжыўся
вечар спакусны,

Каб, нырнуўшы ў метро,
бы ў раку,
Летуценні гуллівыя спеліць...
Я трымаю цябе за руку,
А на большае —
Бог не асмеліць.

* * *

Ці ўспомніш ты мяне,
Гарэзніца-дзяўчына?
Тваёй квітнець вясне —
Мая ўжо за плячыма.

Табе шчэ трапятаць
У пацалунку страсным —
Мне ж болей рыфмаваць
Мінулае з сучасным.
Табе дарыць наіў,
Пяшчоціць валасамі —
Мой май адгаманіў,
Дый ліпень гэтаксама.

Хоць мары-сны праз ноч
Ляцяць-плывуць імкліва
Да тваіх цёмных воч,
Усмешкі зіхатлівай...

* * *

А неба сёння нецікавае,
І сінь — адно ў тваіх вачах,
Мая чароўная, ласкавая,
Чый вобраз песціў па начах.

Мы рэдка бачымся, не звонімся,
Не наракаем на жыццё,
Адно за часам бегма гонімся.
А як бруіла пачуццё!

А як не спалася — пісалася!
Якія ўскрыльвалі радкі!
Дык што ж, скажы,
між намі сталася?
Ці, можа, проста час такі?..

Хоць дні мінуліся ласкавыя,
Агмень спакусы не зачах...
А неба сёння нецікавае,
І сінь — адно ў тваіх вачах.

* * *

Я буду помніць твой пагляд
І за гадоў пажухлай навіссю.
Усё вяртаецца назад,
Адно што ты —
ты не вяртаешся.

Ты там, дзе восень і зіма,
Ды не са мной —
мне жыць надзеямі,
Што, хоць шляхоў назад няма,
Наперад ёсць —
ды толькі дзе яны?

Мне будзе цяжка забываць:
З гадамі ўсё іначай бачыцца.
Табе ці лёгка там спяваць,
Ці мо, як тут,
паболей плачацца?..

Я буду помніць твой пагляд
І за гадоў пажухлай навіссю.
Усё вяртаецца назад,
Адно што ты —
ты не вяртаешся.



Тамара ЛЯЛІХАВА

## Дэбют

Нарадзілася ў 1937 г. на Магілёўшчыне. Піша па-руску і па-беларуску. Выдала кнігі "Истина жизни" (2001), "Гронка бацькавай каліны" (2002), "Благословенна встреча" (2003), "Табе, Беларусь, свае песні спяваю" (2004), "Адна на скразняку" (2005). У "ЛіМе" — упершыню.

## Маладосці

О маладосць, высокі твой узлёт!
Калі ёсць крылы і заве дарога,
Ты не цурайся роднага парога,
Дзе карані пусціў калісьці род.
Бо напаткае некалі знямога
І ў сэрцы прарасце
тваім трывога,
Тады спасцігнеш
шлях зямны да Бога
І азірнешся на пахілы плот.

## Гваздзікі

Гваздзікі смяртэльна-белыя...
Ляжаць засохлыя яны,
Спяць у кутку асірацелыя
Там, дзе з табой сядзелі мы.

Маўчыць букет, глядзіць паныла,
Няма ў мяне таксама слоў.
І толькі ў сне мне дорыць мілы
Жывыя кветкі і любоў.

* * *

Зноўку гады
праляцелі, як птушкі,
Сцежку прысыпаў
сняжок ля акна,
Хоць па табе
я не плачу ў падушку,
Але ж чакаю цябе давідна.

## Я веру

Як цесна сэрцу, нібы ў засценку,
Жыве надзея, яна — ратунак.
Ноч мітусіцца паспешна ў зрэнках,
Нібы цыганка: такі малюнак…

Я веру — сонца зірне на ганак,
Душу пакіне адразу гора.
Адкрыю дзверы, сустрэну ранак,
Нахлыне радасць, як хваля з мора.



Іван ЛАГВІНОВІЧ

* * *

Паабедаўшы семкамі з шышкі,
дзьмухнуў дрозд у чароўны свісток:
разарвалася сэрца пупышкі —
нарадзіўся зялёны лісток!

* * *

Падышла сцяжынка да ракі —
бераг даў ёй хустку з асакі.
У высокай ды густой траве
будзе схоў ад спёкі галаве.

* * *

Саспелым плодам сонца хіліцца
да той мяжы, дзе хвойны лес;
і далягляд зубатай сківіцай
яго надкусіць. Потым… з'есць.

* * *

Кветкавы водар, бы ягадны сок,
піў у гайку першародныя бязгрэшнасці.
Слёзы з вачэй вымывалі пясок
тэлевізійнай залежнасці.

Там аздабляў я разьбою кіёк,
каб ужо смець называць яго посахам.
Кропкі ў пісьмёнах палеткаў над "ё"
дзень ставіў пчоламі й восамі.

Над ціхамір'ем палёў і лугоў
сонца не засцілася аблачынкамі.
Маці-Прырода з аблічча майго
выцерла слёзы з пясчынкамі.

## Пісьмёны

Бярозы над крушняй
раскінулі кроны
люляць калыскова
птушыныя звоны.

Пергамент кары
ў завірухах дублёны,
і час-летапісец
пакінуў пісьмёны —

прымальныя для
карыстання законы,
прыемныя для
вымаўлення імёны.

Цэнзурнай на друк
не было забароны
ні з боку салоўкі,
ні з боку вароны.

* * *

Расліннае золата
лотаці і дзьмухаўцоў
вясне маладой
для зялёнага ўбрання —
аздоба.
Чмялямі і пчоламі
ставіцца якасці проба
пад пільным кантролем
адказных хрушчоў-мудрацоў.

* * *

Я доўга па родных
мясцінах блукаў.
Вяртанне ў мінулае —
не выпадковае:

Сляды на сцяжынках
дзяцінства шукаў —
свае — пастушковыя
і грыбніковыя.

Не гром сярод яснага неба спыніў,
уразіў пейзаж,
што адкрыўся за хвойнікам:
дубоў спілаваных
таўсматыя пні —
нібы пастаменты
ад знішчаных помнікаў…

## Хто дзе

— Хто там? Хто там? —
пытаецца Рэха.
— Гэта ты там, —
абураецца Голас, —
а я – тут!

* * *

Мову продкаў назваў я
святыняй найпершай,
суцяшальніцай,
скарбніцай найдарагой;
бо калі б не яна —
не было б гэтых вершаў:
не прарос бы мой талент
у мове другой.



Фота Яўгена Шастакова

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

9 ліпеня 2010 г.

Выпуск 4



## Для нас актуальнае ўсё

Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, намеснік дырэктара РУП "Выдавецкі дом "Беларуская навука":

— Я шмат гадоў адпрацаваў у сферы кнігавыдання і шмат чаго зрабіў. На мой погляд, на сённяшні дзень у сродках масавай інфармацыі недастаткова асвятляюцца праблемы кнігавыдання, увогуле тое, чым жывуць друкары, выдаўцы. За апошнія 20 гадоў змянілася сітуацыя, і не ў лепшы бок для айчыннага выдаўца. Цяпер выдаўцам самім даводзіцца вырашаць свае праблемы, яны апынуліся сам-насам з тым рынкам, які стыхійна склаўся.

Тое, што з'явіўся новы праект "Кніжны свет" у такім выданні, як "ЛіМ", лічу, вельмі добра. Неабходна з'яднаць праз сродкі масавай інфармацыі пісьменнікаў і выдаўцоў, а раздзяляць іх ніколі не трэба было, цяпер — тым больш. Я думаю, што можна падняць шмат тэм. Праблем багата і ў дзіцячай, мастацкай літаратуры, і ў навуковым, вучэбным кнігавыданні. Усё, што датычыць кнігавыдання ў шырокім сэнсе гэтага слова, актуальнае для нас.

Неабходна ўздымаць пытанні ўзаемаадносін паліграфістаў і выдаўцоў, выдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў. І гаварыць не толькі пра фінансавыя адносіны, якія ва ўмовах рынку, на мой погляд, з'яўляюцца галоўнымі, не толькі пра эканоміку. Але і пра фарміраванне тэматычных планаў, пра неабходнасць аб'яднання намаганняў у вырашэнні праблем кнігавыдання, нягледзячы на існуючую паміж выдаўцамі канкурэнцыю. Сёння канкурэнцыя вельмі жорсткая. Рускамоўная літаратура расійскіх выдавецтваў, калі ўзяць наш гандаль, займае каля 95 працэнтаў аб'ёмаў. І нам даволі цяжка канкурыраваць з ёю, асабліва беларускамоўным выданням. Наклады іх невялікія, цана адпаведна высокая. Ёсць праблемы! І іх трэба рашаць!..

Інтэрв'ю са Станіславам Нічыпаровічам чытайце на сёмай старонцы "Кніжнага свету".

Ірына ТУЛУПАВА

Фота аўтара

## Дастаць кнігі з-пад зямлі

**Гадоў дваццаць таму гэта было надзвычай актуальна для насельніцтва — мець у сваёй бібліятэцы невядома якімі намаганнямі здабытую кнігу, пра якую гаварылі ўсе. Часы мяняюцца. І цяпер былі б толькі грошы — кнігу купіш альбо ў кнігарні, альбо на кніжным развале, альбо ў прыватных распаўсюджвальнікаў. Каб прапанаваць неабходнае людзям, цяпер выкарыстоўваюцца самыя разнастайныя формы гандлю. Выязны — у тым ліку.**

У дні працы XIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" акрамя стацыянарных кнігарняў будуць працаваць новыя, часовыя, арганізаваныя для гараджан і гасцей пункты продажу літаратуры. Як паведаміў "Кніжнаму свету" намеснік дырэктара ААТ "Віцебсккніга" Мікалай Пагоскі, беларуская кніга ў агульным аб'ёме прадаж зойме каля 90 працэнтаў.

У прыватнасці, у цэнтры Віцебска плануецца стварыць некалькі часовых кропак, дзе ў ліпеньскія фестывальныя дні арганізуюць продаж кніг. Акрамя кнігарні "Глобус", палаткі "Віцебсккнігі" будуць устаноўлены на вуліцах Кірава і Замкавай, імправізаваныя міні-кіёскі з'явяцца ў гасцініцах "Віцебск" і "Эрыдан". Запаветную кніжачку можна будзе знайсці і ў павільёне ў падземным пераходзе на плошчы Перамогі, які будзе працаваць у падоўжаным рэжыме — з 7 да 22 гадзін. Так што пакупнікі сучасных фаліянтаў змогуць насамрэч гаварыць, што дасталі-такі кнігі з-пад зямлі. Дэвіз "Знайдзі кнігу!" — па-ранейшаму актуальны: ад таго, якія навінкі прапануюць кнігараспаўсюджвальнікі і якія з выданняў набудуць сабе госці, будзе ў многім залежаць імідж краіны. У палатках (2х3 м$^2$) і павільёне памерам каля 12 м$^2$ будуць прадстаўлены кнігі-лаўрэаты нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" і аднайменнага міжнароднага. Агулам жа друкаванай прадукцыі будзе прадстаўлена каля 800 — 1000 найменняў, з іх каля 100 назваў сувеніраў. Кнігі — энцыклапедычнага, краязнаўчага кірункаў, фотаальбомы і мастацкая літаратура. Сярод іх — альбомы А. Аляксеева і А. Лукашэвіча "Скарбы Беларусі", С. Мельніка "Беларусь: Памятники архитектуры", "Замки и дворцы Беларуси" ды іншыя.

Рына НОВАК

### Ёсць праблема!

## Полацкі сіндром

Праца на "Славянскім базары ў Віцебску" альбо на іншых фестывалях для кніжнікаў — традыцыйная.

Летась за кошт продажу кніг на фестывалі выручылі каля 15 мільёнаў рублёў. Менавіта продаж кніг на выязных кропках у гэты час найвышэйшы — лета для кнігараспаўсюджвальнікаў не самая прыдатная пара. Праблема — кадры, не хапае людзей, каб арганізаваць продаж выданняў у непасрэднай блізкасці да спажыўцоў.

У ААТ "Віцебсккніга" толькі адна кнігарня — "Глобус" — размешчана ў цэнтры горада. Астатнія — на ўскраінах. А ўсе мерапрыемствы праходзяць менавіта тут. Так што фестываль для "Віцебсккнігі" — яшчэ і дадатковая магчымасць выйсці ў цэнтр горада. Акрамя кнігарні "Глобус", праўда, ёсць яшчэ тры кнігарні прыватнай формы ўласнасці.

Агулам жа ў горадзе над Дзвіной 10 кнігарань. З іх 7 — "Віцебсккнігі" і тры — згаданыя прыватныя. Чым прыватны гандаль дапаўняе дзяржструктуры ў распаўсюджванні друкаванай прадукцыі? — "У нашых кніжных аддзелах (хоць і мы цяпер акцыянернае таварыства), на нашых паліцах самы шырокі асартымент беларускай кнігі", — не без гонару паведамляе намеснік дырэктара ААТ "Віцебсккніга" Мікалай Пагоскі. Але да ранейшых праблем дадаліся і новыя. Сёлета ўведзена норма, паводле якой кнігараспаўсюджвальнікі аказаліся пазбаўленыя льгот па арэндзе памяшканняў, яны мусяць плаціць за арэнду немалыя сродкі. Хаця мясцовыя ўлады ў рамках закона прымяняюць, наколькі магчыма, зніжэнне каэфіцыента. Гэта што да гарадоў Віцебск, Орша ды іншых. А, да прыкладу, полацкая кнігарня "Светач" (філіял ААТ "Віцебсккніга") ніякіх паслабленняў па аплаце не мае. Канстатуем гэта з сумам: кнігарня ў горадзе першадрукара, непарыўна звязанага з імёнамі асветнікаў Францыска Скарыны, Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага, дзе кнізе першапачаткова нададзена надзвычай высокая місія, мусіць шукаць сродкі, каб выжыць. Нават прагучалі пагрозлівыя заявы: калі не можаце забяспечыць аплату, прадаставім месца на ўскраіне. Адзін з чыноўнікаў нават ганарыцца тым, што паўгода ўжо кніг не купляе і раіць гандлярам замяніць кнігу іншым хадавым таварам.



Што не рэгіён, то асаблівасці. Але і ў такіх умовах "Віцебсккніга" знаходзіць-такі магчымасці, каб адкрыць новыя пункты продажу кніг. У 2008 і 2009 гадах у Віцебску адкрылі па адным кніжным павільёне. Плануецца, што не будзе выключэннем і гэты, 2010-ы.

Адкрываюць у горадзе кожны год, і ў гэтым сэнсе ўлады дапамагаюць, часцей невялікія гандлёвыя павільёны на 20-30 м$^2$. "Павільён яшчэ можна аплаціць", — падкрэслівае Мікалай Пятровіч.

Віцебшчына — паўночная частка Беларусі. Па большасці, кніжнікі тут працуюць з Расіяй, у якой больш прывабныя ўмовы для кнігагандлю. Бо ў іх — тыя славутыя 10 працэнтаў падатку на дабаўленую вартасць, якія ставяць наш айчынны друк у незайздроснае ў параўнанні з суседзямі становішча. На Украіне — так званая нулявая стаўка ПДВ на кнігі ўкраінскіх выдавецтваў. Калі б і нам такое — маглі б прыўзняць галіну, якая непасрэдна з'яўляецца часткай культуры народа. Тады, магчыма, маглі б гаварыць і пра нацыянальную праграму падтрымкі кнігі, і пра больш актыўнае пашырэнне гандлёвай сеткі.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота аўтара

### Аўтограф



## Чары забытага, старадаўняга...

Дэкан архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, доктар архітэктуры, прафесар Армэн Сардараў — сааўтар кнігі "Даўняя Беларусь". Разам з доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам праз мастацкае слова творцы паказалі некаторыя старажытныя помнікі сённяшняй Беларусі. Кніга, напісаная ў форме дыялога, багата ілюстраваная (мастак, архітэктар Уладзімір Шолк), выйшла ў свет у 2010 годзе ( РВУ "Літаратура і Мастацтва").

Армэн Сардараў ужо ў дваццаціпяцігадовым узросце абараніў дысертацыю па тэме, якая раней не ўзнікала нават у навуковых дыскусіях, — "Дарожная архітэктура Беларусі".

— Усе мае дарогі ішлі праз Беларусь Адама Мальдзіса. Бо ён спалучае ў сваёй творчасці многае. Ён вучоны, у той жа час — пісьменнік. Ён і мастак, які адчувае Беларусь і перадае гэта сваё пачуццё людзям. Я з маладых гадоў чытаю яго творы, яго кнігі, яны, безумоўна, фарміравалі мой погляд на гісторыю і культуру Беларусі.

Лічу, што няма лепшага часу, як цяпер, паездзіць па краіне. Размова пра мову і культуру Беларусі не спыняецца. Я маю шмат гадзін запісу размоў з Адамам Мальдзісам, і толькі маленькая часцінка ўвайшла ў кнігу. Можа, калісьці надрукуем усё.

Ведаеце, і ў архітэктуры, і ў кнізе ўвасоблена ўсё тое, што ідзе з душэўных глыбінь. Высокая архітэктура нараджаецца ў душы чалавека, і тое ж робіш, думаеш, калі ствараеш кнігу. У творы мастацтва ўвасабляецца тое, што чалавек перажывае, што носіць у сабе. Гэта тое галоўнае, што ён хоча перадаць іншым людзям, падзяліцца сваімі ўражаннямі, думкамі.

— Якія кнігі вы цяпер чытаеце?

— Проста трэба шмат чытаць. Кнігі дапамагаюць верыць у лепшае, у высокае прызначэнне чалавека, хоць жыццё больш празаічнае і суровае.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: Армэн Сардараў — чытачам "Кніжнага свету": "Любіце Беларусь, як родную маці...".

Фота Кастуся Дробава; калаж Віктара Калініна

### Выстаўкі

## Кірмаш з акцэнтам: вуснамі суседзяў

### Расійскі друк — пра Ганаровага госця Маскоўскага кірмашу

Прэзентацыя Рэспублікі Беларусь, якая з'яўляецца Ганаровым госцем Маскоўскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, адбудзецца адразу пасля адкрыцця XXIII ММКВК 1 верасня. Пра гэта паведамляе сайт міжнародных выставак. Плануецца, што цырымонія пачнецца ў 12.30 у зале "В" выставачнага павільёна № 75 і будзе арганізавана Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Федэральным агенцтвам па друку і масавых камунікацыях.

Беларусь — пастаянны ўдзельнік гэтага аўтарытэтнага форуму, падкрэслівае расійскі сайт і звяртае ўвагу: у рабочых планах — разгарнуць аб'яднаны стэнд беларускіх выдаўцоў агульнай плошчай 200 квадратных метраў.

Паводле папярэдніх планаў, адной з галоўных тэм дыскусій і абмеркавання кніжнікаў дзвюх краін стануць праекты сумесных выданняў. Праграма прадбачыць арганізацыю семінараў, прысвечаных перакладам, а таксама цэлую серыю сустрэч беларускіх аўтараў і перакладчыкаў з расійскімі калегамі.

У Міністэрстве інфармацыі Беларусі паведамілі, што цяпер ідзе актыўная падрыхтоўка да восеньскага кірмашу, удакладняюцца дэталі і праграма мерапрыемстваў, пра якую неўзабаве даведаюцца і чытачы "Кніжнага свету".

Ярына РЫТАМІНСКАЯ




Казка вабіла Георгія Марчука на працягу ўсіх сарака гадоў творчай дзейнасці. Ён добра ведае фальклор розных народаў свету, а з пісьменнікаў-казачнікаў аддае перавагу Гансу Хрысціяну Андэрсену. “У казках Андэрсена найбольш пластычнасці, лірычнасці, спачування да чалавека. Таму яны вельмі блізкія нам, беларусам,” — зазначае Георгій Марчук.

# «Несцерка» Георгія Марчука





Па словах пісьменніка, жанр казкі вельмі складаны. Няпроста прыдумаць арыгінальны сюжэт, стварыць уласнага героя. У казках Георгія Марчука ёсць і сірата Багуслава, і каваль Сілуян, і брыдкі Пачварнік. Але для большасці чытачоў і наведвальнікаў сучасных тэатраў пісьменнік вядомы дзякуючы Несцерку — спрытнаму, разумнаму, спагадліваму вясковаму хлопцу, вобраз якога склаўся ў беларускім фальклоры.

Праўда, па словах Георгія Марчука, у фальклорных зборніках ёсць усяго некалькі твораў пра Несцерку. Ствараючы свае казкі, аўтар прыдумваў для Несцеркі адмысловыя прыгоды і вандроўкі, і толькі двойчы звярнуўся да сюжэта бабуліных казак, якія чуў у маленстве. Імем улюбёнага героя названая новая кніга пісьменніка, што выйшла ў мінскім выдавецтве “Современная школа” на рускай мове. Георгій Марчук, вядома, пісаў свае творы па-беларуску. Але пасля таго, як рукапіс “Несцеркі” некалькі гадоў праляжаў у адным з беларускіх выдавецтваў, пісьменнік вырашыў звярнуцца ў выдавецтва, якое арыентуецца на расійскі рынак. У выніку кнігу атрымалася выдаць танней, бо наклад склаў пяць тысяч асобнікаў (тры з іх паспяхова прадаюцца ў Расіі, дзве трапілі ў мінскія кнігарні).

Да таго ж, з’явілася магчымасць звярнуцца да Таццяны Беразенскай, якую ў якасці ілюстратара прапанаваў выдавецтву аўтар. Георгій Марчук даўно лічыць гэтую мастачку адным з лепшых ілюстратараў дзіцячай літаратуры — і, сапраўды, намаляваны ёю Несцерка ў значнай ступені адпавядае вобразу галоўнага героя, што існаваў у фантазіі пісьменніка. Арыгінальныя ілюстрацыі заўсёды вылучаюць беларускую кнігу на паліцах з дзіцячымі творамі: сваім афармленнем наша друкаваная прадукцыя вельмі адрозніваецца ад танных чытанак, дзе адна і тая ж птушка ці хатка сустракаецца прынамсі на некалькіх старонках, а лес уяўляе сабой купку крыху відазмененых (паменшаных ці перагорнутых) блізнюкоў-дрэваў. Шматфарбнасць выдання, адмысловасць выяваў, свой настрой і характар у кожнага намаляванага персанажа робяць кнігу “Несцерка” сапраўды прывабнай і цікавай для дзетак.

Што да зместу, то кнігу складаюць не толькі творы пра Несцерку (восем з пятнаццаці), але і казкі пра жывёл, чароўныя казкі, казкі-легенды. Казкі ж пра Несцерку можна аднесці да бытавых альбо авантурна-навелістычных. Вынаходлівы герой дапамагае простаму народу, перамагае ў спрэчках з панамі, адгадвае складаныя загадкі, не забываецца правучыць несумленных, гультаяватых людзей. У казках шмат адметна-беларускіх герояў: паноў, эканомаў, шляхцюкоў і нават каралева Бона. Пісьменнік нярэдка ўжывае народныя выслоўі, прымаўкі ды прыказкі, характэрныя словы і звароткі, дзякуючы чаму яго творы, нават перапісаныя на рускай мове, захоўваюць нацыянальны каларыт.

Аўтар імкнецца пазбегнуць забойстваў, крыві і гвалту, якіх багата як у народных, так і ў аўтарскіх казках. “Вядома, галоўны закон казкі — каб дабро ўзяло перамогу над злом,” — зазначае Георгій Марчук. І яго станоўчыя героі, безумоўна, перамагаюць, але перамагаюць выключна дзякуючы розуму, спрыту, дасціпнасці, высокім маральным якасцям. Пісьменнік лічыць абавязковым для сучаснага казачніка заўсёды памятаць пра псіхалагічную адраснасць сваіх твораў, што вельмі актуальна, таму што аўтарскія казкі цяпер шырока ўключаюцца ў хрэстаматыі для пазашкольнага чытання. “Асаблівая цікавасць да казкі ўласцівая дзецям ад шасці да трынаццаці гадоў, — гаворыць Георгій Марчук. — І сённяшняя казка павінна быць абавязкова разлічанай на пэўны ўзрост. Казкі для малодшых школьнікаў не варта перагружаць: у іх, як і ў фальклорных казках, мае быць некалькі галоўных герояў, адна-тры асноўныя падзеі. Казкі для старэйшага ўзросту могуць быць больш сур’ёзнымі, сімвалічнымі, мець большую колькасць дзеючых асобаў,” — распавядае пра свае творчыя прынцыпы пісьменнік.

Асабліва плённымі на стварэнне казак былі для аўтара 1980-я, калі ён пасля доўгай адсутнасці прыехаў на радзіму — у Давыд-Гарадок. Тут Георгій Марчук нібы іншымі вачыма агледзеў тое, што было побач з дзяцінства, пачаў уяўляць, пра што могуць думаць і размаўляць шпакі, ластаўкі, карова…

Дарэчы, у некаторых творах пісьменнік асцярожна з’ядноўвае традыцыйны казачны свет з рэаліямі сённяшняга дня: у герояў з’яўляюцца камп’ютэры, лазары, самалёты. Таму не дзіўна, што аўтар цалкам ухваляе спробы расійскіх калег асучасніць традыцыйныя сюжэты і фальклорных герояў. Даспадобы Георгію Марчуку, прыкладам, цудоўна прамаляваны мультыплікацыйны фільм “Алёша Паповіч і Тугарын змей”, прасякнуты “русской удалью”. Пісьменнік спадзяецца, што ў беларускую літаратуру з цягам часу прыйдуць новыя казачнікі — каб напісаць свае, больш сучасныя казкі.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымках: ілюстрацыі да казак, выкананыя Таццянай Беразенскай; элемент афармлення кнігі.

## Пад вокладкай
















1. Вісландэр, Ю. Малы і мядзведзік: апавяданні / Юя Вісландэр, Томас Вісландэр; пер. са швед. Н. К. Кандрусевіч; маст. Улаф Ландстрэм. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 128 с.

Жыццё Малога насычана важнымі справамі і прыгодамі. Ён ідзе ў школу, вучыцца плаваць і лічыць да васьмі, спрабуе забегчы на дрэва і знаходзіць сярэбраную табакерку, разам з мамай і сяброўкай Білан ідзе ў чарніцы, грае на гітары, знойдзенай на сметніцы. Ён збірае таямніцы і сакрэты, але свайму найлепшаму сябру Мядзведзіку Малы перад сном распавядае пра ўсе свае адкрыцці. А потым яны разам ляжаць у ложку і выглядаюць вельмі задаволенымі: Малы і Мядзведзік.

2. Тарэлка, М. Адкуль пайшлі ідалы: помнік рэлігійна-палемічнай літаратуры з рукапіснай спадчыны татараў Вялікага княства Літоўскага / Міхась Тарэлка, Ірына Сынкова. — Мінск: Тэхналогія, 2009. — 425 с.

Кніга ўводзіць у навуковы ўжытак зборнік польскамоўных мусульманскіх рэлігійна-палемічных твораў канца XVI — пачатку XVII ст., які захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук. У працы змешчаны транслітэрацыя і пераклад даследаваных тэкстаў на беларускую мову, а таксама лінгвістычны, тэксталагічны, гістарычна-культуралагічны каментар і слоўнік лексікі зборніка. У той жа час у даследаванні гэтага літаратурнага помніка зроблены толькі першыя крокі, і аўтары выказваюць спадзяванні, што на гэтай дзялянцы нас яшчэ чакаюць новыя адкрыцці.

3. Гардзіенка, Н.С. Беларусы ў Вялікабрытаніі. / Наталля Гардзіенка; пад рэд. А. Гардзіенкі. — Мінск: Медысонт, 2010. — 620 с.

У сярэдзіне 1990-х у згуртаванні беларусаў Вялікабрытаніі абмяркоўвалася пытанне, што рабіць з досыць вялікімі архівамі арганізацыі… І толькі ўлетку 2005 года пачалася праца па напісанні кнігі — гісторыі беларуска-брытанскіх кантактаў. Выданне прысвечана перш за ўсё асвятленню пасляваеннай іміграцыі ў Брытанію, стварэнню і развіццю беларускіх арганізацый у гэтай краіне. Аўтарка падкрэслівае, што кнігу неабавязкова чытаць паслядоўна, бо кожны раздзел тут мае ўласны больш-менш завершаны сюжэт.

4. Камінскі Аляксей. Зімовыя святы / Аляксей Камінскі. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2010. — 220 с.

У кнігу ўвайшлі сцэнарна-метадычныя распрацоўкі адпаведнай тэматыкі, створаныя на аснове народных гульняў, прозы, вуснапаэтычнай творчасці, танцавальнага фальклору. Падаецца практычнае ўвасабленне традыцыйных абрадаў і гульнявых праграм.

Разлічана на шырокае кола гуманітарыяў, фалькларыстаў, этнографаў, выкладчыкаў, аспірантаў, магістрантаў, студэнтаў, навучэнцаў навучальных устаноў культуры і мастацтва, кіраўнікоў прафесійных і аматарскіх мастацкіх калектываў, настаўнікаў, выхавацеляў, усіх тых, хто цікавіцца культурна-гістарычнай спадчынай нашай краіны.

5. Мартин, Л.Б. Прислушайтесь к своему Ангелу-хранителю / Л.Б. Мартин — Минск: Чатыры чвэрці, 2010. — 240 стр.

У жыцці кожнага з нас хоць аднойчы, але бывае выпадак, калі ў цяжкай сітуацыі якая-небудзь нябачная сіла кідала выратавальнае кола. Ім мог стаць дзіўны сон, які падарыў надзею; выпадкова пачутая фраза, якая падказала выхад з няпростай сітуацыі; тэлефонны званок сябра… І мы можам называць гэта супадзеннем, шанцаваннем. А на самай справе гэта не што іншае, як дапамога нашага абаронцы — Анёла-захавальніка. Прыслухайцеся да свайго Анёла-захавальніка, і ён дапаможа Вам, як дапамог галоўнай гераіні рамана Міле. Пасля пяцідзесяці гадоў, калі стала ўдавой, Міла знаёміцца з англічанінам, выходзіць за яго замуж. А вось, што з гэтага атрымалася, пра гэта вы прачытаеце ў кнізе.

З кнігамі знаёміліся Марына ВЕСЯЛУХА і Ірына ТУЛУПАВА

Водгукі дасылайце на электронны адрас himarina@tut.by

# «Абганяючы сны ў пазачассі»



Анатоль КАЗЛОЎ

## Старонкі з аповесці

Íå¢çàáàâå, ó æî³âåíüñê³ì íóìàðû ÷àñîï³ñà “Í¸ìàí”, ÷ûòà÷û çíîãóöü ïàçíà¸ì³ööà ç ïåðàêëàäàì íîâàé àïîâåñö³ çíàíàãà áåëàðóñêàãà ïðàçà³êà Àíàòîëÿ Êàçëîâà “Ïàðàçóìåööà ç âåòðàì”. Óðûâàê ç ÿå — íà ìîâå àðûã³íàëà — ïðàïàíî¢âàåì à¢äûòîðû³ òûäí¸â³êà “Ë³òàðàòóðà ³ ìàñòàöòâà”.

Вам даводзілася бачыць, як паміраюць дэльфіны? Не? А як яны займаюцца сексам? Ага, таксама не бачылі… Вось і мне не пашэнціла ўгледзець ні першае, ні другое пра дэльфінаў. А калі-небудзь ваш позірк чапляўся за ягня з дзвюма галовамі, альбо спатыкаліся вы вачамі аб мядзяны поўнепадобны твар Іван-Мар'і? Ну, гэта калі твар адзін, а ніжэй пупка (даруйце) два ў адным… Навошта так непрыхавана пасміхацца? Ды і не трэба пальчыкам свідраваць скроню. Адкуль я магу ведаць, што сёння на першым плане ў Іван-Мар'і: мужчынскі ці жаночы пачатак… Матухна прырода паздзекалася з чалавека. Вы не пагаджаецеся, гаворыце, што гэта ўсяго толькі жарт. Нават не кпіна з чалавечага цела… У такім выпадку Бог вам суддзя. Бо не думаеце вы пра душу. Але, але, слушна падказваеце: душа — не цела. Яе не бачна, і твару ў яе няма. Для вас важней абалонка паветранага шара, а чым ён надзьмуты — другаснае. Так? Бачу сумніў у вашых рознакаляровых вачах. Не? Вы абыякава перасмыкаеце плячыма і ўнурваеце галовы ў плечы… Душа, цела, смерць дэльфінаў, ягняты з дзвюма галовамі… ці так гэта важна, калі на вуліцы вясна, а горад захлынаецца цяплом сонца, ажывае кволай зелянінаю дрэў паўз шырокія праспекты на чыста вымеценых бульварах. На лапіках паркаў і сквераў цвінкаюць вяртлявыя сініцы, лаўкі перапоўненыя гаманлівай моладдзю, а фантанчыкі пстрыкаюць у глыбокую сінечу неба хларыраванымі струменямі. Самы час зазірнуць у бліжэйшы прыгарадны Дом адпачынку ці санаторый, а я вам пра Івана-Мар'ю. Можна і на егіпецкае ці турэцкае ўзбярэжжа. Вы не супраць Іспаніі, Балгарыі і Чарнагорыі? Я ж раю гайсануць у Ізраіль альбо Італію. Едзьце, ляціце, плывіце, бяжыце і дыхайце на поўныя грудзі. Сустракайцеся, кахайце, здраджвайце тым, кім захапляліся! Дайце гэтай вясною вольніцу сваім двухаблічным Іванам-Мар'ям, прыхаваным і прыдушаным пячонкаю, засунутым у апендыкс. Бо ўсе вы (даруйце, мы) Іваны-Мар'і і двухаблічныя Янусы. Не, не цялесна. Дзякуй Богу. Я — пра нашы патаемныя памкненні і жаданні, пра чарвяка здрады ў сэрцы, падсвядомыя хаценні, пра сны, у якіх мы не прывязаныя да аднаго ці адной і на ўсё жыццё! Я пра цялесную насалоду гавару, адкідваючы ў каналізацыйныя люкі словы: "нельга! як можна! што скажуць!.."

Вось, некаторыя з вас грэбліва скрывілі вусны. Праз зубы сёй-той гатовы выціснуць: "Разбэшчаны падонак, збачэнец. Ату, на шыбеніцу яго, ізаляваць, расстраляць! Чаму ён навучыць моладзь?!". Не гарачыцеся, шаноўныя, не трэба. Вучыць нікога не варта. Усе даўно навучаныя. Вамі ж навучаныя. Я хачу аднаго: Шчырасці! Наколькі можна. Бо ўсё роўна, як ні старайся, як ні вымольвай, а самае патаемнае застанецца недасягальным для аніводнага староннягa вока. Сыдзе яно разам з кожным у нябыт. Гэта яшчэ адзін закон жыцця. Нашага з вамі жыцця. Вось чую гнеўныя воклічы "шэрых мышак". Яны, шэрыя мышкі, сінія панчошкі, даядаюць сакавіты яблык толькі дзеля таго, каб шпурнуць абгрызкам мне ў пераноссе: праведнік хрэнаў! Не, я не праведнік, даражэнькія, а такі ж затурканы, задзёўбаны жыццём прыдурак з процьмай патаемных (часам непрыгожых) жаданняў і хаценняў. Як і бальшыня з вас, хаваю яго (свой сверб) ад людскога, вашага вока. Таксама нашу крыжык на целе з надзеяй, што ён, мой абярэг, дапаможа мне "быць, як і ўсе": правільным. Вось бачыце: нічым я не адрозніваюся ад астатніх. Такі ж мізэрны ў сваёй велічы. Бо, як і ўсе, жыву ў грамадзе. А закон грамады важней за асобу.

Не забыў вашае навучанне. Помню і звяраюся па ім. Штодня. Не трэба ўсчынаць гвалт. Ды не буду я пра нізкае і жывёльнае, павяду гаворку пра высокае і незямное, асветленае і асвечанае тысячагоддзямі. Так-так, пра Чалавека гавару. А вы ўсё патрабуеце пра каханне, пра каханне… Чалавека ж не бывае без кахання, як не можа быць наступнага дня без ранняй зоркі і вечарніцы. Вось толькі каханне ў кожнага мае свой, адметны, прысмак, пах, вышыню і даўжыню. Што, не згодныя? Ага, тады зірніце за акно сваёй спальні. Помніце, учора была вясна з цёплым сяйвом сонца, а сёння што бачыце? Так, снежная пацяруха на кволай зялёнай лістоце дрэў. Прыціхлі сініцы, апусцелі лаўкі ў скверах і парках, галапузая моладзь усцягнула на плечы цёплую вопратку, а над жалезным, без пеністых струменяў, шчэццем фантанаў — шэрае нуднае неба. Куды падзелася аквамарынавая нябесная глыбіня з ласкавай цеплынёй промняў? Вось так яно, мае шаноўныя: вясна пабралася з зімою, а ўзнёсласць пачуццяў абрынулася ў самы ніз, на дно, і нават светлай макаўкі яе не бачна. Шкада, што нам часта даводзіцца забываць, як мяняюцца месцамі верх і ніз. Адзін кульбіт, лёгенькая хвалька, штуршок, пстрычка пальцаў, і вось маем: тое, што напярэдадні было ўверсе, апынаецца ўнізе, і наадварот. Яшчэ адзін закон зменлівай вечнасці. А колькі іх яшчэ!..

Не трэба папракаць мяне ў чарговай банальнасці. Самае дзіўнае ў тым, што чым найскладаней паняцце, тым яно банальней і прасцей. Усё самае складанае ў жыцці да прымітыўнага банальнае. Чарговы закон вечнасці…

Аднойчы я змяшаў чорную фарбу з белай. Мне карцела атрымаць шэры колер. І што вы думаеце я ўрэшце атрымаў?.. Не напружвайце мазгавыя звіліны. Я атрымаў такі колер, які хацеў. Але гэта было маё разуменне шэрасці, маё бачанне яе гушчыні і насычанасці. Толькі маё асабістае! У вас яна атрымалася б іншай па ўсіх параметрах. Смешна? Не ведаю, як вам, а мне сумна…

* * *

Ён выйшаў з метро ў прыцемках. Травень яшчэ не ўвабраўся ў сілу, не перакаціўся праз сваю лысаватую сярэдзіну. Бо вясна была позняй, зацяжной і халоднай. Увесь час дзьмулі паўночна-ўсходнія вятры. Начамі яны натужна вылі, шасталі між шматпавярховікамі, як галодныя бяздомныя сабакі, біліся ў вокны, выстуджвалі кватэры. Сапраўднага вясенняга цяпла людзі яшчэ так і не адчулі.

Ён ішоў па бязлюдным тратуары, хаваючы твар пад насунутым на самыя вочы башлыком. Куртка напіналася ветрам, шаргатала пад раз'юшанымі парывамі. Здавалася, што калі б расшпільнуць гузікі і раскінуць крысы апраткі, то Ікарам можна было ўзвіцца ў цяжкаватае хмарнае неба, а вось прызямліцца, спланаваць наўрад ці ўдалося б. А навошта прызямляцца? Куды, дзеля чаго? Юджын ішоў у ноч. Яго ніхто цяпер не чакаў, не завіхаўся каля пліты, каб згатаваць вячэру. Ягоны сябра і спадарожнік вецер імкнуўся падсобіць, падкінуць чалавека ўвышкі, але ж той не разумеў намаганняў вольнага беспрытульніка, таму і дыбаў у невядомасць, упіраючыся галавою ў пругкія хвалі ветру, нагінаючыся і прабіваючы плечуком іх халодныя абдымкі.

"Навошта, ну навошта іду пад чужыя цяпер вокны? Каб яшчэ раз зразумець, што ніхто там мяне не чакае? А, можа, раптам?.. — мужчына сам сабе крыва ўсміхнуўся. — Ніякага "можа" не здарыцца. Пастаю, пагляджу ў асветленыя вокны на шостым паверсе і пасунуся на вакзал. Я быў шчаслівы, але не разумеў гэтага. Звыкся са сваім шчасцем. Яно падалося мне заўсёдным, вечным і нязменным. Магчыма, што ў нейкі момант я насыціўся ім. Ці прыелася яно мне, як грэцкая каша, якую спажываеш на снеданне, абед і вячэру… Захацелася іншага смаку, нечага смажанага, альбо печыва з разынкамі хапануць напоўніцу". Юджын збочыў з тратуара на лясную добра ўтаптаную сцежку, пайшоў напрасткі. Ён углядаўся пад ногі, каб не зачапіцца абуткам за вузлаватыя карані елак, якія, быццам гіганцкія спруты шчупальцамі, абплялі сцяжыну. Так Юджын часта хадзіў з Русланаю на працу, разам яны прагульваліся ў выхадных і святах у гэтай лесапаласе, якая падзяляла ці не тры мікрараёны горада і праз якую шматлікія тутэйшыя жыхары праскавалі дарогу да метро. Як ні дзіўна, але ў гэтым ляску атабарыліся вавёркі. Не адна-дзве, а дзесяткі пухнатых рудаватых звяркоў. Менавіта зімою яны лашчылі вока, радавалі гараджан, асабліва дзятву і пенсіянераў. Але тое ўсё — у мінулым для Юджына. У мінулым і ранішнія прабежкі з Русланай, баўленне летніх дзянькоў на сонцы ў абсягу лесапаласы, гатаванне шашлыкоў "па-паходнаму", тут, непадалёчку. Ён, Руслана, іх сябры. Русланіны сябры. Дзіўна, але нават сваіх сяброў у Юджына не было. Ні раней, ні цяпер. У яго былі яе сябры, Русланіны…

"Ну чаму, чаму чалавек змушаны ўсё жыццё вучыцца на сваіх памылках? Навошта набіваць гузакі на ілбе, ведаючы, што мільёны да цябе іх ужо набілі: крывава-сінюшных, ацёчных. Асцярэгчыся б, абысці, ухіліцца… Аж не — пнуся напралом, напрапалую, не зважаючы на вопыт братоў па няшчасці. Няўжо ўсе мы, мужчыны, настолькі дубовыя і не здатныя ўспрымаць горкі набытак папярэднікаў? Няўжо? — няведама ў каго пытаўся Юджын, углядаючыся ў пагусцелы змрок між елак. — Я кахаў і кахаю Руслану. Самому сабе не схлусіш. Збіраўся пражыць з ёю да глыбокай старасці, да тых дзён, калі падаюць адно аднаму напіцца. Не так і важна было, што лёс не даў нам нашчадкаў. Я і Руслана зжыліся ўжо з гэтай думкаю, змірыліся раз і назаўсёды. "Ты маё самае вяліка-малое дзіця", — часта жартавала яна, барукаючыся ў ложку. Гадамі мы дыхалі адным дыханнем, глядзелі аднымі вачамі шмат на якія рэчы і падзеі. Нават думалі часта аднолькава. Але ў адзін чорны дзень мне падалося гэтага мала. Не, не мала, а недастаткова для майго мужчынскага шчасця. І панеслася, пакацілася мая бяздумная галава па купінах жыцця…"

Сцежка вынырнула з ельніка, падвяла да шырокага палатна дарогі. Па шашэйцы стомленымі жукамі цягнуліся легкавікі, укормленымі вусенямі паўзлі тралейбусы і аўтобусы. Каб перайсці на другі бок дарогі, даводзілася счакаць вечаровы наплыў жалезных монстраў. Спадзявацца на святлафоры, якія сваімі чырвонымі вочкамі паставяць заступ праз сотню метраў наперадзе і за спінай. Побач з Юджынам спынілася бабулька, якая нагадвала багамола. Яна моцна трымала за руку дашкольніка. Хлопчыку чакаць няўсцерп, ён быццам на шарнірах: тузаецца, круціцца на ножках управа-ўлева, плечукі пад лёгкім палітончыкам падаюцца то ўперад, то назад, галава ў вязанай шапачцы — як завадная. Назіраючы за ім, Юджын падумаў, што менавіта так і ён сябе паводзіў у тыя два тыдні, калі Руслана з'ехала да хворай сястры ў Крым. Яго распінала, ён захлынаўся незразумелай воляй. Свабо-да. Сва-бо-да! Цяпер ён разумее, што ніякай воляй і свабодай тое не было. Але як толькі аддаліўся ад перона цягнік "Мінск — Сімферопаль", Юджын заспяшаўся па спіртное. Было толькі восем раніцы, а ён, набыўшы тры пляшкі нямецкага цёмнага піва, прысеў за вынасны столік у пластмасавае крэселка і з незразумелай асалодай зрабіў некалькі глыткоў. Усё спрыяла выдатнаму настрою: выхадны дзень, ён адзін (упершыню за некалькі гадоў без Русланы), п'е нядрэннае піўко і ў яго вольная (воль-на-я!) кватэра. Ён адзіны гаспадар на два тыдні ў іх з Русланай кватэры…

Прапусціўшы апошнія пару машын, бабуля з унукам і Юджын перайшлі дарогу. Вецер, здаецца, крыху прыціх. Забомкалі рэдкія дажджынкі па куртцы, вышчарбленых пліткох тратуара, па лісціках прыдарожных ліпак. Зірнуўшы на святло ліхтароў, Юджын сам сабе зазначыў, што не такі ён і рэдкі, гэты травеньскі халодны дождж. Бабулька з унукам схаваліся ў бліжэйшым пад'ездзе дзевяціпавярховіка. Юджын прыцішыў крок. Да яго з Русланай дома (не, цяпер ужо не яго дома) засталося прайсці адзін прыпынак. Што ён шукае? Чаго патрабуе ад былой сваёй жанчыны? Мо, учарашні дзень яму хочацца вярнуць? Ці шкадобы захацелася ад той, якую прынізіў бяздумнай здрадай? Па шчырасці, Юджын і сам не ведае, што ці хто прымушае яго прыязджаць, прыходзіць, вяртацца да мінулага. Да шчаслівага, непаўторнага, роднага, блізкага, але цяпер такога далёкага і незваротнага мінулага. Толькі ж кожны вечар, як толькі пачынае на вуліцы шарэць, ён спускаецца ў метро, сядае у вагон і, прымружыўшы вочы, едзе ў гэты мікрараён, да гэтага шэрага дома, каб паглядзець на ўсё яшчэ не чужыя для яго вокны шостага паверха.

"Сёння слотна на вуліцы, доўга не вытрымаю. Лепш прабрацца ў пад'езд дома, што насупраць Русланінага, — разважае сам з сабою Юджын, прыкурваючы чарговую цыгарэту. — Там з лесвічнай пляцоўкі можна паназіраць за маёй любай. Аблашчыць хоць здалёк позіркам. Падымуся вышэй, да сёмага паверха, і ўсё будзе бачна, нібыта на далоні. Клятыя кодавыя замкі. Без чыпа не прабрацца. Нічога не застаецца, як схітраваць."

Мужчына спыняецца ля пад'езда, глядзіць на таблічку з нумарамі кватэр. Тут з 137-й па 151-ю. Ён набірае 150-ы нумар. Слухае працяглыя гудкі дамафона. Нарэшце даносіцца голас:

— Хто там?

— Добры вечар, — вітаецца Юджын. — Разносім газеты "Мінск на далонях", адкрыйце, калі ласка, дзверы.

Працяглы зум і шчаўчок. Юджын хаваецца ад ветру ў задушлівай цішы пад'езда. Тут клубком спляліся пахі вечаровых сталоў і смеццеправода. Чаго больш — і не зразумееш вось так, з наскоку.

"Няма куды спяшацца, падымуся пешкі." Ён цярэбіць прыступкі спружыністым крокам. Чым вышэй узбіраецца, тым падаюцца бліжэй асветленыя вокны шостага паверха ў доме насупраць. Святло запаленае і ў зале-спаленцы і ў варыўні-куханьцы.

"Руслана эканомная гаспадыня, з чаго б ёй так раскашаваць?" — здзіўляецца Юджын і прыпыняецца на лесвічнай пляцоўцы чацвёртага паверха. Прытуляецца ілбом да брудната-ватай халоднай шыбіны акна, углядаецца і нічога (нікога) не бачыць…

* * *

Дапіўшы трэцюю пляшку піва і смачна зацягнуўшыся цыгарэтай, Юджын нечакана для сябе зразумеў, што яму анікольвечкі не сумна без Русланы. Няхай шчасліва коціцца яна пад перастук цягніковых колаў на крымскае ўзбярэжжа да хваравітай сястрыцы, з якой ён усё яшчэ і не знаёмы. Адпачнуць урэшце адно ад аднаго: Юджын ад Русланы, а Руслана ад Юджына. Цяжка ўвесь час грэцца пад сонцам, часам хочацца і ў цяньку пасядзець. Заліваючы шлунак вінoм, няхай і вышэйшага гатунку, адпрэчваць насалоду ад сагрэтага далонямі каньяку. Кілаграмамі спажываючы зялёныя яблыкі, грэбліва пазіраць на спелую сакавітасць кавуна. "Ё-маё! — вырвалася з глоткі мужчыны, — хапану поўнымі шчэлепамі кахання без абавязкаў. Хачу новага цела, разгулу асалоды, бяздумнасці ўчынкаў. Хачу навізны!" На ягоны голас азірнулася маладзенькая дзяўчына за крайнім столікам, ці не студэнтка. Здзіўлена вылупіла вочкі і хіхікнула. Юджын ёй падміргнуў, маладзёнка сарамліва адвяла позірк, падхапілася і зацокала абцасікамі. Юджын памаўзліва пазіраў на зграбную фігурку, пакуль яна не згубілася сярод натоўпу на аўтобусным прыпынку.

"У мяне ўсё ёсць, а нечага не хапае. Душа з гадамі заскарузла, сціснулася, высахла, як жабіна скура на сонцы. І дзень пры дні яна ўсё чэзне, скукожваецца і смярдзіць. — Юджын зморшчыў нос. Яму і сапраўды падалося, што аднекуль патыхае ванітамі. — А ці ўсё яно настолькі добра, як мне падаецца? Жыццё з Русланай зручнае, бесклапотнае, утульнае… Адным словам — балотнае." Вось табе і маеш! Юджын здзівіўся нечаканасці сваёй высновы. "Што ж мне яшчэ трэба? Бэйбус ты, перавернуты, — ён пстрыкнуў слінай пад ногі. — Подленькая ж у цябе душонка, ой, подленькая, як у шакалёнка. А хто, пакажы мне, ад макаўкі да пятак перапоўнены святасцю? Усе такія, адным мірам памазаныя. Чакаем выпадку, зручнага моманту, каб урваць, абхітрыць, падмануць. Хлусім, не міргнуўшы, направа і налева. Усміхаемся там, дзе па мардасах трэба даць, падлабуньваемся, робім "лізь-лізь", дзе неабходна было б смачна плюнуць. Вераб'інасць душонкі кожнага выпінаецца на першы план. Галоўнае, каб чаго дрэннага не здарылася са мной, любым. Нічога, язык не адваліцца, калі і пахвалю, а не скажу, што брыда стаіць перада мною. І так ва ўсім: у сямейным жыцці, на працы, у адносінах між сябрамі і блізкімі. Кожны з гадамі ўсведамляе: за праўду моцна б'юць! Не шкадуючы, азвярэла, да бяспамяцтва. То навошта мне (яму, ёй, ім) такая праўда? Га?.."

№ 27 9 ліпеня 2010 г. ЛіМ

Беларускі тэатр "Лялька", што працуе ў Віцебску, паспяхова паўдзельнічаў у двух фэстах — XVII Міжнародным фестывалі дзіцячых тэатраў у сербскай Субоціцы і ў VI Беларускім міжнародным фестывалі лялечных тэатраў.





# Ад Субоціцы да Мінска

Журы сёлетняга фестывалю ў Субоціцы на чале з польскім прафесарам Генрыхам Юркоўскім прагледзела 20 спектакляў, прадстаўленых калектывамі з 13 краін. Паводле слоў нязменнага дырэктара фестывалю Слабадана Маркавіча, філасофская прыпавесць Оскара Уайльда "Хлопчык-зорка" ў пастаноўцы беларускага рэжысёра Віктара Клімчука так уразіла членаў журы, што яе абмяркоўвалі цэлую гадзіну. У выніку актрыса Вольга Маханькова прывезла з Сербіі прыз за лепшую жаночую ролю — Прынцэсы: гэтая ганарыстая прыгажуня жыве на сцэне толькі некалькі хвілін, але нервовае трымценне яе веера і багацце інтанацый заўсёды запамінаюцца гледачу.

Гран-пры сёлета атрымаў тэатральны калектыў з Венгрыі. А Беларусь, акрамя "Хлопчыка-зоркі", была прадстаўлена ў Субоціцы пастаноўкай "Месяц Сальеры" Брэсцкага лялечнага тэатра паводле сюжэта "Маленькіх трагедый" Аляксандра Пушкіна.

Мастацкі кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук удзельнічаў у субоціцкім фестывалі дванаццаты раз. У розныя гады ён вазіў туды — і паспяхова — свае спектаклі, ацэньваў пастаноўкі, калі працаваў у складзе журы, нават узначальваў тое журы. Гэтым разам Віктар Ігнатавіч браў удзел у навуковай канферэнцыі з выступленнем на тэму "Ад дзіцячай гульні да спектакля для дзяцей".

Паводле яго слоў, традыцыйнае мерапрыемства ў Субоціцы — з'ява ў еўрапейскім тэатральным жыцці надзвычайная. Гэта не проста набор прадэманстраваных гледачу спектакляў: фестываль уключае ў сябе і сур'ёзнае тэарэтычнае абмеркаванне праблем развіцця сучаснага мастацтва для дзяцей, і шматлікія варыянты вулічных імпрэз, і фінансаванне ды выданне рэдкай і патрэбнай спецыялістам літаратуры. І, безумоўна, магчымасць непасрэднага кантакту з самымі выбітнымі сусветнымі прафесіяналамі-лялечнікамі.

Дарэчы, акурат на фестывалі ў Субоціцы віцяблянаў напаткала прыемная навіна: спектакль сербскага тэатра з горада Ніш пад назвай "Радознало слонче" апошнім часам атрымаў найвышэйшую ўзнагароду на міжнародным фестывалі ў Балгарыі і два галоўныя прызы на міжнародным фестывалі ў Сербіі. Пры чым тут віцябляне? Патлумачу: пастаноўка "Радознало слонче" — па-нашаму "Дапытлівае сланяня" — ажыццёўлена Віктарам Клімчуком, а сцэнаграфію стварыў нязменны галоўны мастак "Лялькі" — Аляксандр Сідараў.

А вось пасля прагляду "Хлопчыка-зоркі" зацікавіліся тэатрам з Віцебска і арганізатары Міжнароднага фестывалю лялечных тэатраў у Бухарэсце. Так што ў снежні "Лялька" накіруецца ў румынскую сталіцу.

Неўзабаве віцебскіх артыстаў чакала новая вандроўка. Праўда, значна бліжэйшая — у Мінск, на VI Беларускі міжнародны фестываль лялечных тэатраў. У гэтым фестывалі "Лялька" ўдзельнічае з часу яго заснавання. Хоць мінскі фэст і не з'яўляецца конкурсным, рыхтаваліся дужа грунтоўна, бо спектакль "Кветачка-вясёлка" паводле Валянціна Катаева не так і проста прыставіць на "чужой" сцэне з-за складанасці дэкарацый і вялікай колькасці харэаграфічных нумароў. Але ж сцэна Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек для віцебскага калектыву не такая і чужая — неаднакроць даводзілася выступаць на ёй падчас ранейшых прыездаў у сталіцу. Так што і тут гледачы засталіся цалкам задаволеныя відовішчам.

Чытач "ЛіМа" ведае, што, акрамя шырока прадстаўленых беларускіх лялечнікаў, свае пастаноўкі ў Мінску паказалі артысты з Польшчы, Славеніі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Украіны і Бельгіі. Сёлетні фестываль быў асабліва багаты на спектаклі для дарослых. Іх героямі сталі і Антыгона, і Яўгеній Анегін, і Дон Жуан, і пан Твардоўскі. Дзяцей вабілі Лісіца з Ваўком, Папялушка, Дзюймовачка, Русалачка… У кампаніі гэтых папулярных персанажаў добрая, вясёлая і непасрэдная дзяўчынка Жэня з "Кветачкі-вясёлкі" не толькі не згубілася, але і выклікала шчырыя сімпатыі гледачоў.

Людміла СІМАНЁНАК
г. Віцебск

На здымках: сцэны са спектакляў "Кветачка-вясёлка" і "Хлопчык-зорка".

## Радуемся разам

Адам Мурзіч, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, стаў мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. У асяроддзі музыкантаў, прынамсі, вакалістаў, гэта вельмі паважаная асоба: значныя яго заслугі ў развіцці беларускай вакальнай школы, у падрыхтоўцы спецыялістаў-выканаўцаў. Прычым, вядома нямала гісторый пра тое, як Адам Асманавіч літаральна "выратоўваў галасы", а ўрэшце — лёс маладых спевакоў, выпраўляючы чужыя прафесійныя памылкі. Новы мастацкі кіраўнік БДАМТ доўгія гады працаваў у Мінскім дзяржаўным музычным вучылішчы імя М. І. Глінкі, апошнім часам быў там загадчыкам кафедры вакальнага аддзялення.



З абласных гарадоў і сталіцы краіны, з мястэчак і маленькіх вёсак прыходзілі дзіцячыя малюнкі, плакаты і лісты з вершамі на ўжо традыцыйны рэспубліканскі конкурс творчых работ, заснаваны Прадстаўніцтвам упраўлення Вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН у Рэспубліцы Беларусь, Міністэрствам адукацыі Беларусі, сталічным Цэнтрам творчасці дзяцей і моладзі "Эўрыка" і прымеркаваны да Сусветнага дня бежанцаў. Сотня з больш як 1600 твораў была адабраная на выніковую выстаўку "Пад адным сонцам". Пасля экспазіцыі ў Мінску яе прадставілі ў Гомелі, а заключным пунктам паказу дзіцячых работ стаў Віцебск. Выказваючы праз творчасць уласнае стаўленне да праблемы бежанцаў, дзятва малюе родны двор з кветкамі, птушкамі ды матылькамі, шчаслівы вясёлкавы свет чарадзейных казак ды гульняў, цёплае сямейнае кола, куды юныя беларусы гасцінна прымаюць і сваіх іншаземных сяброў.



"My America" — пад такой назвай праходзіў конкурс на лепшыя фотаздымкі, зробленыя беларускімі аматарамі ды прафесійнымі майстрамі фота падчас іх знаходжання ў ЗША. Конкурс быў абвешчаны Пасольствам Злучаных Штатаў Амерыкі ў нашай краіне на пачатку гэтага года. Вынікі падсумавала аўтарытэтнае журы на чале з вядомымі беларускімі фотамастакамі, выбраўшы больш як 70 работ для экспазіцыі "Амерыка вачамі беларусаў", што ладзілася ў галерэі "Панарама" на 22-м паверсе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Выстаўка сталася сумесным праектам Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь і НББ. Здымкі адлюстравалі амерыканскія традыцыі, культуру, архітэктурныя адметнасці, маляўнічыя і памятныя мясціны, забаўныя і гумарыстычныя сцэнкі з жыцця, што трапілі ў фотааб'ектыў беларусаў падчас іх вандровак ў гэтую заакіянскую краіну.

Лана ІВАНОВА

На здымках: Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр; малюнак Алены Баравулі "Мая вясёлкавая сяброўка".

Фота Віктара Кавалёва

Рэжысёр Уладзімір Арлоў на пачатку чэрвеня прадставіў адну са сваіх дакументальных стужак "Здесь вам не равнина" ў Мінскім яўрэйскім грамадскім доме. Гэта расповед пра трагічныя падзеі 1971 года, калі ў Саянах загінула група беларускіх турыстаў (альпіністы, "гарнякі", лыжнікі). У складзе яе быў таленавіты бард Арык Круп, песні якога дасюль уваходзяць у рэпертуар турыстаў, падарожнікаў і прыхільнікаў аўтарскай песні ўсяго свету. Прадстаўляючы стужку, Уладзімір Арлоў чытаў на памяць вершы Арыка. А пасля, стаіўшы дыханне, зала глядзела на маладыя ўсмешлівыя твары рамантыкаў, якім так і не давядзецца пастарэць, на прыгажосць недасягальных горных хрыбтоў, жудасныя велічныя лавіны — тое, што амаль кожнаму з прысутных было добра вядома паводле архіўных запісаў, фотаздымках аматарскіх стужках. Так, было вядома, але па-новаму тлумачыла, чаму цягнула гэтых нешараговых людзей да аблокаў… У зале плакалі. А рэжысёр Арлоў прызнаўся: "Калі ў фінале фільма гучыць песня Арыка ў яго выкананні: "А всё-таки, всё-таки хочется жить…", у мяне самога набягаюць слёзы… Мы гутарым з аўтарам стужкі.

# Усё-ткі хочацца жыць!

— Дзякуй вам вялікі — настолькі моцна, ёміста і лаканічна складзены фільм, што не можа не закрануць.

— У мае гады сорамна было б зрабіць непрафесійна.

— Спадар Арлоў, а вам самому ці блізкія падарожжы з заплечнікам на спіне?

— Аднойчы ў маладосці была чароўная ноч з дзяўчынай, поўная пацалункаў і камароў. Гэта было ў палатцы. Вось і ўвесь мой турысцкі досвед.

— Як жа нарадзілася думка зняць стужку пра турыстаў?

— Мяне заўсёды натхняюць жанчыны. Гісторыю пра саянскую трагедыю я пачуў ад альпініста Леаніда Галубоўскага. Ён параіў мне для збору матэрыялу звярнуцца да Рывекі Матавецкай. Знаёмства з цудоўным чалавекам, якая добра ведала Арыка Крупа, актыўна прапагандуе аўтарскую песню, і з яе турысцкім атачэннем, закранула душу.

— Колькі часу вы працавалі над фільмам?

— Каля двух месяцаў прайшло ад задумкі да заканчэння.

— За гэты час вы сустрэліся з такой вялікай колькасцю людзей — тых, чые лёсы так ці інакш звязаныя з загінулай экспедыцыяй… Пабывалі і на канцэртах аўтарскай песні.

— Так, было шмат сустрэч, сабралася багата матэрыялу. Нават пасля таго, як фільм паказала Беларускае тэлебачанне, людзі неслі мне фотаздымкі, запісы…

— Можа, на аснове гэтага зробіце працяг стужкі?

— Не, працягу не будзе. Як некалі казаў Юрый Тынянаў, мастакі, творцы — гэта каровы, а тэма — трава. Калі ты тут усю траву з'еў, няма чаго таптацца.

— Кажуць, вы няблага ладзіце з гітарай. Чаму на прэзентацыі не спявалі?

— З той самай прычыны, чаму ніколі не танчу ў рэстаранах. Заўсёды гляджу на сябе збоку і разумею, што дарэчы, а што не. Няхай спяваюць людзі, для якіх усё жыццё звязанае з аўтарскай песняй, іх было шмат сярод прысутных.

Чэрвень для Уладзіміра Арлова выдаўся шчодры — на экраны выйшла яшчэ адна яго прэм'ера. У тэлепраекце "Зваротны адлік" паказалі яго фільм "Бізнес па-савецку, або Жыццё ўдалося".

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Стаў лаўрэатам

Увесну ў расійскім горадзе Кіраве праходзіў XVIII Усерасійскі конкурс аўтарскай песні "Грынландыя-2010" на лепшую песню пра Вялікую Айчынную вайну. Гэты конкурс — праект палітычнай партыі "Адзіная Расія" — выяўляе і падтрымлівае ў прафесійным станаўленні таленавітых аўтараў і выканаўцаў, якія ў сваёй творчасці славяць любоў да Радзімы, шануюць традыцыі бацькоў і дзядоў і іншыя патрыятычныя каштоўнасці.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прыходзілі не толькі са шматлікіх рэгіёнаў Расіі, а і з Украіны, Беларусі, Казахстана, Паўднёвай Асеціі, Малдовы, Польшчы, Германіі, Фінляндыі, Канады — усяго больш як 500 песень! Конкурс падтрымалі Федэральнае Агенцтва па адукацыі Расійскай Федэрацыі, Усерасійская грамадская арганізацыя ветэранаў "Баявое братэрства"; у сваім лісце аргкамітэту ад імя расіян, якія жывуць за мяжой, яго высока ацаніў граф П. Шарамецеў. У склад журы ўвайшлі маршал Савецкага Саюза У. Кулікоў, старшыня Саюза кампазітараў Расіі В. Казенін, народны артыст Расіі М. Растаргуеў, вядомыя аўтары-выканаўцы К. Тарасаў, Р. Хомчык… Яны адзначылі 108 аўтараў-выканаўцаў, 15 з якіх сталі лаўрэатамі.

Званне лаўрэата гэтага конкурсу ў намінацыі "аўтар музыкі" атрымаў і наш суайчыннік Валянцін Каваліў з песняй "Свята Перамогі" на словы Аляксандра Койпіша. Валянцін Васільевіч нарадзіўся і жыве ў Мінску, з'яўляецца загадчыкам кафедры эстэтычнай адукацыі БДПУ імя М. Танка, ён — кандыдат педагагічных навук, член Беларускага саюза музычных дзеячаў, старшыня секцыі музычнага, тэатральнага і харэаграфічнага мастацтва Навукова-метадычнага савета пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, старшыня Братэрства праваслаўных званароў у імя Паўліна Літасцівага. Сярод творчых дасягненняў В. Каваліва — тры аўтарскія дыскі песень для дзяцей і дарослых, кніга "Раздайся, благовестный звон", зборнік песень для дзяцей.

Наталля ВАСІЛЬЧАНКА



# Тэатр як мара

Мінуў год, як пайшоў з жыцця выдатны музыка, дырыжор і педагог па прызванні Глеб Аляксандраў. Яго сэрца спынілася раптоўна, калі Глеб Гаўрылавіч спяшаўся на працу ў Цэнтр дзіцячай творчасці Фрунзенскага раёна Мінска, каб скончыць справы з афармленнем дакументаў для надання яго дзіцячаму музычнаму тэатру "Казка" звання "ўзорны". Да апошняга ўздыху ён жыў надзеяй, што тэатр гэты стане ўрэшце не шараговай дзіцячай студыяй, а казачным музычным палацам, дзе тысячы беларускіх дзетак адкрыюць для сябе чарадзейны свет сапраўднага мастацтва. Колькі разоў у яго спектаклях добра перамагала зло! Ён верыў, што і ў жыцці абавязкова так будзе, бо побач з ім — дзеці, якія і на сцэне, і ў жыцці верылі ў цуды! Ідучы поруч, ён пачуваў сябе абавязаным прывесці іх да поспеху. Яго вера грунтавалася на ўласным жыццёвым досведзе: талент, цярпенне і зацятая праца заўсёды вядуць да жаданай мэты.



Глеб Аляксандраў нарадзіўся ў Астрахані ў 1936 годзе. Яго бацька быў выдатным скрыпачом, які пасля заканчэння Маскоўскай кансерваторыі працаваў у Імператарскім струнным квартэце. Рэвалюцыя вымусіла яго вярнуцца на радзіму, у Астрахань, дзе ён не толькі заняўся выкладаннем, але і здолеў наладзіць у горадзе надзвычай цікавае музычнае жыццё: кіраваў сімфанічным аркестрам, арганізаваў тэатр народнай оперы, па чацвяргах у сваім доме разам з музыкамі-аматарамі ладзіў вечары квартэтнай музыкі. Сын Глеб вырас у атмасферы глыбокай пашаны да высокага мастацтва і адданага яму служэння; пад кіраўніцтвам бацькі асвоіў скрыпку, хоць і не думаў пра артыстычную кар'еру. Пасля школы і двух гадоў вучобы ў Астраханскім дзяржаўным тэхналагічным інстытуце рыбнай прамысловасці ён робіць рашучы ўчынак: пакідае інстытут і едзе ў горад Горкі паступаць у кансерваторыю, не маючы нават пасведчання пра заканчэнне музычнай школы. Конкурс на скрыпку быў велізарны, і дзёрзкі абітурыент не дабраў неабходных балаў. Аднак рэктар параіў Глебу з'яздзаць з Горкага і скончыць музычнае вучылішча. 3 цыдулкай ад рэктара малады чалавек накіраваўся туды. І праз год, здаўшы экстэрнам усе іспыты, з дыпломам сярэдняй музычнай установы Г. Аляксандраў быў прыняты ў кансерваторыю!

У роднай Астрахані Глеб Гаўрылавіч працягваў справу бацькі, якога ў той час не стала. Але ўзяўшыся за тэатральную справу, зразумеў, што і ведаў недастаткова, і дырыжорскага майстэрства бракуе. Яму пашанцавала трапіць ва Уральскую дзяржаўную кансерваторыю на спецыяльнасць "оперна-сімфанічнае дырыжыраванне" і вучыцца ў выдатных майстроў. Пасля стажыроўкі ў Саратаўскім тэатры оперы і балета і выдатнай абароны дыпломных праектаў (пастаноўка оперы "Кармэн" і сімфанічны канцэрт, у праграме якога былі "Сімфанічныя танцы" С. Рахманінава і Канцэрт для скрыпкі П. Чайкоўскага) сумненну ў правільнасці абранага шляху не засталося. У памкненні да вялікай самастойнай працы Глеб Аляксандраў спыніў свой выбар на пасадзе дырыжора Башкірскага тэатра оперы і балета, які на той момант застаўся без галоўнага дырыжора.

На новым месцы малады дырыжор Глеб Аляксандраў хутка заваяваў сімпатыі гледачоў і аўтарытэт сярод калег, а праз два гады быў прызначаны дырэктарам тэатра. Яго творчы багаж імкліва папаўняўся. Пад кіраўніцтвам Г. Аляксандрава ішлі спектаклі: "Барыс Гадуноў", "Князь Ігар", "Русалка", "Яўгеній Анегін", "Царская нявеста", "Алека", "Іяланта", "Пікавая дама", "Моцарт і Сальеры", "Травіята", "Аіда", "Кармэн", "Сельскі гонар", "Трубадур", "Тоска", "Паяцы", ажыццяўляліся пастаноўкі спектакляў на музыку савецкіх, у тым ліку башкірскіх кампазітараў.

На пачатку 1980-х у Башкірыі вызначылася новая кадравая палітыка, скіраваная на змену "чужых" выхаванцамі нацыянальнай школы. Сыход Г. Аляксандрава быў непазбежны, ён не шукаў месца ў іншым тэатры, бо гэты адняў столькі сіл і душэўнай энергіі, што проста неабходна было пераключыцца на іншы від дзейнасці. Яраслаў Вашчак, галоўны дырыжор тагачаснага ДАВТ оперы і балета БССР, па-сяброўску параіў Аляксандраву паспрабаваць сябе ў ролі кіраўніка камернага аркестра — у Мінску была такая вакансія. Дырыжор у 1984 годзе пераехаў у Мінск, але месца ў камерным аркестры для яго не знайшлося.



Выпадкова Г. Аляксандраў трапіў у Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. Яму прапанавалі паставіць тут музычную камедыю А. Мдзівані "Дзяніс Давыдаў". Прэм'ера прайшла паспяхова, і дырыжору-пастаноўшчыку прапанавалі сталую працу. Але хутка высветлілася, што тэатр, нягледзячы на размяшчэнне ў цэнтры сталіцы, жыве незайздросным правінцыйным жыццём.

Новага дырыжора гэта спачатку вельмі прыгнятала. За многія гады ён прызвычаіўся да шалёнага рытму працы, да адказнасці за ўсё, што адбываецца ў тэатры. Ён горача спрабаваў штосьці камусьці даводзіць, пераконваць, угаворваць, сварыцца і, нарэшце, з горыччу прызнаць: "Нічога не магу зрабіць — усіх усё задавальняе". Тады выспела рашэнне: калі змены не прадбачацца, трэба стварыць свой тэатр.

Ідэю падказала даўні сябар, стваральнік і кіраўнік першага ў свеце Музычнага тэатра для дзяцей, народная артыстка СССР Наталля Сац. Першы спектакль, казка "Шапка з вушамі" Э. Хагагарцяна, матэрыял якога падаравала яму Н. Сац, Глеб Аляксандраў паставіў разам з жонкай Наталляй Уладзіміраўнай у 1986 годзе сіламі студэнтаў музычнага факультэта тагачаснага Мінскага педінстытута. У 1992-м дырыжор бярэцца за пастаноўку дзіцячай оперы С. Баневіча "Гісторыя Кая і Герды" ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі. Ён горача пераконвае ўсіх, што ніякія матэрыяльныя цяжкасці крызіснага часу не павінны адбіцца на якасці спектакля для дзяцей — і дамагаецца свайго. Дзякуючы падтрымцы незабыўнага дырэктара тэатра Сяргея Косціна ўсе патрабаванні дырыжора былі выкананы. І надалей яго пазіцыя не дапускае кампрамісаў: для дзяцей або ўсё, або нічога. Усё павінна быць лепшым: музычны матэрыял, рэжысура, сцэнаграфія, харэаграфія, выканаўцы. Аляксандраў патрабуе ад усіх удзельнікаў, дарослых і маленькіх, поўнай самааддачы і сам з'яўляецца прыкладам самааддана працы. Ён бярэ на сябе вырашэнне ўсіх творчых і пастановачных праблем, знаходзіць аднадумцаў і фундатараў. Сваім запалам і верай у перспектыўнасць распачатага ён настолькі захапляе людзей, што многія згаджаюцца працаваць з ім дзеля ідэі. За сімвалічную плату вучаць дзяцей кіраўнік хору Алена Гуляева і педагог па сцэнічным майстэрстве Анатоль Касцецкі, працуюць канцэртмайстры і балетмайстар. Дзякуючы сяброўскім адносінам, спектаклі ставяць вядомыя пецярбургскія рэжысёры: Юрый Аляксандраў, Аляксандр Пятроў, Міхаіл Рубан, эскізы сцэнічных строяў стварае выдатны мастак Ірына Прэс. Запачаткаваны Г. Аляксандравым тэатр "Казка" сталее, набывае прызнанне. Пасля оперы "Гісторыя Кая і Герды" юных гледачоў штогод радуюць новыя прэм'еры: 1993 — опера англійскага кампазітара Д. Рансуіка "Чараўнік", 1994 — опера "Дзіцячы альбом" на музыку П. Чайкоўскага, 1995 — опера-казка "Вясновая песня", 1996 — мюзікл для дзяцей "Прыгоды ў замку Алфавіт" (абодве — аўтара гэтых радкоў). У 1996 годзе ў Санкт-Пецярбургу за ўдзел у фэсце "Гімн вялікаму гораду" дзіцячы музычны тэатр "Казка" ўзнагароджваецца дыпломам лаўрэата "За высокае выканальніцкае майстэрства і вялікі ўнёсак у справу дзіцячага музычна-сцэнічнага мастацтва". Здавалася, мара пра з'яўленне ў Беларусі музычнага тэатра для дзяцей вось-вось спраўдзіцца. Але ў той жа год у гісторыю "Казкі" была ўпісана чорная старонка.

Адносіны дырыжора-энтузіяста з новай дырэкцыяй тэатра музычнай камедыі складваліся няпроста. Спачатку была безумоўная падтрымка. Але бурлівая дзейнасць тэатра ў тэатры хутка пачала выклікаць раздражненне. Да таго ж, на пастаноўку дзіцячых спектакляў адцягваліся і частка грошай, і творчыя сілы. Пачаліся непаразуменні, узаемныя папрокі. Спроба заявіць пра поўную самастойнасць дзіцячага тэатра наогул выклікала абурэнне. Аляксандрава абвінавацілі ў няўдзячнасці, у задавальненні асабістых амбіцый. А ён проста быў перакананы, што новы тэатр не зможа нармальна развівацца ў атмасферы правінцыйнасці, якая ўсё больш засмоктвала "дарослы" калектыў. Дарма Глеб Аляксандраў шукаў падтрымку ў Міністэрстве культуры і Мінскім гарвыканкаме. Ідэю стварэння Цэнтральнага дзіцячага музычнага тэатра не ацанілі і не падтрымалі, а дырэкцыя шукала нагоду пазбавіцца ад "парушальніка спакою". І калі Глебу Гаўрылавічу споўнілася 60, з ім не працягнулі працоўны кантракт. Хоць усе выдатна разумелі, што за гэтым звальненнем яны ідуць на свядомае знішчэнне нованароджанага тэатра, які мог прынесці добрую славу ўсёй беларускай музычнай культуры!

Прайшло 13 гадоў пасля выгнання Г. Аляксандрава з тэатра. А мара і дзіцячы тэатр "Казка" працягвалі жыць! Тэатр не адступіўся ад сваіх прынцыпаў. У найцяжкіх умовах, без прытулку, без фінансавання, ён зацята чапляўся за заваяваную вышыню, адстойваў сваё права звацца Тэатрам! Тулянні па школах, раённых цэнтрах мастацкага выхавання ў пошуках прытулку яшчэ больш згуртавалі дзяцей і іх бацькоў. Першыя юныя артысты выраслі і перайшлі на дарослыя ролі. Працягвалася інтэнсіўная праца: новыя пастаноўкі, выступленні, удзел у міжнародных фэстах: 1998 — опера Д. Шастаковіча "Казка пра папа і работніка яго Балду", 1999 — опера Э. Калманоўскага "Беласнежка і сем гномаў", 2001 — опера С. Баневіча "Паводле казкі Андэрсена", 2003 — мюзікл Э. Уэбера "Коткі", 2004 — музычны спектакль "Прынцэса на гарошыне" В. Усовіча, 2005 — інтэрмедыя "Пастараль" з оперы П. Чайкоўскага "Пікавая дама", 2007 — дзіцячая опера "Лясная школа, ці Сон першакласніцы" аўтара гэтых радкоў. Музычны тэатр "Казка" дзякуючы неўтаймоўнай энергіі яго заснавальніка і кіраўніка не толькі выжыў, але і атрымаў знакавыя перамогі на міжнародных музычна-тэатральных фэстах, пра што сведчаць дыпломы лаўрэатаў (С.-Пецярбург — 2002 г., Масква — 2004 г., Ніжні Ноўгарад — 2006, 2008 гг.)

У 2004 годзе ў Маскве, уручаючы Г. Аляксандраву залаты медаль і прэмію лаўрэата "За стварэнне ўнікальнага дзіцячага тэатра і мюзікла "Коткі", прэзідэнт Міжнароднай акадэміі тэатра Д. Улаў сказаў: "Беларускі дзіцячы музычны тэатр — гэта ўнікальная з'ява на ўсёй постсавецкай прасторы! За ім будучыня! У беларусаў варта вучыцца, як выхоўваць падрастаючае пакаленне з дапамогай музыкі і тэатра". Глеб Гаўрылавіч тады толькі ўсміхнуўся. Яму было ніякавата за краіну, дзе пра яго з паспешнай радасцю забыліся. І ўсё ж ён пачуваў сябе шчаслівым чалавекам. Бо для сапраўднага мастака шчасце — у магчымасці сумленна служыць свайму прызванню, годна займацца любімай справай. Ён быў шчаслівы таму, што яго маленькія сябры жылі ў казцы, якую самі стваралі штодня. Ён шкадаваў толькі пра адно: так і не ўдалося давесці да свядомасці чэрствых чыноўнікаў, у чым розніца паміж тэатрам юнага гледача і тэатрам юнага акцёра. Дваццаць гадоў у адказ на сваю прапанову адкрыць у сталіцы Цэнтральны дзіцячы музычны тэатр ён чуў адно: "Што, у Мінску мала спектакляў для дзяцей?".

Праблема гэтага маленькага тэатра з бязлітаснай яркасцю высвятляе вялікую праблему. З савецкіх часоў любяць у нас са значным выглядам паўтараць і ўзводзіць да абсалютнай ісціны сакраментальную фразу вялікага К. Станіслаўскага: "Тэатр пачынаецца з вешалкі". Спадарства, але на той час у Станіслаўскага ўжо быў свой Тэатр! Гэта для гледача ён пачынаецца з вешалкі. Сапраўдны тэатр, як і кожнае сапраўднае мастацтва, нараджаецца ў душах яго творцаў. Тэатр нарадзіўся, час гэта прызнаць. Разам са сваім стваральнікам ён прайшоў нялёгкія выпрабаванні, даказаў творчасцю права на існаванне ў годных умовах. Хто, нарэшце, возьмецца дабудаваць сцены і дах, тыя самыя "вешалкі", калі не Міністэрства культуры? Глеб Гаўрылавіч Аляксандраў сваю частку шляху да Тэатра-мары прайшоў сумленна і годна. Давайце ж разам не прыпыняць хаду!

Віктар ВОЙЦІК,
заслужаны дзеяч
мастацтваў Беларусі, член
прэзідыума Беларускага
саюза музычных дзеячаў,
кампазітар

На здымках: Глеб Аляксандраў; сцэны са спектакляў "Гісторыя Кая і Герды", "Дзіцячы альбом".

# Боская ліра

У 1920—1930 гадах сярод заходнебеларускіх культурных дзеячаў вылучалася такая неардынарная, бліскуча адораная асоба, як беларускі каталіцкі святар і паэт Кастусь Стаповіч, вядомы ў гісторыі беларускай літаратуры пад псеўданімам Казімір Сваяк. Сёлета споўнілася 120 гадоў з дня яго нараджэння.

Нарадзіўся Казімір Сваяк у вёсцы Барані на Астравеччыне ў вялікай працавітай сялянскай сям'і. Бацькі здолелі даць адукацыю амаль усім сваім дзецям. Кастусь вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы і гарадской — Свянцянах. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю і ў 1915 годзе ў Пецярбургу быў пасвечаны ў ксяндзы. Святарскую дзейнасць пачаў вікарыем у парафіі Камаі Свянцянскага павета, але хутка пераехаў працаваць на родную Астравеччыну ў вёску Клюшчаны. Менавіта тут пачалася яго мэтанакіраваная справа па беларусізацыі рэлігійнага жыцця. У парафіях, дзе даводзілася святару працаваць, ён адкрыў беларускія школы, стварыў мастацкія гурткі (тэатральныя, музычныя, драматычныя), арганізаваў беларускія настаўніцкія курсы, заснаваў культурна-асветніцкую суполку беларускай моладзі "Хаўрус сваякоў", якая вырасла з парафіяльнага хору, справаваў весці службу ў касцёле на беларускай мове. Усё гэта рабілася ў неспрыяльных умовах, калі польскія духоўныя і свецкія ўлады чынілі перашкоды ўсяму беларускаму, рабілі захады па дыскрэдытацыі ксяндза-беларуса.

Культурна-асветніцкую дзейнасць К. Сваяк спалучаў з літаратурнай. Ён быў літаратарам высокай культуры, добрай адукацыі, ведаў некалькі моў, шмат чытаў як белетрыстыку, так і літаратуру філасофскага зместу. Літаратурная спадчына К. Сваяка немалая і жанрава разнастайная. Ён — аўтар публіцыстычнага трактата пра шкоду п'янства "Алкаголь", п'есы "Янка Канцавы", вершаванага апавядання "Чарку дай, браце", драматычнай містэрыі "Купалле", філасофскага дзённіка "Дзея маёй мыслі, сэрца і волі", празаічных твораў, надрукаваных у розных тагачасных перыядычных выданнях, укладальнік малітоўніка для беларусаў "Голас душы". Але найбольш поўна талент К. Сваяка раскрыўся ў паэзіі. Свой першы верш "На імяніны майго пробашча" ён напісаў у 1912 годзе, а ў 1913-м змясціў некаторыя творы ў газеце "Беларус".

У 1924 годзе пабачыў свет адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў К. Сваяка "Мая ліра", які, як адзначалі крытыкі, адразу вылучыў паэта сярод беларускіх дзеячаў дваццатых гадоў. Скразны матыў сабраных у ім вершах — заступніцтва перад Богам за свой народ. Вершы паэта прасякнуты пафасам адмаўлення нацыянальна-палітычнага і сацыяльнага прыгнёту, жыццесцвярджэннем беларускай нацыі, яе культуры. У іх гучаць характэрныя для маладой беларускай паэзіі матывы гаротнасці, якія пераходзяць у аўтарскія малітоўныя звароты да Бога.

Ты, Божа, разсудзі:
  чаму народ мой бедны
Праз век гніе ў цьме,
  у няволі безпатольнай,

Украсці я хацеў
  вось-гэту тайну з неба:
Чаму нядобраму
  шырока сьвет-дарога,
Чаму цярпліваму
  нямаш у хаце хлеба,
Чаму на сьвеце
  больш і больш благога.

У духоўнай няволі, прыгнёце, пакутным роздуме і сумленнях жыве герой яго вершаў "Чаму мне маркотна", "Хмары-хмараенькі" і іншых, разам з тым значнае месца ў творчасці К. Сваяка займала паэтызацыя красы, якой, на яго думку, належала магістральная роля ў прыродзе і Сусвеце. Ёсць у яго вершы рэфлексійныя ("Вецер шалее", "Сэрца", "Спавіў мне сэрца жаль…", "Тайніцу духа…"), пра пакуты кахання ("Эрос і Псыхэя", "Як мрэц…", "Не чаруй"), звязаныя з фальклорам ("Русалка", "Бабе і чорт з дарогі ўступае", "Вось як"), сатырычныя ("Кавэрня"), маральна-дыдактычная ("З кнігі мудрасьці", "Што занадта — нездарова", "Шчасьце").

У заходнебеларускай літаратуры 1930-х гадоў паэзія К. Сваяка была адной з самых вядомых і папулярных. Не страціла сваёй значнасці і адметнасці яна і ў наш час.

Кацярына ВАРАНЬКО

# Рамантызм у камені

**Мала хто з жыхароў Свіслачы, бываючы на тэрыторыі Старых (праваслаўных) могілак або наведваючы Крыжаўзвіжанскую царкву, не бачыў напаўразваленых старажытных помнікаў і надмагілляў. Аднак мала хто здагадваецца, што некаторыя з гэтых помнікаў з'яўляюцца творамі мастацтва, выкананымі ў стылі рамантызму. Сярод іх асаблівае месца належыць працам майстэрні Баляслава Шышкевіча. Такіх на свіслацкім некропалі маецца дзве: помнік на магіле Івана Лойкі (1841 — 1907) і на месцы сямейнага пахавання Уладзіміра (1872 — 1905) і Мікалая Сцепураў (1879 — 1905). Для гэтых прац характэрны асноўныя стылістычныя рысы майстэрні Б. Шышкевіча.**



Баляслаў Шышкевіч (1864 — 1893) паходзіў са збяднелай шляхты каталіцкага веравызнання. Ён скончыў Ваўкавыскую павятовую школу. Невядома, дзе навучаўся майстар пасля, аднак дакумент, перададзены гродзенскаму губернатару, выключыў усялякія падазрэнні і сумневы ў здольнасцях Б. Шышкевіча. Па меркаванні даследчыка Ю. Гардзеева, Шышкевіч, верагодней за ўсё, падаў сведчанне аб праходжанні практыкі ў майстэрні аднаго з вядомых у той час скульптараў. Супраць існуючай сярод гродзенцаў легендзе пра геніяльнага самавука сведчаць і прафесійная інтэрпрэтацыя твора мастацтва, і свядомае аперыраванне матывамі, вядомымі ў скульптуры надмагілляў з папярэдніх эпох.

Актыўную творчую дзейнасць Б. Шышкевіч пачаў у Гродне, дзе на вуліцы Іерусалімскай (цяперашняя Антонава) у хаце Сідзельскага адкрыў майстэрню. Пазней яна, верагодна, знаходзілася на вуліцы Ганчарнай. Першапачаткова майстар працаваў адзін. Яго работы па мастацкім узроўні пераўзыходзілі творы іншых гродзенскіх майстроў, што стала прычынай зайздрасці і непрыкрытай варожасці ў адносінах да майстра. З-за скаргаў нядобразычліўцаў яму прыйшлося даказваць сваю кампетэнтнасць у мастацтве разьбы па камені.

Паступова фірма Шышкевіча набыла шырокае прызнанне, а самога Баляслава ўзнагародзілі тытулам "Наследственного Почетного Гражданина города Гродно". Аднак жыццё майстра было неверагодна кароткім: ва ўзросце 29 год ён памёр ад сухотаў. Фірма Шышкевіча, якой пасля смерці майстра кіравала яго жонка, праіснавала да 1907 г.

Найбольшая колькасць работ Б. Шышкевіча знаходзіцца на праваслаўным і каталіцкім (Фарным) некропалях горада Гродна. На каталіцкім — побач з "Алеяй Ажэшкі" (дзе пахавана Эліза Ажэшка) ёсць "Алея Шышкевіча", дзе пад надмагіллем уласнай работы пахаваны сам майстар і яго сям'я. На гэтай алеі можна ўбачыць і іншыя помнікі з майстэрні Шышкевіча.

Па меркаванні даследчыка В. Чарапіцы, большасць надмагілляў, выраблених у майстэрні Шышкевіча, адрознівае арыгінальнасць форм, дэкаратыўнасць і вытанчаны рамантызм. У аснове ўсіх гэтых якасцяў — творчая індывідуальнасць майстра, характар матэрыялу (лёгкі пясчанік на гранітнай або мармуровай аснове) і, у пэўнай меры, пажаданні заказчыка.

Сярод даследчыкаў лепшым творам Шышкевіча лічыцца скульптурная кампазіцыя "Прыгожая плакальшчыца", змешчаная на магіле губернскага чыноўніка Якава Памеранскага (1825 — 1886). Вялікае мастацкае значэнне мае і створаны ў сярэдзіне 1880-х гадоў помнік Пецю Дуніну-Марцінкевічу, які ў гродзенцаў атрымаў назву "Сумны хлопчык". У цэлым, у работах скульптара можна прасачыць асабліва трапяткія адносіны да выканання дзіцячых надмагілляў.



Даследчык Ю. Гардзееў выказвае гіпотэзу пра тое, што працы Б. Шышкевіча захаваліся і на старым некропалі горада Вільнюса (некропаль Росса). Прынамсі, там ёсць шэраг скульптур падобнага стылістычнага характару. Работы гэтага майстра захаваліся і ў Свіслачы, на канец XIX ст. невялікім правінцыйным мястэчку, што вельмі незвычайна.

Што ж уяўляюць сабою надмагіллі майстэрні Шышкевіча? Да найбольш характэрных і эфектных, што складаюць "почырк" майстра, належаць помнікі ў выглядзе вялікіх валуноў, як правіла стылізаваных пад скалу. "Скалу" звычайна вянчае спецыяльна аздоблены (каб здавалася, што ён зроблены з дрэва) і абвіты плюшчам крыж. На некаторых помніках побач змешчаны букет руж, асобныя парасткі якога часам пераплятаюцца на крыжы. У ніжняй частцы помніка майстар як правіла змяшчаў знакі, вядомыя з папярэдніх эпох: перавернутыя згасаючыя паходні, вянкі з сухацвету з уплеценымі ў іх ружамі, марскія якары ды інш. Да прыкладу, на магіле І. Лойкі ў Свіслачы мы бачым перавернутую паходню, а на магіле Сцяпураў — ружу. У могілкавай скульптуры кожная дэталь нясе адмысловы сэнс. Перавернутая згасаючая паходня сімвалізуе згаслае жыццё. Ставіліся помнікі на нізкіх каменных плітах з пясчаніка. На франтальнай адшліфаванай частцы валуноў размяшчаўся надмагільны надпіс і эпітафія. На ніжняй пліце ставілася таўро фірмы, якое ў розны час выглядала пароднаму: "Шишкевич", "Б. Шишкевич", "Мастерская Б. Шишкевича в Гродно", "Б. Шишкевич, Гродно, ул. Гончарная", "Р. Шишкевич". На помніку І. Лойку можна заўважыць таўро: "Шишкевич. Гродно". А на верхняй частцы помніка, каля крыжа, знаходзяцца "пасаджаныя" долатам каменячоса кусты папараці, якія прабіваюцца паміж камянямі.

Часцей за ўсё на верхняй частцы помніка, побач з крыжам, размяшчалася скульптура. На жаль, на работах у Свіслачы яна адсутнічае, што можна лёгка растлумачыць: тут прадстаўлены апошнія работы майстэрні Шышкевіча, калі самога майстра ўжо не было сярод жывых, і яго фірму вяла жонка Рома-Марыя (помнік І. Лойку, магчыма, самы апошні — у 1908 г. фірма Шышкевіча ўжо не функцыянавала). Зразумела, асноўныя рысы аўтарскага стылю вучні і памагатыя майстра (каля 10 чалавек) змаглі перадаць, аднак у поўнай меры спасцігнуць творчую манеру настаўніка яны не здолелі.

Б. Шышкевіч працаваў у стылі рамантызму. Адзінай яго працай у неагатычным стылі з'яўляецца склеп Грынкевічаў на Фарным некропалі ў Гродне. На жаль, скульптура з гэтага надмагілля згублена. Праваслаўны і каталіцкі некропалі горада Гродна размешчаны ў складзе гістарычнага цэнтра горада і, у адрозненне ад гарадскіх могілак Свіслачы, ахоўваюцца законам як гісторыка-культурная каштоўнасць. Вялікая колькасць работ Б. Шышкевіча сёння знаходзіцца ў паўразбураным стане. Віны майстра ў гэтым няма: разьбяны пясчанік і праз стагоддзе захоўвае абрысы, нададзеныя яму долатам скульптара. А вось людская зайздрасць і вандалізм, здольныя, верагодна, хутка знішчаць непаўторныя помнікі ўвасобленага ў камені рамантызму.

Сяргей РАМАНАЎ

На здымках: помнікі, створаныя ў майстэрні Баляслава Шышкевіча.

Фота аўтара

## Лёсы людскія

# Ідуць касцы, звіняць іх косы…

Майстэрству пісьменніка-гісторыка, краязнаўцы Сяргея Чыгрына вяртаць з забыцця лёсы знакамітых землякоў можна толькі пазайздросціць. І вось новая яго кніга — "Жыў родны песняй" (Мінск, "Кнігазбор", 2010 г.) — пра кампазітара, музычнага педагога Антона Міхайлавіча Валынчыка (1896 — 1985), якога зараз мала хто і ведае.

Між тым, Антон Валынчык быў уганараваны званнем заслужанага дзеяча культуры БССР, загадваў кафедрай музыкі і спеваў Гродзенскага педагагічнага інстытута, з'яўляўся хормайстрам гродзенскага народнага ансамбля песні і танца "Нёман", быў мастацкім кіраўніком Гродзенскай народнай капэлы настаўнікаў. Аўтар больш ста музычных твораў, сярод якіх — хары і песні на словы Янкі Купалы ("Зайшло ўжо сонейка", "За праўду" і іншыя), Якуба Коласа ("Ліпы старыя", "На сенажаці", "Не бядуй", "Устаньце, хлопцы" і іншыя), Петруся Броўкі, Адама Русака. Сяргей Чыгрын і цяпер, збіраючы ўспаміны пра Валынчыка, пачуў ад аднае жанчыны на Слонімшчыне наступныя спевы: "Ідуць касцы, звіняць іх косы, / Вітаюць буйныя іх росы, / А краскі ніжай гнуць галовы, / Пачуўшы косак звон сталёвы…"

Лёс Антона Міхайлавіча склаўся так, што ён працаваў шмат дзе ў Беларусі. У Гомелі, на роднай Слонімшчыне, у Лунінцы, пасля — у Клецку і Навагрудку… Пасля Вялікай Айчыннай — у Ашмянах, Горках, у Мар'інай Горцы, у Пухавічах і Тальцы Пухавіцкага раёна. У 1957 — 1961 гадах — хормайстар ансамбля песні і танца ў Маладзечне. Сяргей Чыгрын уважліва даследуе "геаграфію" жыцця і творчасці кампазітара, многія сучаснікі якога падкрэслівалі: "Ён быў у сваёй справе — суперпрафесіянал, мэтр, вялікі знаўца. Яго заўсёды хвалявала чысціня беларускай мелодыі, чысціня роднай мовы, шчырасць у гэтых пытаннях. У Беларусі іх можна паставіць разам — Шырму, Цітовіча, Валынчыка і Роўду. Гэта вялікія беларускія музычныя рэгенты…". У сваёй кнізе Сяргей Чыгрын звяртае ўвагу на неабходнасць належнага ўшанавання памяці пра гродзенскага кампазітара — і на гарадскіх могілках у раёне ААТ "Гродна-Азот", дзе пахаваны славуты дзеяч музычнай культуры Беларусі, і, магчыма, мемарыяльнай дошкай на адной з вуліц абласнога цэнтра.

У кнізе "Жыў роднай песняй", якая выдадзена накладам 100 асобнікаў, змешчаны яшчэ і словы, і ноты некаторых песень Антона Валынчыка.

Мікола МІРШЧЫНА

№ 27 9 ліпеня 2010 г. ЛіМ

Міхаіл Ляўковіч прадстаўляе знаную Віцебскую мастацкую школу, што дала знакамітыя ва ўсім свеце імёны, якімі мы ўсе ганарымся. Менавіта сённяшнія віцебскія мастакі, якія працягваюць славутую традыцыю, вельмі плённа, старанна, грунтоўна і цікава працуюць на карысць нашага выяўленчага мастацтва. Такія словы выказаў старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч у адрас Міхаіла Ляўковіча з нагоды адкрыцця ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі "Палац мастацтва" яго персанальнай выстаўкі, прымеркаванай да 60-годдзя творцы.





# Любіць сваё да самазабыцця

Намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяргей Цімохаў адзначыў, што ён у свой час быў сябрам Віцебскага абласнога аддзялення саюза мастакоў, дзе вітае своеасаблівы станоўчы дух і здаровая канкурэнцыя. У абласным цэнтры ёсць розныя суполкі, якія паміж сабой, у добрым сэнсе, спрачаюцца, ставяць эксперыменты і выходзяць на новыя ўзроўні. Так, Міхась Васільевіч — старшыня суполкі "Віцебская акварэль", у якую ўваходзяць мастакі Санкт-Пецярбурга, Мексікі і Віцебска. Яго арганізатарскія здольнасці прынеслі шмат плёну і на карысць абласному аддзяленню, і агульнаму творчаму саюзу.

Таксама юбіляра віталі першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення БСМ Алег Скавародка, яго намеснік Віктар Шылко.

Не застаўся ў баку і віноўца ўрачыстасці. Міхаіл Ляўковіч выказаў удзячнасць усім прысутным і падкрэсліў, што калі хоць у аднаго чалавека яго творы закрануць душу, ён будзе вельмі гэтым усцешаны. Бо адбіраць карціны для экспазіцыі — вельмі складаная справа. Часам здаецца, што ўвогуле няма чаго паказваць гледачам. Тут на дапамогу прыходзіць першы крытык і дарадца мастака — яго жонка Святлана Мікалаеўна. Завяршыў Мікалай Васільевіч свой зварот да наведвальнікаў словамі Пятра Бітэля, якія з'яўляюцца для яго крыніцай натхнення: "Чужое паважай да пакланення, сваё любі да самазабыцця".

Філасоф, знаўца фальклору, гісторыі, традыцый, М. Ляўковіч асвойвае і асэнсоўвае рэчаіснасць. У яго творчасці гучыць чыста беларуская мелодыя. Яна напаўняецца нацыянальным рамантызмам і сэнсавай глыбінёй. У вобразны строй твораў мастак уключае разважанні пра сучаснасць, мінулае і будучыню чалавека і народа: "Падарожжа ў мінулае", "Усяслаў Чарадзей. Вяртанне", "Перамога. Грунвальд", "На абарону Айчыны", "Вітаўт", "Сёмуха", "Зіма. Каляды", "Калядоўшчыкі".

Прыцягваюць увагу лірычныя матывы, натхнёныя краявідамі прыроды, зроказымі ўражаннямі: карціны з адмыслова выпісанымі аблокамі на небе і ў адбітку ў спакойнай плыні рэчкі "Мільгаючы дзень", "Неба купаецца", краявіды "Летні вечар", "Вечаровы звон", няўлоўнамройная "Легенда", пяшчотныя "Незабудкі", "Размова" з нізкі "Успамін пра лета". Творы М. Ляўковіча люструюць унутраную святланоснасць, зіхацяць знутры, агортваюць, чаруюць і напаўняюць сваёй энергетыкай.

Шлях творцы ў мастацтве азначаны нястомнай працай і глыбокай арганічнасцю. Міхась Ляўковіч працуе ў акварэлі і алейным жывапісе ў жанрах партрэта, краявіду, пейзажу, нацюрморта, тэматычнай кампазіцыі. Вылучаюцца ягоныя "Актрыса Раіса Грыбовіч у ролі Рагнеды", "Рэжысёр Віталь Баркоўскі", "Акцёр Пятро Ламан у ролі Радзівіла Рудога". Прываблівае цікавая кампазіцыя "Па той бок дня. Тодар Кляштарны". На карціне "Караткевіч. Праз вечнасць" пастава пісьменніка нібы зліваецца, перацякае ў блакітнае неабсяжнае неба. Кранаюць шчымлівыя стрункі душы самотна-мудрыя вочы кабеты ў рабоце "Непраходзячае. Бабуля Наталля". Адметныя кампазіцыйна-тэхнічным увасабленнем "Беларуская плашчаніца", "Айцец і сын", арыгінальнай задумай "Сімпозіум", "Мы".

Міхаіл Васільевіч, захоўваючы любоў да класікі, стварае нізку карцін на тэмы музыкі М. Мусаргскага, М. Равэля і М.Кл. Агінскага, прыкладам, мелодыя тугі і разважання пра жыццё гучыць у "Развітанні з Радзімай". Мастак ажыццявіў свае асацыяцыі музыкі пры дапамозе пэндзляў і фарбаў. Тут адсутнічае выпадковасць, бо ў творчым працэсе ён актыўна выкарыстоўвае музыку.

Работы М. Ляўковіча вылучаюцца глыбінёй і складанай драматургіяй вобразаў з падкрэслена нацыянальным каларытам, трапяткім стаўленнем да перадачы ўнутраных уражанняў у спалучэнні з аўтарскай манерай распрацоўкі жывапіснай прасторы.

Віктар КАВАЛЁЎ
Фота аўтара







## Грунвальд — побач

Сёння, 9 ліпеня, Літаратурны музей Максіма Багдановіча ладзіць урачыстае адкрыццё мастацкай выстаўкі "Грунвальд за смугою часу". За гадзіну да вернісажа, пачатак якога прызначаны на 18.00, на музейным ганку і падворку адбудзецца тэматычная тэатралізаваная імпрэза. Сцэнарны план абяцае яскравае відовішча — з двубоем рыцараў у прысутнасці гараджан і шляхты, з прамовай Вітаўта (акцёр Валерый Шушкевіч), з удзелам хору "Багародзіца" мінскага касцёла святой Тройцы, інструментальнага трыо "Вытокі", музычных гуртоў "Ліцьвінскі хмель", "Тутэйшая шляхта" і танцавальнага — "Белы тур". Будуць гучаць песні, прысвечаныя Грунвальдскай бітве і Вітаўту, п'есы са старадаўніх ананімных зборнікаў — г. зв. "Полацкага сшытка", "Віленскага сшытка", творы Станіслава Манюшкі на вершы Яна Чачота... На адкрыцці выстаўкі плануюцца выступленні дырэктара музея Таццяны Шэляговіч і мастака Міколы Купавы.

## Выстаўкі

## Новая галерэя

Яна адкрылася ў офісе партала TUT.BY (вуліца В. Харужай, 1а) выстаўкай дэвіянтнага мастацтва "Okryl". Экспануюцца жывапісныя і дэкаратыўна-сувенірныя творы мастакоў майстэрні "Дом", што ўжо сем гадоў існуе пры псіханеўралагічным інтэрнаце № 3 у Навінках. Студыя, якой кіруе Дар'я Яскевіч, існуе дзякуючы валанцёрам: яны за свой кошт набываюць неабходныя для мастакоў матэрыялы і прылады. Урачыстае адкрыццё новай мастацкай галерэі пачалося паказам пастаноўкі пластычнага тэатра "ІнЖэст" на даху будынка; вернісаж, які суправаджала выступленне музычнага гурта "Порт Моне", ладзіўся ў холе офіса TUT.BY. Артысты ўдзельнічалі ў імпрэзе на дабрачыннай аснове. Арганізатары выстаўкі "Okryl" мелі на мэце паказаць беларусам творчасць таленавітых суайчыннікаў, пра якіх не пішуць у энцыклапедыях, і пераканаць гледачоў у тым, што дэвіянтнае мастацтва не трэба лічыць нейкай экзотыкай: "Многія геніяльныя мастакі — напрыклад, Ван Гог, Маціс, Чурлёніс — пакутавалі ад шызафрэніі, дэпрэсіі, МДП, алкагалізму, эпілепсіі, іншых нервовых і псіхічных адхіленняў, што не перашкаджала ім ствараць шэдэўры, якія ўпрыгожваюць сёння найбуйнейшыя музеі свету і прадаюцца за велізарныя грошы. Шматлікія эксперыменты паказалі, што нават эрудзіраваныя аматары жывапісу не здатныя адрозніць непадпісаныя шэдэўры вялікіх ад узораў дэвіянтнага мастацтва. Варта прытым заўважыць, што ўсялякая геніяльнасць — гэта заўжды адхіленне ад псіхічнай нормы". Як мяркуе генеральны дырэктар УП "Надёжные программы" (TUT.BY, Hoster.by) Юры Зісер, выстаўка майстэрні "Дом" дае наведвальнікам новай галерэі магчымасць паглядзець на свет крыху іначай — больш цярплівымі, мудрымі і добрымі вачамі. Выстаўленыя на вернісажы экспанаты будуць прададзеныя на аўкцыёне, атрыманыя грошы пойдуць на падтрымку майстэрні "Дом". Экспазіцыі ў Галерэі TUT.BY будуць абнаўляцца 1-2 разы на месяц. Некаторыя творы, па жаданні аўтараў, будуць прадавацца на дабрачынным аўкцыёне, а грошы пералічвацца на рахунак людзей, якія маюць патрэбу ў дапамозе.

## Мары. Акварэльныя

"Чорна-белыя мары" — назва персанальнай выстаўкі Вячаслава Паўлаўца, што адкрылася ў Магілёве, у філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі — музеі В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Даследчыкі творчасці Вячаслава Паўлаўца лічаць яго адным з лідэраў беларускай акварэльнай школы і перакананыя, што яго творы вылучаюцца і пазнаюцца ў кантэксце любой мастацкай выстаўкі. У гарманічным Сусвеце творчасці гэтага майстра заўважны матыў дарогі, які ўвасабляецца то ў прысадах колішняй панскай сядзібы, то ў танюткай палявой сцяжынцы, то ў загадкавых слядах на снегавым палатне... Выстаўка Вячаслава Паўлаўца прабудзе ў Магілёве да канца лета.

## Маляваныя карты

У кандыдата тэхнічных навук Рубена Атаяна рэдкасны талент мастака-картографа. Ён умее паказаць выгляд населенага пункта зверху настолькі дэталёва і дакладна, з такой глыбінёй, што, разглядаючы выяву, можна знайсці канкрэтны дом, а то і вокны пэўнай кватэры. Скончыўшы ў 1976-м Маскоўскі інстытут інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымак і картаграфіі, Рубен Атаян працаваў у Тбілісі, Ерэване, а з 1990 года — у Мінску, у Беларускім картографа-геадэзічным прадпрыемстве і выдавецтве "Рифтур". З 1987 года ім створана каля сотні маляваных панарамных карт рэгіёнаў, гарадоў, курортаў (гэта Арменія, Беларусь, Сіцылія, Кіпр, Крымскі паўвостраў, Ерэван, Масква, Мінск, Кіеў, Вільнюс, Варшава, Берлін, Венецыя, Ватыкан, Іерусалім ды інш.), замкаў Беларусі, Літвы ды Польшчы. Рубен Атаян неаднойчы ўдзельнічаў у міжнародных картаграфічных канферэнцыях і выстаўках, у міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў Франкфурце-на-Майне, ладзіў персанальныя выставачныя праекты. А нядаўна ў філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі "Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва I паловы XIX стагоддзя" адкрылася выстаўка работ Рубена Атаяна. Прадстаўлена 50 панарамных карт, напісаных акварэллю і тушшу ў тэхніцы старадаўніх італьянскіх майстроў. Экспазіцыя працягнецца да 20 верасня.

Лана ІВАНОВА



А. Асядоўскі "Над Бугам".

# Традыцыйная самабытнасць

Нацыянальны гістарычны музей Беларусі на працягу года ладзіць шэраг цікавых мерапрыемстваў і выставачных праектаў, прымеркаваных да 65-годдзя Перамогі. Напярэдадні Дня Незалежнасці тут адкрылася выстаўка мастацкіх твораў "Помніць зямля беларуская", арганізаваная аб'яднаннем "Традыцыя" Беларускага саюза мастакоў пры падтрымцы Міністэрства культуры нашай краіны. У экспазіцыі прадстаўлены творы дваццаці аднаго мастака, выкананыя ў розных жанрах: сюжэтна-тэматычная карціна, пейзаж, нацюрморт, партрэт. Ініцыятарамі правядзення выстаўкі выступілі вядомыя майстры выяўленчага мастацтва, якія ўваходзяць у аб'яднанне "Традыцыя": М. Апіёк, У. Уродніч, В. Барабанцаў.

Дырэктар гістарычнага музея Сяргей Вечар зазначыў, што падобныя вернісажы ніяк не дублююць Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, а дапаўняюць у зноў-такі ж мастацкім плане. Увогуле, гэта станоўчая практыка, калі мастакі згуртоўваюцца ў суполкі па сваіх прыхільнасцях і поглядах на творчасць.

Галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка адзначыў, што слова "традыцыя" (ад лацінскага traditio — перадача, паданне) у шырокім сэнсе — культурная спадчына народаў, сусветных і рэгіянальных цывілізацый, якія актуалізуюцца ў кантэксце сучаснасці, служаць асновай для развіцця нацыянальнай культуры і надаюць ёй цэласнасць і самабытнасць. Група мастакоў узяла на сябе такую складаную ношу, як перадача асноўных, базісных каштоўнасцей, якія ўвасобленыя ў карцінах, не толькі сваім калегам, але і ўсім грамадзянам.

Дэкан мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кіраўнік аб'яднання "Традыцыя" Уладзімір Уродніч паведаміў прысутным, што ў нядаўна створаную суполку ўваходзяць 28 чалавек, якія ў сваёй творчасці спавядаюць рэалістычнае мастацтва і якія ўзялі на сябе адказнасць за тое, каб захаваць важныя, дарагія і мастаку, і гледачу напрацаваныя нашымі папярэднікамі тэндэнцыі рэалістычнай традыцыі. У сваю чаргу кіраўнік студыі ваенных мастакоў пры Цэнтральным Доме афіцэраў Мікалай Апіёк падкрэсліў, што аснову суполкі "Традыцыя" складаюць дзесяць чалавек з ачольваемай ім студыі.

Мастакі аб'яднання ў сваёй творчасці прытрымліваюцца рэалістычных традыцый. Кожны з твораў грунтоўна асэнсаваны аўтарамі, даведзены да максімальнага вырашэння як у кампазіцыйным плане, так і ў каларыстычнай гаме. Галоўным сімвалам развіцця мастакі лічаць наступныя прынцыпы: мастацкая праўда, рэалістычны метад адлюстравання, сцвярджэнне дабра, выяўленне лепшых чалавечых якасцей беларусаў. Яны з павагай адносяцца да традыцыйнага пласту жывапісу і іншых плыняў мастацтва, ставяць сваёй задачай працягваць у новых палотнах тэму гераічнай барацьбы савецкіх воінаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, а таксама адлюстроўваюць жыццё грамадства, якое будуе сёння новую самастойную дзяржаву, стварае сваю культуру і мастацтва на падмурку, закладзеным нашымі папярэднікамі.

Увазе наведвальнікаў прадстаўлены работы абарончай, ваеннай тэматыкі, няпростага лёсу беларускай зямлі, прыкладам, "На берагах Нямігі" Г. Паплаўскага, "Гераічны мажайскі дэсант" С. Федарэнкі, "Час цвіцення лілей" У. Уродніча... Як напамін пра ваеннае ліхалецце ў мірны час: "Бярозавы шум" У. Уродніча, "Крэпасць над Бугам" Л. Дударэнкі, "Кветкі ветэранам" А. Каласенцавай, "Над Бугам" А. Асядоўскага, "Мірнае неба над Мінскам. Прысвячэнне дзеду Ягору, які загінуў у 1944-м" А. Аракчэевай. Прыцягваюць увагу рэалістычныя краявіды, пейзажы, нацюрморты, партрэты: "Юбілейныя кветкі" Б. Аракчэева, "Лета" У. Гардзеенкі, "На эцюдах" М. Данцыга, "Кватнярка" Ю. Крупянкова, "Кветкі радзімы" В. Барабанцава, "Майскі дзень" К. Шастоўскага, "Ракаў" М. Меранкова, "Пейзаж: вечар на Волме" Я. Шыбнёва, "Радасць жыцця" А. Панцюка-Жукоўскага, "Жнівень" У. Новака, "Партрэт паэта Уладзіміра Карызны" В. Барабанцава...

Разумеючы меру адказнасці за захаванне традыцыйнага станковага жывапісу, тэматычнай карціны, партрэта, пейзажу, выкананых у рэалістычнай манеры, група мастакоў хацела б звярнуць увагу грамадскасці, што дадзены від творчасці найбольш блізкі да асноў нашай духоўнасці. У групе, у асноўным, сабраліся аднадумцы, якія дзейнічаюць у межах задач, пастаўленых саюзам мастакоў. Яны — не замкнёнае кола. Да іх ініцыятывы могуць далучацца ўсе, для каго найперш важнымі з'яўляюцца рэалістычнае мастацтва і грамадзянская пазіцыя.

Да слова, пасля Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі выстаўка "Помніць зямля беларуская" будзе экспанавацца ў розных гарадах нашай краіны. Ужо пры канцы ліпеня яе сустрэне Орша, потым Віцебск, Магілёў, Светлагорск...

Віктар КАВАЛЁЎ
Фота аўтара



А. Аракчэева "Мірнае неба над Мінскам. Прысвячэнне дзеду Ягору, які загінуў у 1944-м".



У. Уродніч "Час цвіцення лілей".



М. Данцыг "На эцюдах".

# У аўторак, 13-га...

## Зеляніна папрэ, дах паедзе, а салома пакажа сваё патаемнае жыццё

**Жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, інсталяцыя, перформанс, музыка, аўтарскія праекты — усё, на што здатная творчая фантазія, і нават тое, што ўявіць немагчыма, будзе прадстаўлена ў сталічным Палацы мастацтва падчас фестывалю, які пройдзе тут з 13 ліпеня па 4 жніўня.**

"Арт-сегмент" — пад такой назвай праводзіцца гэты рэспубліканскі фестываль мастацтваў. І тлумачыцца яго назва проста: уся творчая разнастайнасць, што разгорнецца ў выставачнай прасторы палаца, будзе, калі так можна сказаць, упарадкаваная ў некалькіх арт-сегментах — мастацкіх праектах. Якіх жа?

У зале графікі плануецца прадставіць два праекты, злучаныя канцэптуальна. Экспазіцыйна-адукацыйны — "Сучасная скульптура: іншы погляд", куратар Вольга Дзмітрыева, ды "Фотавымярэнне", куратар Ганна Самарская. Скульптура, якая раней уяўляла сабою адну з найбольш кансерватыўных формаў мастацтва, даўно перарасла межы дазволенага ёй пастамента і ўсё больш адлюстроўвае сучасныя сацыяльныя ды агульнакультурныя тэндэнцыі, набывае трансдысцыплінарны характар, злучаючы фармальную і авангардную скульптуру, фатаграфію і перформанс, відэа і аўдыё, дызайн і жывапіс. "Фотавымярэнне" прадэманструе работы сённяшніх айчынных фатографаў, неабыякавых да сацыяльных аспектаў дыялога скульптуры і фатаграфіі: нашу сацыяльную памяць фарміруюць сёння скульптурная спадчына савецкай эпохі ды паступовае запаўненне гарадскога ландшафта трохмернымі матрункамі, жукамі, паўлінамі... У праекце ўдзельнічаюць прафесійныя беларускія скульптары, мастацтвазнаўцы, арт-крытыкі, эксперты ў галіне сучаснага мастацтва, фатографы, супрацоўнікі вядучых музеяў і мастацкіх галерэй.

Таксама два праекты размесцяцца ў зале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: "Патаемнае жыццё саломы" Артура Клінава і "Зеляніна прэ!!!" ("Зелень прёт!!!") Вольгі Сазыкінай. Беларускім унёскам у скарбніцу сусветнага сучаснага мастацтва называюць спецыялісты цыкл саламяных праектаў Артура Клінава "Салодкае саламянае жыццё", "Саламяная Імперыя", "Патаемнае жыццё саломы". Мастак інтэрпрэтуе навакольны свет: побытавыя жанравыя сцэны, антычныя руіны, архітэктурныя формы, карціны класікаў праз існа беларускі матэрыял — салому. Аб'екты гэтых інтэрпрэтацый набываюць у выніку новае філасофскае вымярэнне. Саламяны свет Артура Клінава ўспрымаецца як гульня сэнсаў на мяжы залатой велічы цывілізацыі і распаду матэрыі, вабнасці і тхліны, біблейскага напаміну пра хуткаплыннасць ды хісткасць усяго зямнога. Пра свой праект "Зеляніна прэ!!!" мастачка Вольга Сазыкіна кажа так: "У дынаміцы росту, рэальна прадстаўленай у экспазіцыі, і ўсюдыіснага зялёнага колеру хацелася б зафіксаваць сувязь у сістэме тоеснасці з'явы і яе вобразу ў душы. Зеляніна ўзрывае асфальт. Займае прастору кватэр. Прарастае праз дахі дамоў. Раслліннае жыццё паглынае, як акіян... Зямля, перамешваючыся з вадой і ветрам, прымае семя і нараджае — СТЫХІЮ ЗЯЛЁНАГА...".

Пад кодавай назвай "Цёмныя таямніцы Мозгу (mageia cerebrum)" у зале жывапісу разгорнецца міжнародны фестываль ненеэксперыментальнага мастацтва "Дах-11". Яго арганізатары Мітрыч і Дзю нагадваюць, што міжнародны фестываль ненеэксперыментальнага мастацтва "Дах" упершыню быў праведзены ў 2001 годзе ў знаным берлінскім кунстхаўзе "Тахелес". З таго часу "Дах" амаль штогод "едзе" або ў Мінску, або ў Берліне. Летась ён узняўся на новы ўзровень, згуртаваўшы вакол сябе творцаў з 11 краін. Сёлетні "Дах" зноў збярэ мноства мастакоў, якія эксперыментуюць са словам, гукам, жэстам, фарбамі. "Людзі павінны быць удзячныя прыродзе, што яна стварыла іх усіх рознымі. Рознымі не толькі вонкава, але і па здольнасцях да ўспрымання гуку, колеру, святла, смаку і г.д. Гэтая розніца ўспрымання адных і тых жа рэчаў з'яўляецца асноўнай, якая абапіраецца на адукацыю, выхаванне, "нагледжанасць", "наслуханасць", начытанасць... Без разумення ўсіх гэтых умоў нельга ўразумець такі роскід у ацэнках адной і той жа з'явы рознымі людзьмі, групамі або грамадскасцю... Асабліва гэта датычыць ацэнкі твораў мастацтва, што і малюе агульную карціну ўспрымання..." — сцвярджаюць куратары праекта.

"Just now" — адзін з незалежных выставачных праектаў віцебскіх мастакоў, які будзе ажыццёўлены ў межах фестывалю "Арт-сегмент". У 2006-м ён стартаваў у Віцебску, у 2008-м адбыўся ў сталіцы, сцвердзіўшы сябе не як мясцовы, а як найцікавейшы беларускі праект. "Just now-3" у Мінску (куратар і ўдзельнік праекта Галіна Васільева) — творчасць 10 аўтараў: art povera і арт-кніга, неамінімалістыка і неасупрэматызм, аўтарская ручная папера, канструктыўнае мастацтва, калаж... "Гэта варта паглядзець. Бо мы шукаем час, каб знайсці нас і сябе", — мяркуе мастацтвазнаўца Ларыса Міхневіч...

Знойдзем жа час, пойдзем, паглядзім! І пашукаем свой "сегмент".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





# Успамін пра бітву

Зусім нядаўна ў Навагрудку прайшоў V фэст сярэднявечнай культуры “Навагрудскі замак-2010”, які ў гэтым годзе быў прысвечаны 600-годдзю знакавай у гісторыі Беларусі падзеі — Грунвальдскай бітве — адной з самых вялікіх і стратэгічна незвычайных бітваў на абшарах Еўропы. Каб прадэманстраваць майстэрства вядзення бою, паўдзельнічаць у рыцарскіх бугуртах, у першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага сабралася больш як 400 сяброў клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі з 11 гарадоў Беларусі, рыцараў з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Чэхіі.

Напярэдадні асноўных святочных мерапрыемстваў у Цэнтральнай раённай бібліятэцы Навагрудка прайшоў “круглы стол” “Грунвальд у гісторыі Беларусі” з удзелам навукоўцаў, дырэктараў музеяў, галоўных рэдактараў часопісаў “Беларуская думка” і “Полымя”. Навукоўцы адзначылі, што за апошні час выпрацаваўся канцэптуальны падыход да вывучэння Грунвальдскай бітвы, з’явіліся новыя працы па гэтай тэматыцы, маладым даследчыкам Русланам Гагуа нядаўна была абаронена кандыдацкая дысертацыя, у якой выкладзены смелыя думкі пра Грунвальдскую бітву, яе ролю ў гісторыі нашай краіны. Выйшла і манаграфія гэтага аўтара, якая для маладых навукоўцаў можа стаць крыніцай, штуршком для далейшых даследаванняў.

Акадэмік, доктар гістарычных навук, прафесар Міхаіл Касцюк, сам ураджэнец Навагрудчыны, падчас абмеркавання падкрэсліў: “Мне ўяўляецца, што гэтая вялікая перамога саюзнага войска на Грунвальдскім полі — не спантанная, а заканамерная. Менавіта так павінен быў закончыцца канфлікт, які працягваўся каля 150 год паміж Тэўтонскім ордэнам і насельніцтвам жамойцкіх, беларускіх і іншых зямель. Вельмі прыемна, што сёння ў асэнсаванні Грунвальда спалучаюцца навуковы і мастацкі падыходы. Гэта важна для папулярызацыі нашай гісторыі. Зусім заканамерна, што мерапрыемствы, прысвечаныя такой падзеі, як Грунвальдская бітва, адбываюцца менавіта ў Навагрудку. Бо гэты горад — першая сталіца Вялікага княства Літоўскага, ды і на самой бітве на Грунвальдскім полі Наваградская зямля была прадстаўлена асобнай харугвай. Добра, што цяпер традыцыі правядзення фэстаў сярэднявечнай культуры не толькі пашыраюцца, але і паглыбляюцца праз такія маштабныя мерапрыемствы. Вельмі прыемна, што тэма Грунвальдскай бітвы цікавіць не толькі нас, навукоўцаў, але і пісьменнікаў, мастакоў, якія яе асэнсоўваюць па-іншаму, з доляй мастацкага вымыслу”.

Падчас адкрыцця фэсту па адной з цэнтральных вуліц Навагрудка прайшло незвычайнае тэатралізаванае шэсце, удзельнікамі якога сталі і князь Вітаўт і кароль Ягайла на конях у атачэнні світы.



Фестывальныя мерапрыемствы праходзілі на некалькіх пляцоўках на працягу двух дзён. На Замкавай гары разгарнулася “Рысталішча”, дзе адбываліся паказальныя выступленні клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, каскадзёраў, музыкантаў, ладзіліся майстар-класы па сярэднявечных танцах. Так, госці фестывалю мелі магчымасць навучыцца танцаваць Scarasula marasula — адмысловы еўрапейскі танец XVI ст.; стаць сведкамі рыцарскага турніру, а дзяўчаты маглі ў адначассе (але, праўда, і на некалькі хвілін) стаць дамамі сэрца сапраўдных воінаў падчас паказальнага выступлення Рыцарскага брацтва Тракайскага замка (Літва).

На плошчы Малы замак працаваў сярэднявечны кірмаш, дзе можна было набыць вырабы са скуры, металу, дрэва, пакаштаваць стравы сярэднявечнай кухні, пастраляць з лука, пабачыць вандроўных музыкаў, паназіраць за працай каваля і ганчара, на ганчарным крузе пад пільным кіраўніцтвам майстра ўласнаручна зрабіць гліняны збанок. Тут жа размяшчалася і “Батлейка” Пана Скіргайлы, на прадстаўленні якой можна было пабачыць пастаноўку “Здані з батлеечнай скрыні” — новую інтэрпрэтацыю беларускай батлейкі “Цар Ірад”.

Асноўныя “рыцарскія” мерапрыемствы праходзілі ў рове ля Замкавай гары: беларускі этап адкрытага Кубка Еўропы па гістарычным фехтаванні, пераможцам якога стаў Сяргей Уколаў з Расіі, конны турнір, традыцыйны рыцарскі бугурт, турнір лучнікаў, а таксама кульмінацыя фэсту — інсцэніроўка, прысвечаная 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.

У кінатэатры “Звязда” дэманстраваліся фільмы гістарычнай тэматыкі, у Фарным касцёле прайшла прэзентацыя фантазіі А. Каροткінай “Грунвальд” для аргана і ўдарных інструментаў, у доме-музеі Адама Міцкевіча ладзілася калектыўная фотавыстава “Успамін пра Грунвальд”…

Падчас фестывалю ў Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі праходзіла выстаўка адной карціны — работы Яна Матэйкі “Грунвальдская бітва”. Тут жа адбылася і прэзентацыя кнігі Анатоля Бутэвіча “Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Новагародку”, што нядаўна пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Падзеі гэтага рамана адбываюцца ў Вялікім княстве Літоўскім, на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у перыяд, які сам аўтар называе “ад Крэўскай да Люблінскай уніі”. Кніга выклікала асаблівую цікавасць у прадстаўнікоў згуртаванняў беларусаў у Санкт-Пецярбургу, Кішынёве (Малдова), Даўгаўпілсе (Латвія). Яны зазначылі, што мастацкія творы, якія адкрываюць невядомыя старонкі беларускай гісторыі, паказваюць мастацкае асэнсаванне мінулага, дапамагаюць станаўленню нацыянальнай самасвядомасці. Ды і фэсты сярэднявечнай культуры, асабліва прымеркаваныя да знакавых падзей беларускай і еўрапейскай гісторыі, што праводзяцца ў гарадах з багатым мінулым, садзейнічаюць разуменню нашай мінуўшчыны, наближэнню да сваіх каранёў, схаваных у глыбіні часоў, у Сярэднявеччы.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: святочнае тэатралізаванае шэсце; на вуліцах Навагрудка ў дні фестывалю можна было сустрэць нават тэўтонцаў; у час паказальнага выступлення Рыцарскага брацтва Тракайскага замка (Літва).

Фота аўтара

## У наступным нумары

Рубрыка “Абмеркаванне”. У полі зроку крытыкаў на гэты раз — аповесць Маргарыты Прохар “Восень у Вільнюсе”, што нядаўна пабачыла свет на старонках часопіса “Маладосць”. Выявіць вартасці і недахопы твора спрабуюць Лада Алейнік, Саша Дорская, Ціхан Чарнякевіч і Марыя Шамякіна. Ці магчыма спалучыць лірычную прозу і дэтэктыў? Філасофскае і банальнае ў мастацкім творы — дзе праходзіць мяжа? Што такое жанр “чырвонага закату”? — адказы на гэтыя і іншыя пытанні чакаюць чытача.

З глыбінкі

## Культурная сталіца Палесся

На дзень у яе ператварыўся Лунінец, дзе на базе горада і раёна адбылася выязная калегія ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама на чале з начальнікам Рыгорам Бысюком.

Пленарнае пасяджэнне правялі ў абноўленай актавай зале цэнтральнай бібліятэкі. Пасля разгляду шэрага пытанняў узнагародзілі лепшыя калектывы. Абласны Дыплом II ступені “За добрую арганізацыю работы па канцэртным і тэатральным абслугоўванні сельскага насельніцтва ў 2009 годзе сярод клубных устаноў” уручаны мясцоваму Дзятлавіцкаму ЦСДК (дырэктар Алена Яскевіч).

Калегію змяніў абласны семінар, пад увагай якога былі ўстановы культуры новага тыпу. Станоўчыя водгукі калег атрымаў рэканструяваны кінатэатр “Кастрычнік” у Лунінцы. На стадыёне “Палессе”, які стаў асноўнай сцэнічнай пляцоўкай раёна, усеагульнае захапленне выклікаў канцэрт народных вакальных і харэаграфічнага калектываў — ансамбляў “Шляхціцы” Лунінецкага ГДК, “Вандроўнікі” Дварэцкага ЦСДК, “Дыямант” Мікашэвіцкага Палаца культуры РУВП “Граніт”.

Наступны прыпынак — Вулькаўскі-1 Цэнтр культуры і народнай творчасці, які сёлета стаў лаўрэатам Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за збор, адраджэнне і захаванне рэгіянальнага фальклору, далучэнне маладога пакалення да нацыянальнай традыцыйнай культуры. Тут хлебам-песнямі-танцамі гасцей сустракаў дзіцячы ўзорны калектыў “Сунічка”. У дзвюх творчых майстэрнях — па ткацтве і вышыўцы — майстар-класы далі вясковыя ўмеліцы. Трыяду прыкладных талентаў стварыла выстава сцэнічных касцюмаў, якія таксама з поспехам выпрабляюць майстрыхі Вулькі-1. Пра багатыя традыцыі захавання ў вёсцы нацыянальнай спадчыны сведчыў відэафільм пра лепшых фальклярыстаў розных пакаленняў. Потым дзеянне перайшло з экрана ў залу, дзе былі накрыты пачастункамі вясельныя сталы. Аматары творчасці з народнага аб’яднання “Жывіца” на чале з Вольгай Мелюх паказалі мясцовы абрад дзялення каравая. Да ўдзелу далучыліся спецыялісты з вобласці, якія ўплялі ў дыялект Вулькі-1 гаворкі розных мясцовасцей Брэстчыны.

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2904
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 8.07.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3254
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686